# АКЦЫЯ
# ЧАСОПІСА «БЕЛАРУСЬ»

УВАГА,
ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА!

**ЗАПРАШАЕМ НА «БІЗНЕС-КАНГРЭС-93» З УДЗЕЛАМ ПРАДСТАЎНІКОЎ ДЗЕЛАВЫХ КОЛАЎ СУСВЕТНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ.**

**Шмат нашых суайчыннікаў выказалі жаданне займець кантакты з дзелавымі людзьмі — бізнесменамі, камерсантамі, менеджэрамі, брокерамі з усіх кантынентаў, і наш часопіс дае згоду дапамагчы ім у гэтым, узяць на сябе ролю арганізатара і каардынатара «Бізнес-кангрэса».**

**Мы гатовы супрацоўнічаць з усімі — у імя садружнасці і ўзаемаразумення паміж дзелавымі коламі Рэспублікі Беларусь і дзелавымі коламі беларускай дыяспары ў блізкім і далёкім замежжы.**

**НАША ПРАПАНОВА — ПРАВЕСЦІ «БІЗНЕС-КАНГРЭС» У МАІ 1993 ГОДА Ў ГОРАДЗЕ МІНСКУ.**

**Сардэчна запрашаем на Беларусь усіх, хто зацікаўлены ў знаёмстве і дзелавых партнёрскіх кантактах з канцэрнамі, фірмамі, заводамі, вытворчымі аб'яднаннямі і камерцыйнымі прадпрыемствамі Рэспублікі Беларусь.**

Калі вы прымаеце наша запрашэнне, паведаміце па пошце або тэлефануйце.

Наш адрас: 220005, Рэспубліка Беларусь, г. Мінск, вул. Захарава, 19, тэл. 33-20-01, 33-02-29, часопіс «Беларусь».

**ЧАКАЕМ ВАШЫХ ВОДГУКАЎ, ШАНОЎНЫЯ СПАДАРЫ!**

*Рэдакцыйны савет*
*часопіса «Беларусь».*

P. S. **У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ МЫ ПАВЕДАМІМ ІМЁНЫ ФУНДАТАРАЎ, ЯКІЯ ВОЗЬМУЦЬ НА СЯБЕ ВЫДАТКІ НА ПРАВЯДЗЕННЕ ГЭТАЙ АКЦЫІ.**

## СТВОРАНЫ АРГАНІЗАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ ПА ПРАВЯДЗЕННЮ «БІЗНЕС-КАНГРЭСА-93» У СКЛАДЗЕ:

1. **Аркадзь БАРОДЗІЧ,** віцэ-прэзідэнт беларуска-канадскай карпарацыі «Каруна»;
2. **Вячаслаў БУРСКІ,** генеральны дырэктар Беларускага оптыка-механічнага аб'яднання;
3. **Уладзімір КАРАГІН,** прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь;
4. **Аркадзь КАЛЯНКЕВІЧ,** дырэктар саўгаса «Маладая гвардыя» Слонімскага раёна;
5. **Іосіф КАЛЮТА,** адказны сакратар часопіса «Беларусь», член таварыства «Беларусь — Канада»;
6. **Віктар ПАНАМАРОЎ,** генеральны дырэктар АДС «Гарант»;
7. **Сяргей ПЕЛІХ,** дырэктар завода аптычнага станкабудавання, г. Смаргонь;
8. **Уладзімір ТАРАНАЎ,** старшыня праўлення — генеральны дырэктар НА «Бабруйскдрэў», прэзідэнт асацыяцыі прадпрыемстваў недзяржаўных форм уласнасці;
9. **Аляксандр ШАБАЛІН,** галоўны рэдактар часопіса «Беларусь», віцэ-прэзідэнт таварыства «Беларусь — ЗША».

**ПА ЎЗАЕМНАЙ ДАМОЎЛЕНАСЦІ АКЦЫЯ ЧАСОПІСА «БЕЛАРУСЬ» «БІЗНЕС-КАНГРЭС-93» АБ'ЯДНОЎВАЕЦЦА З ТРЭЦЯЙ МІНСКАЙ МІЖНАРОДНАЙ ДЗЕЛАВОЙ СУСТРЭЧАЙ «БІЗНЕС БЕЗ ГРАНІЦ», ЯКУЮ НАЛАДЖВАЕ САЮЗ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.**

**БОЛЬШ ПАДРАБЯЗНА ПРА ГЭТА ВЫ ПРАЧЫТАЕЦЕ Ў ЧАРГОВЫМ НУМАРЫ «БЕЛАРУСІ».**



# НА КРЫЛАХ ВЯСНЫ

Здымак Яўгена КОКТЫША.

## ПОМНІК ВЕРАНІЦЫ

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК, паэт



1

Шмат разоў цытаванае, і асабліва паэтамі, «Напачатку было Слова...» я заўсёды ўспрымаю, як «Напачатку была Жанчына». І, мусіць, не толькі я, бо ці не для ўсіх беларускіх літаратараў першасным у фармаванні нацыянальнага светапогляду, падмуркам якому ў нашых варунках служыць мова, з'яўляецца прымат жанчыны, жанчынымаці. Сакраментальнае словазлучэнне «матчына мова» паволі страціла сваё філалагічнае значэнне, сваю ёмістую метафарычнасць, захаваўшы перш за ўсё духоўна-вызначальны і нацыянальна-вызначальны сэнс. Дарэчы, гэта і трэба ўлічваць у нашым штодзённым адстойванні роднага слова. Змаганне за мову-радзіму, за мову-жанчыну вядзе да перамогі. Змаганне ж за мову як за творчы ці ўсяго толькі як за палітычны інструмент — шлях да паражэння.

2

Менш за ўсё мне хочацца ідэалізаваць паэзію калыханак і матуліных казак. Пра гэта сказана ўжо даволі і вершамі, і прозаю. Але заўсёды буду ідэалізаваць тую цудоўную, не дадзеную мужчынам, непасрэднасць, дзякуючы якой беларуская жанчына «цяжэй» развітваецца з роднаю моваю, з родным дыялектам. Жанчына нібыта не прыслухоўваецца да сябе, калі размаўляе, нібыта не заўважае, як яна гаворыць. Яна гаворыць так, як умее. І вось гэты яе выдатны талент, талент непасрэднага маўлення, на працягу стагоддзяў ратаваў нашу мову ад канчатковага знікнення. І выратаваў яе.

А на мужчын-беларусаў (няхай толькі не крыўдзяцца!) больш уплываў комплекс непаўнавартаснасці сваёй мовы. Яны лягчэй падпадалі пад моўны ўціск санавітага суседа —

---

## «МЫ ЖЫВЕМ НА ВАЙНЕ»

Лідзія РЫБАЛКІНА, журналіст



Што з намі дзеецца? Гэта пытанне не дае мне спакою, я ўсё шукаю адказу. Здаецца, вось яно, тое, чым можна растлумачыць непрывабныя праявы нашага жыцця — эгаізм, бязлітаснасць, крайняя жорсткасць... Кожны можа прадоўжыць пералік. Але зірнеш з другога боку — з'яўляецца новае тлумачэнне. А можа, не трэба ўсё вытлумачваць — прымаць як чарговае выпрабаванне нашага духу, маральнай устойлівасці і маліць Бога пранесці міма горкі кубак?..

Пагаворым пра аргумент сілы. Нядаўна была ў камандзіроўцы на Гомельшчыне. Прыехала адтуль і ўсё расказвала знаёмым, што мяне асабліва ўразіла. Папершае, гэты раз я сустрэла больш песімістаў. Па-другое, нарастае раздражненне, нейкая агрэсіўнасць. Вось прыклад. Еду ў машыне, гутару з вадзіцелем. Цікаўлюся, які радыяцыйны фон, як пачуваюць сябе дзеці, якую дапамогу аказваюць улады,— ну пра ўсё тое, што цяпер цікавіць, бадай, кожнага з нас. А ён — сабе нешта шэптам, а мне ўголас: «Трэба аўтамат браць і наводзіць парадак...»

Чаму ж адразу такая крайняя мера? А таму, высвятляецца, што начальства, не зважаючы на людзей, на тое, што народ усё бачыць і ведае, уладкоўвае свае «шкурныя» справы — будуе палацы, хапае грошы ў камерцыйных структурах, карыстаецца пасведчаннямі ліквідатараў чарнобыльскай аварыі, ні разу не пабываўшы ў небяспечнай зоне.

Усё так. Гэтага толькі сляпы не бачыць. Але ж навошта аўтамат? На першы выпадак, вось мікрафон: давай раскажам пра махінатара на ўсю рэспубліку. Не, не згаджаецца. Кажа, у вобласці і так пра гэта ўсе ведаюць — і пракуроры, і высокае начальства, але нічога

---

Валерый ДРАНЧУК, аглядальнік аддзела па пытаннях экалогіі і чалавека

## ШКОЛА ЎРАТУЕ ГРАМАДСТВА, КАЛІ ГРАМАДСТВА ПАДТРЫМАЕ ШКОЛУ



*На гэты светлы звонкі дзень*
*Маршчынкі зрання*
*распрасуеш.*
*Прысядзеш, ціха засумуеш.*
*Цябе сцяжынка павядзе,*
*І ты, магчыма, не пачуеш,*
*Як жоўты лісцік ападзе*
*На пасмачку тваю сівую.*

Гэтыя радкі (прашу прабачэння за самацытату) я даўно, гадоў мо дваццаць таму, прысвяціў сваёй маме — настаўніцы пачатковых класаў. «Звонкі дзень» быў 1 верасня. Напярэдадні мама атрымала з Мінска маю лірычную паштоўку і была, натуральна, вельмі расчулена. Як распавядала пасля, узяла яе ў школу з сабой і нават прачытала дзецям у класе. Я быў шчаслівы: аблашчыў адзін з яе апошніх школьных працоўных верасняў. Шчаслівы і сёння, што яшчэ жыве мая мама і жывуць многія мае настаўнікі. Пенсіянеры. Як яны б самі сказалі, век дажываюць, бо жылі, калі вучылі.

Адчуваю гаркаваты прысмак гэтых слоў, разумею іх крыху ідэалізаваную патэтыку, але бачу за імі простую выснову, што высакародная душа на месцы тады, калі яна шчыруе. І затым. Калі б усе мы, былыя вучні розных узростаў, часцей успаміналі школу, сваіх настаўнікаў (пераважна жанчын), выказвалі ім хоць маленькую долю вялікай удзячнасці (а з гадамі яна ўсё большая) — ім, пэўна, жылосядажывалася б куды весялей.

Але гэта прэлюдыя, не больш. Маю даўнюю слабасць — пра школу пачынаць з лірычнай ноткі. Атрымліваецца чамусьці ў міноры, што дарэчы і цяпер, на фоне апошніх, досыць жорсткіх стасункаў паміж уладамі і сённяшнім беларускім настаўніцт-

рускага або польскага.

У дзяцінстве часта мне даводзілася назіраць і такое — той ці іншы дзядзька, калі быў цвярозы, заўсёды і размаўляў, і сварыўся па-свойму. Аднак пад чаркаю, нават самай лёгкаю,— толькі па-руску.

Жанчыны ж і на вяселлі заставаліся са сваім словам...

### 3

Паэт існуе паміж дзяцінствам і каханнем. Ідучы да свайго кахання, да адзінай жанчыны, ён ідзе ад родных людзей, якія памаглі яму стаць паэтам — паэтам дзяцінства. Каханая — чужая жанчына! — павіннаператварыць яго ў мастака — у паэта кахання і тым самым назаўсёды стаць яму роднай. Калі ж гэтага не адбываецца, талент гіне. Болей таго, паэт, пазбаўлены кахання, можа ўзненавідзець і сваё дзяцінства...

### 4

Хлопчык у чопліках — першыя беларускія словы, не проста пачутыя, а свядома ўспрынятыя мною. Памятаю, як баба Прося падносіла мяне, трохгадовага, да сцяны ў пакоі, на якой быў налеплены малюнак, выразаны з дзіцячага часопіса. На малюнку — танцаваў хлопчык у вялізных чаравіках. Вясёлы няўтомны юны вандроўнік з нейкай еўрапейскай казкі. Баба Прося паказвала на малюнак і, гушкаючы мяне, лагодна прамаўляла: «О-о-о, Лёнічак, хлопчык у чопліках».

Цяпер я ведаю, што чоплікамі яна называла французскі абутак — сабо.

Пасля першых беларускіх слоў быў першы беларускі верш, які я ўспрыняў ужо менавіта як беларускі — «Як Базыль у паходзе канаў...» Верш гэты на памяць прачытала мне мая маці.

І яшчэ адзін успамін.

У 1974 годзе, пагартаўшы мой школьны сшытак, густа спісаны рускімі вершамі, пісьменніца Лідзія Абухава з радасцю адшукала на яго апошніх старонках некалькі рыфмаваных практыкаванняў па-беларуску. «Вот ваш язык, пишите всегда только на нем»,— пачуў я цудоўную параду маскоўскай госці. Было гэта ў Давыд-Гарадку на кватэры маёй настаўніцы па рускай мове.

Дык вось, баба Прося, маці, Лідзія Аляксееўна — тры жанчыны, якія, кожная па-свойму, наблізілі мяне да той чароўнай мяжы, за якою пачыналася паэзія і мая беларускасць. Надзея Дзмітрыеўна і Вера Пятроўна — настаўніцы, якія таксама спрыялі гэтаму.

### 5

Я ўжо даўно на шляху, які вядзе з дзяцінства. Дзяцінства засталося там, у вечна залатым мінулым. І не да яго звернуты мае вершы:

*Ты праплывай заўсёды нада мной*
*І ў ружу завівай маё дыханне,*
*Здзіўляй мяне парнаскаю цаной,*
*Стамляй парнаскім хваляваннем...*

Мяне адольваюць розныя страхі, найгалоўны з якіх — а раптам тое, што ёсць, памылка і, наогул, само каханне — памылка, і я ўзненавіджу сваё дзяцінства, бо мушу буду вярнуцца да яго, не здзейсніўшыся як паэт.

Але мяне супакойвае жаданне дажыць да таго дня, калі ў Мінску, непадалёку ад помніка Максіму Багдановічу, з'явіцца помнік Вераніцы. Тады паэтам дзяцінства, тым паэтам, якім не пашанцавала, якія не сталі паэтамі кахання, будзе куды прынесці свае кветкі.

14 снежня 1992.

---

не робяць. Вось і мой субяседнік не хоча (ці баіцца?) уступаць у барацьбу. Ён ведае, што яго ашукаюць, загавораць зубы ці прыстрашаць. А быў бы аўтамат... Забіў — і не трэба траціць сілы і час на доказ таго, што не патрабуе доказу...

Адкуль такая агрэсіўнасць? На вялікі жаль, вайна стала будзённай рэальнасцю. Мы жывём на вайне, хоць яна пакуль што далёка ад нас. І колькі б мы ні паўтаралі, што мы ўжо самі па сабе, незалежныя, самастойныя, у нашых галовах, у нашых сэрцах усе рэспублікі былога Саюза — усё яшчэ адна дзяржава. І таму, калі ваююць у Грузіі ці ў Азербайджане, гэта кожнага з нас кранае, трывожыць, насцярожвае. Гэта і наша вайна. Але, як ні дзіўна, яна не перасцерагае нас, а як бы падказвае спосаб развязкі складаных сітуацый. Вось што страшна. Калі з адной вёскі чалавек паведамляе ў рэдакцыю, што доўга не працуе радыё: ён заклапочаны не тым, што адрэзаны ад «свету», не чуе, якія законы прыняў Вярхоўны Савет ці якія навіны ў рэспубліцы, а заяўляе: можа, вайна пачалася, а мы не ведаем.

Вайна стала звыклым словам. Дык, можа, нашаму ўраду, дэпутатам трэба задумацца над гэтай з'явай? Высветліць, якія прычыны прымушаюць людзей усё часцей успамінаць пра зброю? Адну прычыну я магу назваць без апытання — гэта хцівасць, карумпіраванасць мясцовых улад, кіраўніцтва. Таму неабходна строга і прынцыпова кантраляваць раёны, што пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі на прадмет справядлівага забеспячэння насельніцтва чыстымі прадуктамі, справядлівага размеркавання гуманітарнай дапамогі і, галоўнае, не прыкрываць, а караць тых, хто пагрэў ці грэе рукі на чалавечай бядзе. У Гомелі мне называлі прозвішчы «льготнікаў», якія не маюць ніякага дачынення да ліквідацыі вынікаў аварыі. Я не прыводжу іх таму, што не змагла ў тую камандзіроўку праверыць факты, хоць упэўнена, што некаторыя правяраць і не трэба,— шыла ў мяшку не ўтоіш. Людзі бачаць і ведаюць. Мне здаецца, строгая праверка і пакаранне бессаромных хапуг — справа абавязковая.

Наша жабрацкае існаванне робіць нас яшчэ і зайздроснікамі, скнарамі. Як гэта сумна. У Гомелі ёсць магазін, дзе мясакамбінат прадае сваю прадукцыю без гандлёвай нацэнкі. Выбар — у Мінску мне не даводзілася бачыць такога асартыменту, да таго ж усё значна таннейшае. І што адметна, тавар ёсць з ранку да вечара. Праўда, трэба выстаяць немалую чаргу. Але ж хапае ўсім. І вось чую, жанчыны ў двары, горача і злосна перакрыкваючы адна адну, нешта абмяркоўваюць. Сэнс іх размовы такі: гэтыя чарнігаўцы ды гэтыя бранскія, чаго яны ўсё вывозяць ад нас?

Так, можа, хто і купіў які батон каўбасы ці рулета. Але, як я ўжо казала, тавар ёсць цэлы дзень, усім хапае. Дый хоць не ў кожнага, але патрабуюць картку спажыўца, у мяне, напрыклад, пыталіся. Ды і недалёка той час, калі амаль увесь Гомель аўтобусамі ездзіў на выхадныя ў Кіеў і Чарнігаў па мяса, каўбасу і іншыя прысмакі, якіх у нас не было. Кажуць, што і там узнікалі сваркі з «машэраўцамі-галадранцамі». Што ж, такое могуць гаварыць толькі галадранцы — беларускія, украінскія ці рускія. І неяк усё радзей успамінаецца, што пасля вайны кавалак хлеба ці бульбіну дзялілі папалам, не пытаючыся анкетных звестак. Усе мы так ці інакш людзі. І людзьмі трэба не толькі звацца, а быць імі.

---

вам, з нагоды якіх і пішуцца гэтыя радкі.

Дзякаваць богу, цяпер пікеты і галадоўкі ўспрымаюцца пераважнай часткай людзей, у тым ліку саноўна-чыноўных, як натуральная форма пратэсту. Інакш зусім бедныя былі б нашы настаўнікі, што мінулай восенню рашуча заявілі пра сваё права «людзьмі звацца». І ўсё ж іх зрэдзь папракалі: як жа, перакрылі гарадскі рух, дзе ваша павага да пасажыраў, сярод якіх інваліды, старыя, дзеці... Пачулі мы гэта і ад паважанага спікера парламента.

Не заўсёды здараецца так, каб нечы боль пераклікаўся з тваім, успрымаўся як свой уласны. Першае, што я зведаў, калі дачуўся пра факт настаўніцкага «бунту»,— пачуццё салідарнасці (можа, трохі сямейнай, але перадусім з павагі да школы і настаўніцтва) і — самае шчымлівае — пачуццё сораму і віны, што **не я, а яны** былі вымушаны пікетаваць, выходзіць на вуліцы і прасіць... за сябе, патрабуючы павышэння заробку. «Прабачце, мае дарагія настаўнікі», абудзілася дзесьці ў душы ва ўнісон пачутаму.

Школа, згадваю шырокавядомую фразу, як і культура, здольная ўратаваць грамадства, калі грамадства падтрымае школу. А значыць — настаўніка. Насуперак усяму я хачу сказаць пра сваю **залежнасць** менавіта ад яго, настаўніка. Не ад спікера, не ад міністра, не ад камерсанта-прадпрымальніка, а ад чалавека, які творыць, фармуе новае пакаленне, адказны за працэс маральнага развіцця ў грамадстве. Я хачу сказаць пра залежнасць не толькі сваю, але і **іх** — спікера, міністра, камерсанта. Сёння як ніколі трэба падтрымаць школу, гэты своеасаблівы рэлікт на фоне «прыватызацыі-ваўчарызацыі»: у недасканаласці яе — і хваробы грамадства, і правалы ў дзяржаўнай сістэме. І настаўнік як бы амартызуе гэтыя цяжкасці, гэты шалёны абвал ліхаманкавых перамен.

Так, сацыяльна абараніць сёння настаўніка — гэта абараніць будучыню. Калі ж нехта сумнявaецца ў прафесійных здольнасцях, педагагічным майстэрстве, прызванні нашых настаўнікаў, няхай прыпадобніцца, напрыклад, Білу Клінтану і праз заканадаўства зацвердзіць прапановы аб экзаменацыйнай праверцы настаўніцкіх кадраў на прафпрыгоднасць. Але дасць ім годны заробак, умовы жыцця і працы, выбавіць з путаў прыгонніцтва, адкінуўшы ўбок лішнія маралізатарскія сентэнцыі накшталт той, што «не хлебам адзіным жыве сапраўдная інтэлігенцыя». Бо хто не ведае, як дзяржава прынізіла настаўніцтва. Не столькі мізэрным заробкам, колькі адносінамі да ягонай працы. Той, хто вучыць, ставіць чалавека на ногі, развівае інтэлект і духоўнасць нацыі, мае за гэта жабрацкія грошы і «прывілею» цярпліва несці свой крыж, гадамі жывучы ў бараках з алкаголікамі ды адзінокімі састарэлымі.

І няхай прабачаць мае дарагія настаўнікі. За тое, што яны самі, а не хтосьці за іх, як належала паводле законаў справядлівасці, адстойвалі сваё права на годнасць прафесіі. У той дзень, калі яны мусілі зрабіць тое, за што пасля папракнуў іх лідэр дзяржавы, я даў сабе слова напісаць хоць некалькі радкоў у іх абарону.

**Мікола МЯТЛІЦКІ**

**Я вяртаўся з Палесся. Паўсюль на атручанай чарнобыльскай бядой зямлі па жыццёвай чалавечай звычцы ўсё яшчэ вяліся веснавыя работы. А душа пярэчыла гэтай сяўбе, надрывалася ад яе злаякаснай сутнасці: у коласе зашугаюць пасеяныя шчыльна нукліды!**

**Ехаў я з Хойнік на Жыткавічы. З усходу на захад. Роўнае палатно дарогі — сонечная прасветліна ў пракаветных лясах — раз-пораз адорвала блікамі нядаўняга шчасця: то вольнае, сцішанае крыло бусла над дарогай, то раптоўна адкрытае азярцо з сінізной плёса... Усё як бы тое, ранейшае. Усё чалавеку на радасць. І камлістыя смольныя сосны. Іх веснавы прэлы дух! Зямля жыла сваёй жывучаю сілай, як бы ўжо не для чалавека, не для ўсяго жывога на ёй. Заставалася гэткай жа вабнай і дзівоснай яе веснавая краса. Ды краса гэтая была ўжо спадманнай, пагрознай для самой чалавечай прысутнасці.**

**І тады ўспомніўся «Дзівасіл». Каля паваротні на Петрыкаў я папрасіў шафёра спыніцца. Шчэціўся пад нагамі ўсохлы сівец. Бярозы Палесся гайдалі неба — бязлістыя вершаліны зліваліся ўверсе ў шэрань. Хацелася хоць крыху падыхаць паветрам радзімы Веры Сямёнаўны Палтаран. Блізіўся дзень яе нараджэння, і ёй, цяжка хворай, думалася перадаць пра тое, што над Палессем, як і заўжды, шчодрае сонца, што яго бярозавыя лясы каля родных яе Бабунічаў прасветленыя наскрозь, што зноў на іх травяным доле прачынаецца дзівасіл — кветка горкай надзеі... Той дзівасіл, які яе шчодры талент вышукаў у паляшуцкай душы, у сціплай, прасоленай не адным горам, чалавечай споведзі.**

**Я не давёз гэтай журліва-сонечнай радасці ў Мінск. Пазваніў з Жыткавіч і пачуў: памерла Вера Сямёнаўна. Памерла ў дзень свайго нараджэння...**

# Яна любіла святло



Так павялося, што ў рэдакцыі крытыкі, літаратуразнаўства і драматургіі выдавецтва «Мастацкая літаратура», якой больш дзесятка гадоў кіравала Вера Палтаран, заўсёды збіраліся глыбокадасведчаныя, сур'ёзныя аўтары. Заходзілі Уладзімір Калеснік, Нічыпар Пашкевіч, Уладзімір Конан, Міхась Мушынскі, Уладзімір Юрэвіч... Гэты круг як бы вызначаўся сам па сабе, але на самай справе быў багата ўшчыльнены вялікім літаратурным густам загадчыцы. Тады ў рэдакцыі вяліся самыя шчырыя, адкрытыя гаворкі. Ішла ацэнка і пераацэнка твораў, пошукі кірункаў у самой крытыцы. Часам нагаворвалася столькі, што мне, навічку, аж дух займала — вось, думаў, ірване наша крытыка на перадавыя пазіцыі, выкажацца развязаным языком! Але... быў час! І хапала запалу толькі на словы. Прытым і ў самой рэдакцыі быў якраз немалы сполах: толькі што «пільнае вока» Галоўліта ўчыталася ў «Спадчыну», пусціла пад нож набор зборніка. З-за «Тутэйшых» Янкі Купалы... Казалі потым, што ў кола рэдакцыйных субяседнікаў трапіў і такі, хто настукаў-данёс куды трэба...

Часам у рэдакцыю як метэор гневу і страху ўрываўся нехта з такіх, чый рукапіс па вядомых для ўсіх, акрамя аднаго аўтара, прычынах пасоўваўся гадамі. Чалавека не ставілі ў план рэдпадрыхтоўкі. І ён, бядак, рабіў гучныя націскі званкамі і пісьмамі высокіх начальнікаў, штурмаваў рэдакцыю, як варожую крэпасць. Вера Сямёнаўна пачынала гаворку першай. Яна старалася ўсяляк улагодзіць пыхлівага чалавека, болей пыталася пра жыццё-быццё, а той нецярпліва чакаў — узведзены, грымучы, як порах,— калі ж яна скажа галоўнае. Галоўнае — у план не ставім! — Вера Сямёнаўна гаварыла знянацку, як бы між іншым... Пачыталі, падумалі...

З рукапісу аднаго з гэткіх аўтараў і пачалася мая праца ў рэдакцыі ў якасці рэдактара. Прызнаюся зараз: гэта быў адзіны рукапіс, выданне якога мне не ўдалося спыніць. Як кажуць: першы блін комам. Потым ужо хапала смеласці падымацца на барыкады аўтарскага напору, багата горкае праўды гаварыць і гэтаму аўтару, і іншым. І толькі дзякуючы ёй, Веры Сямёнаўне, хапала ў душы гэтае сілы. Мы, рэдактары, апасля ўжо, калі па хваробе Вера Сямёнаўна змушана была развітацца з работай, зразумелі спаўна: на які духоўны ўзровень падняты яе густам і працаздольнасцю сам рэдакцыйна-выдавецкі працэс. І як самае дарагое, спадчыннае ўсяляк імкнуліся ўтрымаць гэтую планку. Дый час, здавалася, гэтаму паспрыяе: перабудова, галоснасць. Вось яно спраўдзіцца гаворанае-перагаворанае некалі, выплеснутае на раз у даверлівых рэдакцыйных размовах, выльецца на старонкі! Памятаю, думаю і шкадую: мала чаго спраўдзілася, бягучая крытыка яшчэ болей аглухла, як бы расчаравалася перад тым, што «генералаў літаратурных» паменшала! Іх залатыя пагоны яе, здаецца, і вабілі.

Штораніцы Вера Сямёнаўна спяшалася на працу. Імклівa расчыняліся дзверы рэдакцыі, яна, прасветленая ўся, спынялася

ў парозе, віталася. Заўсёды ў выдатным настроі, часта, думаю, твораным прыроджанай інтэлігентнасцю гэтай высакароднай жанчыны, бо ў жыцці хапала ўсяго. Яна кіравалася да свайго стала, паспеўшы спытаць пра вялікі бягучы рэдакцыйны клопат. Ускінуўшы сумачку на спінку крэсла, усаджвалася і нейкі час маўкліва ўзіралася ў шкліну акна. Потым, адарваўшыся ад звабы гарадскога пейзажу, пачынала звыклы загадчыцкі роспыт: што кім зроблена, як з графікам? Усхвалявана-боязна кладзіся мною на стол загадчыцы адрэдагаваныя рукапісы. І ўжо гадзінамі за сталом Вера Сямёнаўна ўчытвалася ў зробленае намі, рэдактарамі. Калі за нешта нязгледжанае чаплялася яе пільнае вока, нараджалася на полі старонкі ледзь прыкметная птушка. Без праборкі ўсялякай, як невінаватаму, яна рабіла заўвагі. Сама кіравалася адным: лішняе вока рукапісу не шкодзіць. Не адразу і мне, як рэдактару, давялося ўведаць прафесійны давер загадчыцы. А калі ён, давер гэты, і прыйшоў, то аднаго разу ледзьве не разбіўся дарэшты.

Я і сягоння памятаю павучальны для мяне эпізод з рэдакцыйнага жыцця. Рыхтаваўся штогоднік літаратурна-крытычных артыкулаў «Вобраз». Мяне занепакоіла: адзін паважаны крытык, даўшы волю эмоцыям, улез у такую драбнату, што мне, чытачу, сорамна стала за аўтара артыкула. Параіўся з Верай Сямёнаўнай: «Здымем?». Я не паверыў пачутаму: «Пакінем». Вера Сямёнаўна ніколі не загадвала, яна растлумачыла:

— У нас кожны член Саюза пісьменнікаў мае права на сваю думку!

Багата разоў потым я карыстаўся гэтым. Нават аднойчы, калі Вера Сямёнаўна, за даўнасцю забыўшы пра свой аргумент, пачала крэсліць думкі аднаго маладога ды ранняга крытыка, нагадаў ёй яе ж словы. І яна, нямала здзівіўшы мяне, адклала аловак. Залатымі літарамі напісаць бы гэтыя словы. Няхай чытаюць рэдактары. Няхай даюць аўтарам быць самімі сабою. Ведаю, многія аўтары, каб прачыталі сябе ў арыгінале, як гаворыцца, ад сораму пяро ў бок бы шпурнулі. А іншыя, сапраўдныя творцы, вельмі б добра падумалі пра нашу рэдактарскую працу.

Вера Сямёнаўна была загружана работай няшчадна. Яна, здаецца, сама шукала яе. Вопытнейшы стыліст. Уедлівы рэдактар. Памятаю, як некалькі тыдняў чытала-рэдагавала яна тэкст аднаго літаратурнага календара. У рэдакцыі мы засталіся без сведак. «Вера Сямёнаўна,— гавару,— навошта вам гэта, у вас жа свая карэктура на стале». «А, меней смецця ў літаратуры будзе!»

Што і гаварыць, аднойчы і сам, грэшны, скарыстаў гэту яе слабінку. У рэдакцыі паэзіі малады рэдактар «зарэзаў» зборнік вершаў Лёні Галубовіча, які па-сяброўску клопатна рыхтаваўся да выдання. Хлопец-рэдактар, вельмі мне сімпатычны сягоння сваім літаратурным густам, як кажуць, толькі яшчэ ўваходзіў у каляю, адвыкаў ад маскоўскай эстэтыкі. Ен і выбраў з Галубовічавай «Таемнасці агню» з паўаркуша кароценькіх вершаў для калектыўнага зборніка. Я запярэчыў і забраў рукапіс. І вось, засмучаны гаворкай з рэдактарам, вярнуўся ў рэдакцыю крытыкі. Не хацелася хаваць гэты рукапіс — паклаў на край стала. Вера Сямёнаўна, як звычайна, лёгка ўвайшла ў рэдакцыйны пакой. Хацелася выліць усю крыўду ёй. Толькі смеласці не хапіла: як гэта скардзіцца рэдактару на рэдактара?! Рукапіс праляжаў на стале да абеду. Можа тое, што быў не ў настроі, і кінулася Веры Сямёнаўне ў вочы. Але, як і заўсёды, яна спыталася пра другое:

— Што гэта ў цябе за рукапіс на стале?

— Леанід Галубовіч. Апошні вясковы паэт...

— У «ЛіМе» чытала! Здорава! — што вугалькі, успыхнулі вочы Веры Сямёнаўны.— Я пачытаю. Можна?

«Ну вось, Лёня, на самы строгі суд цябе аддаю. Ад думкі Веры Сямёнаўны цяпер будзе залежаць усё. Нават сама агульнавыдавецкая думка».

Я памыліўся толькі ў адным: у гучнасці гэтай думкі. Назаўтра ж Вера Сямёнаўна стала самым вялікім прапагандыстам будучага зборніка. Па-сапраўднаму зачараваная Галубовічавымі вершамі, яна дбайна сям-там прайшлася па слове, падахвоцілася напісаць Слова ў дарогу паэту, усюды, дзе можна было, чытала яго вершы. Хадзіла з рукапісам да Варлена Леанідавіча Бечыка. Потым нават у Дзяржкамвыд хадзіла — аднаму чыноўніку даказвала там вартасці паэзіі Галубовіча пасля кантрольнай чыткі. У парыве свайго захаплення прапанавала пачытаць некалькі вершаў з «Таемнасці агню» прызнанаму эстэту і інтэлектуалу, нашаму супрацоўніку Алесю Разанаву. Той адказаў адназначна: «Дзеравеншчына!» «Не, Алеська!» — відаць, адзін раз у жыцці не пагадзілася з Разанавым Вера Сямёнаўна. Ды і Алесь у другім прачытанні сёе-тое знайшоў у Галубовічу.

Я заўсёды здзіўляўся гэтай рысе Веры Сямёнаўны: любіць аўтараў такіх розных літаратурных кірункаў.

Памятаю, з якім замілаваннем чытала яна «Алімпіяду» Івана Пташнікава. Колькі было гаворак у рэдакцыі пра пташнікаўскі новы твор. Для Веры Сямёнаўны гэта было сапраўднае свята душы. Яна зачынала гаворку ледзь не з кожным наведвальнікам рэдакцыі. Так ёй хацелася, каб адчутая самою радасць перадалася другім. Ды часцей заставалася сам-насам з чутым душой хараством, як пакрыўджаная, абарваная на паўслове дарослымі дзяўчынка. «Ат, Пташнікаў! Яму таго і таго не хапае!» Калі наведвальнік-аўтар, нагаварыўшы з тузін тэорый-развяг, пакідаў рэдакцыйны пакой, куды і сыходзіла ўся лагода нашай загадчыцы. Яна давала волю чутаму душой гневу. Гаварыла ў запале пра тое, што ёсць у Пташнікава і чаго не хапае сягонняшняй літаратуры, якой да глухаты спрошчанай яна стала. Называла шэраг імён і твораў. І зноў, як да нечага святога, свайго, вярталася да Пташнікава. Успамінала яго «Чачыка», «Найдорф», «Мсціжы», згадвала сумесную працу ў «Маладосці», дзе на яе вачах пачынаўся сапраўдны, самабытны празаік. Я не здзівіўся, калі ў часопісе «Беларусь» з'явілася на «Алімпіяду» рэцэнзія Веры Сямёнаўны. Так ёй захацелася выгаварыцца; падзяліцца сваімі думкамі пра новы сапраўдны твор. І вось аднойчы да нас у рэдакцыю завітаў удзячны аўтар «Алімпіяды». Яны сядзелі насупраць — вочы ў вочы. Успаміналі сваю «Маладосць». Багата аб чым гаварылі. Я даўно не бачыў такой прасветленай да глыбіні душы Веры Сямёнаўны. Калі Іван Мікалаевіч пайшоў, яна ўзрушана захадзіла па пакоі. Адно, што і помню, прамовіла:

— Якія яны розныя... Адамовіч і Пташнікаў... А люблю абодвух з аднолькавай сілай. Што гэта са мной?

Якім ударам для нас, супрацоўнікаў выдавецтва, была заўчасная смерць Варлена Леанідавіча Бечыка! Намеснік галоўнага рэдактара, наш непасрэдны кіраўнік, ён кантрольна чытаў падрыхтаваныя для набору рэдакцыяй рукапісы, падпісваў іх у свет. Ен часта заходзіў у рэдакцыю і з той жа пачцівасцю і павагай, такой уласцівай самой Веры Сямёнаўне, ухваляў нашу працу, рабіў часам і заўвагі, раіў, якім чынам лепш вырашыць той або іншы момант. Яго эрудыцыяй і ўлюбёнасцю ў літаратуру мы ўсе былі зачараваны. Вера Сямёнаўна не раз цешылася гэтым уголас. У той трагічны дзень прасядзела яна моўчкі каля свайго акна з вачамі, поўнымі слёз.

Ды ўсё ж мы адчувалі: на працу Вера Сямёнаўна ходзіць з вялікай ахвотай. Нам, рэдактарам, пасядзець бы дома, над рукапісамі пакарпець, ад тэлефонных званкоў адпачыць, а яна нязменна, штодня, бегма ў выдавецтва. Тут, сярод людзей, яе жыццёвая радасць. А калі бязлітасная хвароба спыніла крок гэты, прыкавала Веру Сямёнаўну да ложка, то спаўна зразумелі і мы, чым была для гэтай душэўнай сціплай жанчыны работа. Як рупілася ёй аддаць болей і болей усім нам — рэдактарам і аўтарам. А пра тое, што гэты клопат яе турбаваў, скажа хоць бы такое.

Усё часцей у апошні год працы Вера Сямёнаўна кідалася ва ўспаміны. Перабірала ў нас на вачах сваё жыццё да драбніц. Бы ваду з калодзежа, чыстую, прахалодную, чэрпала яе душа згадкі з даўніх глыбінь. І з намі дзялілася скарбамі жыццёвымі шчодра. З гумарам. Колькі гаворак было пра апаленае ліхалеццем вайны юнацтва на Волзе... Пра падмаскоўную Сходню... Універсітэт... Вера Сямёнаўна была здатная апавядальніца.

Была вясна 1986-га года. Атамная вясна Беларусі. Я выразна памятаю тую шчодрую на сонца красавіцкую раніцу, працятую наскрозь чарнобыльскімі рэнтгенамі. Постаць Веры Сямёнаўны перад акном — на праменях радыяцыі. Магчыма тая раніца, яе святлынь, адкрытае чалавечаму сэрцу хараство вясны і сталася прычынай вострай раптоўнай хваробы. І калі зноў і зноў падыходжу да яе стала, узіраюся ў тое ж акно, у шкліну якога падоўгу яна ўзіралася, болей і болей пытаюся ў самога сябе: што ж вабіла так за акном яе прачулую душу, што знаходзілі яе вочы? Магчыма, чарапічныя дахі адрэстаўрыраванага старога горада, як даўняя памяць аб продках, або свіслацкі плёс у бетоне... А можа залачоныя крыжы царквы, што анёльскія крыльцы ў святле. Мабыць, гэта і ёсць тое — яе самая вялікая любоў за акном. А доўгія позіркі, маўчанне — споведзь перад Богам і светам.

***Мінаюць гады. І ў кожнай новай вандроўцы на Палессе я знаходжу хвіліну, каб пастаяць над спаконвечнай лагодай Прыпяці, спаткацца са святлом, душой тае палящучкі, каму выпала ўзняць над усёй Белай Руссю някметкую кветчыну дзівасілу, паратунак ад злыбед былых і злыбед наступных...***

Афармленне Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

# «МАЁ МАСТАЦТВА — ПТУШКА ПЯВУЧАЯ...»

*Таямнічы жаночы лёс. З чаго ён складаецца? Няўжо ў ім, за ім — толькі маладосць, замужжа — хата, праца і праца? Не, бо жанчыну натхняе моцны агонь пачуццяў, ёй уласціва тонкае адчуванне прыгажосці. І заўсёды — жаданне ўзлёту, самаахвярнасць, гатоўнасць ісці насустрач свайму шчасцю цераз усе выпрабаванні: ці да любімага чалавека, ці да права на творчасць, што для яе раўнацэнна.*

Калі жанчына знаходзіць сваю мэту, яна ўкладвае ў яе дасягненне ўсю сілу душы. Вось чаму ў карцінах Зоі Літвінавай такая моц, вось чаму яе жывапіс захоўвае і выяўляе духоўную сутнасць чалавека, паўстае непаўторным, загадкавым Сусветам. Нават колер яна ўспрымае як відавочнае ўвасабленне ўзвышаных і драматычных імгненняў духу, калі жывапісныя і філасофскія сімвалы сплаўляюцца ў эстэтычныя катэгорыі.

Літвінава па маштабу свайго мыслення, светапогляду — мастак-манументаліст, што не зусім звычайна для жанчыны, і ў манументальных работах арганічна асвойвае архітэктурную прастору, творачы пераканаўчы вобраз роднай зямлі. Значнасць і велічнасць тэм уласцівы яе станковым працам: за матэрыяй яна адчувае магутны, формаўтвараючы дух і шукае мастацкія сродкі, каб перадаць тое, што ўбачыла ўнутраным зрокам.

— Да мастацтва я стаўлюся як да рэальнасці,— гаворыць Зоя Літвінава.— Але рэальнасці духоўнага жыцця, якое існуе і існавала заўсёды. Калі мастак ставіць задачу паказаць у карціне толькі тое, што бачыць яго вока, то ён хутчэй капіроўшчык, чым творца. Трэба прарывацца праз догмы натуры (тым больш, што існуе вопыт мінулых культур), каб прыйсці да новай пластычнасці, адчуць той вялікі загадкавы сэнс, які стаіць за ўсім відавочным. Але такі свабодны палёт дасягаецца, як я разумею, нястомнаю працай — прафесійнай і духоўнай. Інакш усё ператворыцца ў схему.

Да катэгорый Спрадвечнасці мастак ідзе праз нацыянальныя асаблівасці. Вывучэнне жывапіснай школы Беларусі пачатку стагоддзя значна паўплывала на Літвінаву. У сваіх карцінах яна распрацоўвае каларыстычную гаму, уласцівую народнаму арнаменту, піша з тым адчуваннем, з якім некалі ткалі народныя майстрыхі ручнікі ці вышывалі кашулі — не дзеля адной прыгажосці, але заклікаючы, заваблiваючы ў хату сілы дабра.

Прынцып традыцыйнага мастацтва — ствараць не рэч, а непаўторны цэласны Сусвет — становіцца прынцыпам яе творчасці, вясёлка арнаменту пераходзіць у вясёлку адноўленага неба, што пераўтварае зямныя краявіды ў Град нябесны. Глыбіню жывапіснай прасторы яна ўспрымае як увасабленне глыбіні пачуццяў, дасягае яе праз гучанне колеру, праз яго напоўненасць і пластыку.

Шлях Зоі Літвінавай у мастацтве — гэта шлях пошукаў і эксперыментаў. Яшчэ ў 70-я гады яна зазірнула ў таямніцы напісання фаюмскіх партрэтаў, якія былі знойдзены ля Егіпта, былой ускраіны Рымскай імперыі, і адносяцца да пачатку нашай эры. Яны здавён уражвалі даследчыкаў незвычайнай глыбінёй колеру, што надае намаляваным вачам эфект жывога позірку,— і гэта амаль праз два тысячагоддзі!

Сакрэт трываласці і глыбіні фарбаў выявіўся ў самой жывапіснай тэхніцы, якая атрымала назву «энкаўстыка», што значыць васковы жывапіс. Каб карыстацца гэтым метадам, трэба кожны колер спалучаць з воскам, асцярожна награваць на агні ў металічных цэгліках і працаваць ім, покуль воск мяккі, падтрымліваючы агонь. Разам са Святланай Катковай Літвінава выконвае ў гэтай складанай тэхніцы роспісы інтэр'ераў грамадскіх будынкаў, адзін з якіх напаткаў трагічны лёс.

Роспіс быў зроблены ў Інстытуце кібернетыкі АН Беларусі на плошчы ў некалькі дзесяткаў квадратных метраў і прызнаны выдатнай з'явай сучаснага беларускага мастацтва. Але — трэба ж! — мастацкі твор не прыйшоўся да густу аднаму адміністратару, і, пераканаsuccessfully, што знаходзіцца ў сваёй уласнай вотчыне, ён аддаў загад роспіс знішчыць. І знішчылі — паяльнымі лямпамі. Цяпер сцяна пакрыта роўнай тынкоўкай, нібыта ў грамадскай прыбіральні. Сёння такое дзікунства магло здарыцца толькі ў нашай краіне. Горка і сорамна.

— Гістарычны вопыт паказвае,— зазначае Літвінава,— што, калі дзяржава знаходзіцца ў росквіце, у ёй высока ўзнімаецца значэнне мастака, музыканта, філосафа. Сапраўдная адукаванасць, культура проста неабходны тым, хто трымае ўладу. Былі імператары-паэты, імператары-музыканты...

Каб грамадства выжыла, трэба адчуваць у ім непарушны духоўны грунт. Некалі для людзей такім апірышчам было Евангелле. Сваё адрачэнне ад саміх сябе мы пачалі з адмовы ад гісторыі чалавецтва, адвечных ісцін. Галоўнае пытанне цяпер: як нам вярнуцца да іх?

Думаецца, нездарма ў жывапісе Літвінавай пачынае адраджацца спрадвечнае разуменне хрысціянскіх свят, якія ўвасаблялі нястрымную, непасрэдную радасць жыцця, уваскрашэнне надзей — праз пераадольванне смерці. Серыі карцін «Анёлы і птушкі», «Жанчыны і дзеці», біблейскі цыкл былі створаны мастаком за тыя гады, што адлічвае на нашай зямлі чарнобыльская бяда. Вера ў людзей, якія застаюцца імі нават у цяжкіх, несправядлівых умовах,— галоўны матыў гэтых прац. Гэтых і іншых... Усёю творчасцю сваёю сцвярджае Зоя Літвінава права душы на палёт, права яе на надзею. Нават калі чуеш толькі яе ціхі плач ці яе маўчанне.

**Ларыса САЛОДКІНА.**





ФОТАРЭПАРТАЖ ВІКТАРА ЖЫЛІНА З АДДЗЯЛЕННЯ ЎДАРНАХВАЛЕВАЙ ЛІТАТРЫПСІІ 4-Й КЛІНІЧНАЙ БАЛЬНІЦЫ Г. МІНСКА

# АПЕРАЦЫЯ

Нехта са старажытных мужоў, схільны да алегорый, зрабіў філасофскую выснову: «Кроў людская — гэта рака жыцця». І калі мы распачынаем гаворку пра хірургічную аперацыю, зноў жа ў нас на слыху ўсё тыя ж словы — «аперацыйны стол», «наркоз», «скальпель», «кроў»...

А ці можна правесці аперацыю без скальпеля? Без крыві? Можна!

Сёння фотажурналіст Віктар Жылін дае чытачам унікальную магчымасць бліжэй пазнаёміцца з аперацыяй па драбненню камянёў, якую праводзіць брыгада ўрачоў на чале з загадчыкам лабараторыі ўрачом-уролагам Анатолем Фёдаравічам Барадзеняй.

Менавіта ў часе аперацыі па дыстан-



**● Да аперацыі засталося некалькі хвілін, і ўся брыгада ўрачоў — сама засяроджанасць...**



цыйнаму каменедрабленню ў руцэ хірурга вы не ўбачыце традыцыйнага скальпеля, бо ён, урач-уролаг, умела маніпуліруе не скальпелем, а кнопкамі медыцынскага апарата пад загадкавай назваю «Урат-П», апарата, аснашчанага «гарматай», якая наносіць трапныя гідраўлічныя ўдары і, такім чынам, крышыць камяні ў нырках хворага.

Пагадзіцеся: аперацыя без скальпеля — гэта маленькі цуд. І хаця сцвярджаюць, што цудаў на свеце няма, дакументальныя кадры сведчаць аб адваротным: цуды здараюцца, бо вось жа ёсць стваральнікі апарата для дыстанцыйнага каменедраблення «Урат-П» і працуюць урачы, такія як Барадзеня і яго калегі.









● Загадчык лабараторыі,
урач-уролаг
Анатоль Фёдаравіч Барадзеня
каля пульта
апарата «Урат-П»

● «Гармата» злавіла цэль —
камень у ныркы пацыента...

● На экране
дысплея наводка
амаль што «снайперская»

● Як і ў звычайнай
аперацыйнай,
тут таксама
прысутнічае капельніца
і хворы
знаходзіцца
пад лёгкім наркозам

# Я СЫН ТВОЙ, ВЁСКА

Пра нас, беларусаў, у свеце нездарма кажуць: вясковая нацыя. Справа нават не ў тым, што ўсе мы, як сказаў з блізкай нагоды Янка Сіпакоў, з вясковых хат. Уехаўшы ў XX стагоддзе на сялянскім возе, мы і напрыканцы яго жывём сялянскімі ўяўленнямі, мудрасцю нашых бацькоў і дзядоў, якія ўвесь свой век працавалі на зямлі і вучыліся жыць у самой прыроды. Нават тое, што наш суайчыннік перасеў з воза на трактар «Беларусь», мала што змяніла ў яго адносінах да свету. Жыццё сапраўды шпарка абнаўлялася, але нязменнаю заставалася чалавечая душа з яе прагаю гармоніі і хараства. У ёй жыла памяць пра старадаўнюю Літоўскую Пагоню і пра грознага ваяра на кані, які ўзняў свой меч не дзеля таго, каб пагражаць суседзям, а каб засведчыць сваю гатоўнасць абараняць сваю сялянска-хрысціянскую цывілізацыю.

«Я сын твой, вёска»,— сцвярджае паэт Алесь Салтук, і пад гэтымі яго словамі могуць падпісацца ці не ўсе беларускія паэты, у пераважнай большасці сваёй выхадцы з вёскі. Прычына зразумелая: «Тут засталася мая любоў, тут пот праліты маіх бацькоў, тут адцвітала іх маладосць...». Ён адважваецца ўступіць у спрэчку нават з самім Сяргеем Ясеніным, які некалі засмучана канстатаваў: «Я последний поэт деревни». У павазе і любові да паэзіі Ясеніна ніяк не адмовіш беларускаму яго калегу, які ўслед за вялікім песняром рускай вёскі зачаравана паўтарае вядомыя словы: «А там, у заснежаных далях, дзе ходзіць на дыбачках сон, у гурбах плыве, як у хвалях, апалы знаёмы наш клён». Аднак калі размова ідзе пра тое, што стала часцінкаю яго душы, ён выяўляе адкрыта сваю нязгоду. Аднačасова гэта і яго вера: «Я не апошні з іх сыноў вясковых». І ўдакладняе: «Выток мой там, пачатак і аснова. Там спадзяюся адшукаць я словы, якіх пакуль у слоўніку няма».

Але спачатку пра вытокі і аснову. І пасля таго, што сказана нашай паэзіяй і наогул літаратурай пра беларускую вёску, паэт адшуквае ў не раз і многімі пералапачаным слоўніку шчырыя словы ўдзячнасці свайму вясковаму дзяцінству, бацьку і маці, роднай зямлі. Гэта не адно толькі рыторыка паэтычных прызнанняў, у шчырасць якіх урэшце верыш, але, як кажуць нашы канцылярысты, прымаеш да ведама: «Беларусь, я крывінка твая, я жыву для цябе і табою». Гэта і сапраўдная лірыка, у якой, пачынаючы з назвы кнігі, так шмат святла, што яе ліха назваць святланоснай. Асабліва, калі параўноўваць напісанае Алегам Салтуком за ўсё яго жыццё з «вясковай лірыкай» іншых беларускіх паэтаў. Па частаце ўжывання «светлых» слоў яго вершы, несумненна, выходзяць наперад.

Крыніцу святла паэт бачыць шмат у чым: светла ў Прыдзвінні, родным кутку, ад бяроз. Дно з бурштыну ў Пачапіцы (рэчцы) — «сонцам маладым іскрыцца». «Маладзік над полем вечаровым у крыніцу светлую глядзіцца». «Саломы залацістае святло». Люстэрка, што «над пячуркай святлела». У садзе «свецяцца ранеты». У вечаровай расе разгараюцца «сівыя светлякі». Маладзік запальвае «калядныя жоўтыя свечкі». Як заўважае сам паэт, «святлом усё пранізана наскрозь»: тут і «святліца», і «светлая вера», і «светлыя слёзы», і «святло зоркі», і, вядома ж, «дневное светило» (без «сонца рускай паэзіі» ніяк немагчыма!). І калі мы сустракаем у адным з вершаў шчырае пажаданне: «Благое ў голаў не бяры, ў душу — святла паболей»,— то разумеем, што аўтар гэтых радкоў мае на такое ўсе падставы. У яго прыдзвінскім краі святлом поўніцца сама зямля. У паэта «на душы і светла, і спакойна»? А чаму б і не, калі «святлее» ад матчынага слова ў хаце. Калі «над светам і ў душы світае і святлее ад жаночых воч». І нават — змянілася мода, «зноў паплылі сукенкі ўгору»! — «аж ад ног святлей». Вось чаму зусім зразумелае чытачу маленне паэта, калі ён бачыць жаночае, а ў ім агульначалавечае, хараство: «Свяціся і свяці!» Яго заклінанне, што раптам само сабою вырвалася з вуснаў: «Хай Радзімы свеціцца імя!»

Стан душэўнай раўнавагі добра знаёмы кожнаму з нас, хто меў шчасце ўзрасці і ўзгадавацца на ўлонні цудоўнай беларускай прыроды, якая так улагоджвае ўсе болькі і трывогі, так суцішае і гасіць у сабе ўсе высокія жыццёвыя хвалі. Што можа быць больш радасным ад звычайнай працы на зямлі, калі яе плён навідавоку! А як добра пасля доўгага расстання вярнуцца пад страху роднага дома, калі ён яшчэ ёсць, застаўся і калі жывыя бацька, маці! Цаны няма гэтаму дужа рэдкаму ў век грозных супярэчнасцей і катаклізмаў стану:

Промні сонца песцяцца у лехах,
Ціха ў промнях грэюцца шпакі.
Не дзянёк сягоння, а пацеха —
Бульбу зараз пасадзіць зрукі.

Конік баразной ідзе прыстойна,
Бо не першыня яму цягло.
На душы і светла, і спакойна,
Быццам так заўсёды і было.

Дрэмле ў бацькі на губах усмешка,
І жаўрук над хатаю звініць.
І зямля, як свежая паспешка,
Сопкая і смачная — дыміць...

Але хіба можа паэт свядома адкаснуцца ад зямных трывог, калі нават, у адрозненне ад вядомага бунінскага: «Поэту нельзя быть счастливым»,— шчыра перакананы, што шчасце і натхненне здольныя ўжывацца? Гэта адчуванне трывогі, якая ўсё больш нарастае, ахоплівае Салтука і яго лірычнага героя мацней і мацней з кожным новым вяртаннем у родную вёску. Здаецца, каму-каму, а яму няма чаго сябе дужа дакараць за чэрствасць і забыўлівую няўдзячнасць. Знакамітае барадулінскае «Трэба дома бываць часцей»,— стала не толькі лозунгам дня (тым больш, што з Р. Барадуліным яны — землякі), але і натуральна суіснуе побач з яго ўласнымі радкамі ў многіх вершах. Надыходзіць пара ў жыцці героя, калі «халаднее, і святла ўжо мала ў запасе». Калі ў роднай вёсцы ўсё болеe знакаў памірання. Калі становіцца зразумелым тужлівае купалаўскае: «Сыходзіш, вёска, з яснай явы», дзе бадзёрая стылістыка («новая доля», «зайскрыць электрыка ўладарна», «гудка жывучая крыніца», «дзяды Кастрычнікавы») ніяк не можа заглушыць развітальнай тугі-шкадавання, якая чуецца ў самім рытме верша. Многае, вельмі многае сапраўды, як прарочыў вялікі Купала, сышло з яснай явы. І ў позірку паэта «святла ранейшага не стала»:

Снягі, снягі — няма канца і краю.
Лячу адзін у акіян снягоў.
Я штосьці тут згубіў,
Я штосьці тут шукаю
І не магу знайсці сярод палёў.

Самае страшнае — няма сярод жывых тых людзей, у аблічы якіх і бачылася Салтуку беларуская вёска. Няма таго былога салдата, што за сорак пасляваенных гадоў жыцця не раз кляў усіх багоў і не адзін знішчыў сякераю пратэз: «Аж дваццаць пар адных чаравікаў — з адной нагі — пыляцца на гарышчы!» Няма ўдавы Адэлі, якая косіць пожню, а побач «ходзіць бусел цыбаты — і яна не адна». І маці прыходзіць «у старэнькім паліто» толькі ў сне, калі яе сыну блага («зямля ўцякла з-пад ног, паблякла сонца»). І марныя заклікі да равесніка: «Старыя просяць цішыні, старыя хочуць цеплыні. Аб гэтым ты не забывай, ты ім цяпло сваё аддай. Бацькоўскай хаты не мінай...». Нездарма ў паэтычнай свядомасці А. Салтука ўзнікае пранізлівы вобраз, які так дакладна выявіў нашу тугу развітання з мінулым у адным з вядомых вершаў А. Твардоўскага («И, кроясь дымкой, он уходит вдаль, заполненный товарищами берег»):

Расце атава.
Укос другі
Касцоў пакліча неўзабаве.
Буслоў бясконцыя кругі,
У сэрцы большае тугі,
Як на бязлюднай пераправе.

Як на бязлюднай пераправе,
Дзе перавозчыка няма,
А ты гукаеш, ды дарма:
Маўчыць аглухлы бераг правы.

Маўчыць аглухлы бераг правы,
Хоць да яго рукой падаць,
А там калышуцца, шумяць
Тваё няскошаныя травы.

Няма канца рэестру-пераліку ўсяго таго, што знікла за апошні час з твару роднай зямлі: «Зімой — вясна, улетку — халады. Азон ядуць праклятыя ракеты. І чыстай усё менее вады, і адлятаюць без пары паэты. У дэфіцыце ласка, дабрыня, забруджаны бацькоўскія вытокі...» На што ж тады мы пабагацелі? Хіба толькі, як зазначае А. Салтук, на адзін Чарнобыль — на знак яшчэ адной бяды, што чарадою ўзнікаюць на беларускім шляху: Курапаты, Хатынь... А ці ёсць хоць якая надзея ў нашага «вясковага» народа? Калі азірацца ў мінулае, то можна адшукаць мноства прыкладаў няскоранасці і неўміручасці беларусаў. Гэта натхняе, вядома. Але куды больш натхняе, узвышае, адухаўляе, што «дабра і зла народ мой знае межы», а гэта азначае — ніколі не паддасца на авантуру і не здрадзіць сваёй зямлі, з якое выпраменьваецца тое самае «святло», што поўніць сабою яго паэзію. Пакуль беларускі народ помніць пра сваіх паэтаў, як заўважае Алег Салтук у вершы, прысвечаным памяці Уладзіміра Караткевіча, Бог ніколі не пакіне Беларусі. Помніце ў Караткевіча: «На Беларусі Бог жыве»?..

**Міхась ТЫЧЫНА.**

---

Алег Салтук. Святло зямлі. Вершы. «Мастацкая літаратура», 1992.

## ПАЭЗІЯ



Зінаіда ДУДЗЮК

### Дзверы

Незамкнёныя дзверы
маюць вялікую волю
і ніякіх абавязкаў.
Усялякага ўпусцяць
і выпусцяць.

Да замкнёных дзвярэй
трэба ключ,
бо яны на службе.
Замок, як закон.

Забітыя дзверы адчыняюць
сякераю,
не шануюць ні цвікоў,
ні вушакоў.
Пэўна, таму і мы,
забітыя людзі,
кідаемся на суседа
з сякераю,
калі нам дрэнна жывецца,
замест таго каб знайсці
законы і ключ да волі.

### Да чаркі

Бедная, бедная,
стаіш на адной назе,
нібы просіш міласціну.
На хвіліну поўная —
і зноў парожняя.

Калі смуткуеш адна
за шклом шафы,
рада прывабіць
хмельным пахам
хоць прыблудную мушку,
прылашчыць, прыспаць
да смерці на донцы.

А калі цябе ставяць
на стол,
Шчыруеш, поіш паўнатою
і пустатою.
Што бярэш, сумленна
вяртаеш,
хоць не помніш,
у каго ўзяла, каму аддала.

Удзячная таму, хто
напоўніў.
Ненавідзіш таго,
хто апусташыў.
Гэта твае дабро і зло,
пачатак і канец.
Але ты заўсёды канчаеш
злом.
Тваё зло да дна выпіваюць
людзі.

### Новая роля

Учора быў у ролі бадзягі,
дык і ў жыцці хадзіў
няголены,
у чаравіках на босую нагу,
у брудных нагавіцах
і абшарпанай сарочцы.

Сёння далі ролю караля,
а ты ніяк не можаш
у яе ўжыцца,
бо яшчэ не змайстравалі
карону
і не пашылі каралеўскую
мантыю,
таму на рэпетыцыях
гугнявіш сабе пад нос
каралеўскія загады,
няголены, у чаравіках
на босую нагу,
у брудных нагавіцах
і абшарпанай сарочцы.

У цябе душа бадзягі.
Але каб быць каралём,
дастаткова надзець
карону і мантыю.
Адзенне само сыграе
тваю ролю.



Занядбаны мой свеце,
ты толькі ГЭТЫ,
а ўсе ўслаўляюць ТОЙ,
Бо на ТЫМ можна
жыць вечна,
не ўміраць і не нараджацца,
не знаходзіць і не губляць,
не кахаць і не расчароўвацца.
Ясны мой свеце,
Я цябе абдымаю вачамі,
кранаю сэрцам зёлкі твае,
душою плыву ў тваім небе.
Для мяне ты адзіны,
нават прахам сваім
я ў табе растваруся
дарэшты,
толькі ты не згасай
ніколі...



Малачаем і чыстацелам
зводзіла рабацінкі,
а яны зноў і зноў абсыпалі
твар
ад вясновага сонца,
ад нараджэння дзяцей.
І зніклі самі толькі
тады,
калі гора прыпудрыла твар
стомаю і адчаем.
Дый нашто яны цяпер, тыя
рабацінкі,
калі памёр той,
хто кахаў іх бясконца?



Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

### Аналогіі

Парастак кволы — цененькі,
бы нарадзіўся ў цяні.
Сонца заспанае, мляваe —
ледзь працінаюць туман
прамяні.
Ветру дыханне слабое,
што ліст не трывожыць
сабою.
Позірк нясмелы, прыхаваны —
мною адчуты спіною.

Суджана парастку
ў сілу паволі ўвайсці,
падужэць,
Сонцу — разліцца, як лава,
выпаліць поплава шчэць.
Вецер разгон набярэ,
прымушаючы гнуцца жывое.
Ўраз пераверне жыццё —
той позірк, адчуты спіною...



Нявыплаканых слёз
саромецца не варта
(Саромеемся выплаканых,
бачных).
Сніцца мне:
Перад засмяглым людам
стаю з пустою квартай
І круціць вецер пыл
у роднай старане.

Хоць бы адна крынічка
ці луг у стылі рэтра!
...Есць сон, ёсць тая ява,
што мучыць і гняце:
Адна у нас вада,
адно у нас паветра,
Аднолькавая бледнасць
на тварах у дзяцей...



Ратуе дуб сябе самога,
Як досыць тоўшчы набярэ.
Ен пад апекай пана Бога.
А значыць — доўга
не памрэ.
У полі, дзе спявае жыта
І дзе яшчэ пасуць цялят,
Дуб узвышаецца, нібыта
Ен Белай вежы родны брат.

Аб'едуць трактар і камбайн,
Сама маланка абляціць,
А чалавек — ці Хам,
ці Каін —
Ў дупле бярэцца лом
паліць.



Дзе навальніца —
там і пажар.
Я не баюся.
Ты пакаранне мне,
а ці дар —
Не разбяруся.

Ці то мне дзякаваць,
ці дакараць
Боскую волю,
Ці сваё сэрца рашуча
суняць:
— Хопіць! Даволі!

Зрэшты, я неяк
параджуся з ім,
Усё ж не чужыя.
Што ж мы хвалюемся так
і трымцім,
Быццам малыя?



У кахання прылівы, адлівы,
Узнясенні і рэзкія зрывы,
Асалода бязмежжа —
і краты,
Пайната уладання —
і страты.
Спусташэнні яшчэ
і згаранні,
Ашуканні і проста
шуканні...

Вось якая радня
у кахання...

# ДЗЕЯ НА ФОНЕ ВЕЛІЧНАГА ГАБЕЛЕНА

## РЭПАРТАЖ З ПРАЦЭДУРЫ ЎРУЧЭННЯ ДАВЕРЧЫХ ГРАМАТ НАДЗВЫЧАЙНАГА І ПАЎНАМОЦНАГА ПАСЛА РЭСПУБЛІКІ КАРЭЯ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ ХОНГ СУН ЁНГА СТАРШЫНІ БЕЛАРУСКАГА ПАРЛАМЕНТА СТАНІСЛАВУ ШУШКЕВІЧУ

Пра гэта зазвычай газеты паведамляюць назаўтра: калонка афіцыйнай інфармацыі, фота пасла, кароткія біяграфічныя звесткі... Мы вырашылі рассунуць рамкі пратакольнага паведамлення і з дапамогай фотакамеры праліць святло на падзею, што стала ўжо досыць звыклаю ў палітычнай хроніцы дзён.

Чытач мае магчымасць прайсці праз парадныя дзверы Дома знешнеэканамічных сувязяў — прыгожага асабняка на Вайсковым завулку, апынуўшыся літаральна з першых крокаў перад «арэнай», на якой і разгортваецца галоўная дзея. Гэта прасторная зала-фае, упрыгожаная велічным габеленам (пастараліся ткаллі з Барысаўскага камбіната) і засланая чырвоным дыванам. Пакуль дзея не пачалася, на чырвоным полі пасвяцца дзесяткі два журналістаў, абвешаных камерамі і ўзброеных дыктафонамі. Тут жа па-дзелавому заклапочаныя супрацоўнікі МЗС: уносяць апошнія папраўкі ў адпрацаваны сцэнарый.

**15 гадзін.** На сярэдзіну дыпламатычнай арэны выходзяць насустрач адна адной дзве каманды — Пасла краіны і Старшыні беларускага парламента. Абмен прамовамі. Момант уручэння даверчых грамат. Поціскі рук. Стракатанне фотакамер.



**15 гадзін 16 хвілін.** Пасол, кіраўнік дзяржавы і міністр замежных спраў РБ пакідаюць залу, па лесвіцы накіроўваюцца наверх. Журналісты не разыходзяцца.

**15 гадзін 31 хвіліна.** Пасол, кіраўнік дзяржавы і міністр замежных спраў вяртаюцца, каб адказаць на пытанні журналістаў. Дзея закончана.

Аднак я не стаўлю кропку, хоць паводле сцэнарыя пратакола ўжо трэба глядзець на выхад. Пытанне да шэфа пратакола Міністэрства замежных спраў РБ Вадзіма Лазеркі.

— Пасля самай урачыстай часткі высокія асобы пакідаюць залу. Знікненне крыху таямнічае. Згодна з пратаколам, гэта...

— ...кароткая гутарка, у часе якой абодва бакі як бы вяртаюцца да сваіх прамоў, расшыфроўваюць асобныя пазіцыі, акцэнтуюць увагу на прынцыповых момантах. Гутарка доўжыцца не больш як 15 хвілін, у чым вы толькі што пераканаліся.

Валерый **ДРАНЧУК.**
Фота **Віктара ЖЫЛІНА.**

# І ТЭРОР МАЕ СВОЙ КОЛЕР,

***У гады фашысцкай акупацыі тэрыторыя Беларусі стала зонай дзейнасці і жорсткага палітычнага і ваеннага супрацьстаяння Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў — украінскай паўстанцкай арміі (АУН—УПА) — з аднаго боку і польскай Арміі Краёвай (АК) — з другога. Сілы іх тут былі амаль роўныя. Апрача падпольшчыкаў, па нашых даных, кожны з бакоў налічваў па 12—14 тысяч узброеных байцоў.***

## АЛЬБО ПРА ТОЕ, ЯКІ СЛЕД ПАКІНУЛІ БАНДЭРАЎЦЫ І АКАЎЦЫ НА БЕЛАРУСІ

Дзейнасць украінскіх нацыяналістаў у паўднёвых абласцях Беларусі пачалася ў першыя дні Вялікай Айчыннай вайны. Выклікана гэта было, па-першае, значнай удзельнай вагой украінцаў сярод мясцовага насельніцтва. Па-другое, большую частку Брэсцкай, Пінскай і Палескай абласцей гітлераўцы ўключылі ў склад рэйхскамісарыята «Украіна». Нарэшце, на тэрыторыі беларуска-ўкраінскага Палесся практычна з лета 1941 года актыўна дзейнічала «Палеская Сеч» (УПА—ПС УПА), створаная Т. Бараўцом (Бульбай). Калі верыць яму («Армія без держави. Спогади». Виннипег, 1981), то Сеч разам з беларускімі нацыяналістычнымі арганізацыямі без удзелу немцаў «вызваліла ад бальшавікоў» значную частку Палесся. З канца 1941 — у пачатку 1942 гг., калі ПС УПА павяла барацьбу на два фронты — супраць гітлераўцаў і супраць бальшавікоў,— яна не парвала адносін з беларускімі арганізацыямі, якія не адважваліся на адкрыты разрыў з немцамі. Бульба прапаноўваў ім гэта зрабіць.

Бадай, адзінай арганізацыяй, якая падтрымала ПС УПА, была Беларуская незалежная партыя. Створана яна ў пачатку 1942 года з мэтай аб'яднання беларусаў для барацьбы і супраць немцаў, і супраць бальшавікоў. З прыходам нямецкай грамадзянскай адміністрацыі кіраўніцтва БНП спрабавала арганізаваць беларускі нацыяналістычны рух для адначасовага выступлення супраць немцаў і супраць бальшавікоў. Аднак масавай падтрымкі насельніцтва партыя не дабілася. Большасць атрадаў і падпольных груп былі знішчаны. Шэраг дзеячаў на чале з Радзько трапілі за краты НКУС...

Заходнія і паўднёвыя вобласці Беларусі ўваходзілі ў зону інтарэсаў польскай Арміі Краёвай. Па сутнасці, гэта былі нелегальныя ўзброеныя сілы Польшчы, пабудаваныя па тэрытарыяльнаму прынцыпу. У іх складзе знаходзіліся прадстаўнікі большасці (за выключэннем пракамуністычных) польскіх партый. Апошнія не прызнавалі ўз'яднання заходніх абласцей Украіны і Беларусі са сваімі рэспублікамі, лічылі іх сваёй, польскай, тэрыторыяй і працягвалі весці тут актыўную дзейнасць. Асабліва моцныя былі іх пазіцыі ў Беластоцкай, Гродзенскай і Баранавіцкай абласцях. Пракамуністычныя ж польскія арганізацыі займалі супрацьлеглую пазіцыю, дзейнасці тут не вялі, бо лічылі яе ўмяшаннем у справы іншай дзяржавы.

Ужо летам 1941 года кіраўніцтва АК распрацавала аперацыю «Вахляж» (Веер). Сутнасць яе заключалася ў пераносе актыўнай узброенай барацьбы з нацыстамі на тэрыторыі Украіны і Беларусі. Гэты рэгіён быў разбіты на чатыры напрамкі (кірункі). ПС УПА, таксама як і беларускія нацыяналістычныя арганізацыі, па зразумелых прычынах варожа адносілася да польскага ўплыву ў сябе на радзіме. Чыніліся перашкоды як дасягненню доўгатэрміновых палітычных мэт АК, так і аператыўнаму кіраванню яе ўзброенымі фарміраваннямі і падпольнымі арганізацыямі. Паміж атрадамі ПС УПА і АК узнікалі пастаянныя ўзброеныя сутычкі, практыкаваліся ўзаемныя «падстаўкі», правакацыі і г. д.

Сітуацыю выкарыстоўвалі ў сваіх інтарэсах усе ваяўнічыя бакі. Так, нацысты ў 1941 годзе, уключыўшы частку тэрыторыі Беларусі ў склад рэйхскамісарыята «Украіна», на адміністрацыйна-паліцэйскія пасады прызначылі палякаў. Таму першыя мерапрыемствы акупантаў, у тым ліку і карніцкія, ажыццяўляліся рукамі даўняга праціўніка беларусаў і ўкраінцаў. Праз месяц—другі, нібыта ідучы насустрач пажаданням мясцовага насельніцтва, палякаў замянілі ўкраінцамі і беларусамі, якія ў сваю чаргу не прамінулі «аддзякаваць» сваіх папярэднікаў. Гісторыя паўтарылася, калі бандэраўцы і бульбаўцы сталі ў апазіцыю да немцаў. Зноў стаўка ў акупацыйным апараце робіцца на палякаў. Тыя, у сваю чаргу, пачынаюць паляванне на ўкраінцаў і беларусаў. Шырока практыкуецца стварэнне лжэатрадаў. Пад выглядам бульбаўцаў і бандэраўцаў яны знішчаюць польскае насельніцтва, пад выглядам акаўцаў — украінскае і беларускае. Безумоўна, што ў такім крывавым месіве акты жорсткай помсты ажыццяўлялі і сапраўдныя атрады як Арміі Краёвай, так і ўкраінскіх нацыяналістаў.

У сваіх інтарэсах сітуацыю выкарыстаў і савецкі бок. Канцэптуальна да сярэдзіны 1943 года, ва ўсякім выпадку ў Беларусі, найбольш блізкай ім была АК.

У адрозненне ад украінскіх нацыяналістаў акаўцы не толькі не шукалі саюзнікаў сярод беларускіх некамуністычных арганізацый, але і адхілялі кампрамісныя прапановы апошніх у гэтым напрамку. Так, даволі блізкія да АК пазіцыі займала Партыя беларускіх нацыяналістаў — падпольная арганізацыя (лідэр — Ів. Станкевіч), якая ўзнікла ў 1940 годзе ў Варшаве. Як і польскае падполле, ПБН спрабавала арыентавацца на заходнія краіны, у перамогу гітлераўцаў не верыла, хоць і выкарыстоўвала легальныя магчымасці для прапаганды ідэі беларускай дзяржавы. У якасці асновы для сеснага супрацоўніцтва ў барацьбе супраць немцаў і бальшавікоў ПБН патрабавала ад палякаў публічна і афіцыйна стварыць пасля вайны беларускую дзяржаву ў складзе канфедэратыўнай Польшчы, а таксама прызнаць у ёй роўнасць польскай і беларускай моў, культур і г. д. Аднак падтрымкі такая прапанова ў акаўцаў не атрымала. Больш таго, у барацьбе з беларускімі нацыяналістамі АК выкарыстала грубую ўзброеную сілу.

Зусім іншы характар набылі сувязі АК і савецкіх партызанаў пасля разрыву адносін паміж СССР і Польскім (Лонданскім) урадам. У чэрвені 1943 года, напрыклад, адзін з «акруговых дэлегатаў урада Польскай рэспублікі» выдаў лістоўку, у якой гаварылася: «Немцы і маскалі — спрадвечныя ворагі Польшчы. Супрацоўніцтва з бальшавікамі — такое ж злачынства, як і супрацоўніцтва з немцамі». Мы ведаем прыклады, калі акаўцы знішчалі савецкія партызанскія атрады.

Інструкцыі, атрыманыя з Масквы ў жніўні 1943 года савецкімі партызанамі, былі больш асцярожныя. У адносінах да акаўцаў патрабавалася: разведаць больш падрабязна, якую мэту ставяць яны перад сабою; хто імі кіруе; калі атрады маюць тыя ж мэты, што і мы, устанавіць з імі сувязь. І савецкія партызаны пачалі ствараць у сваіх атрадах польскія фарміраванні, весці работу па расколе і знішчэнні польскага нацыяналістычнага руху.

У сярэдзіне 1943 года бульбаўская ПС УПА была, па сутнасці, падпарадкавана бандэраўскай АУН. Сам Т. Баравец добраахвотна паехаў у Берлін і быў змешчаны ў той жа Саксенгаўзен, дзе ўжо знаходзіліся С. Бандэра, галоўнакамандуючы АК генерал Равецкі і іншыя палітычна значныя фігуры з розных краін. Бескампрамісныя бандэраўцы разгарнулі ў Беларусі актыўную работу па расшырэнні свайго ўплыву. Канцэптуальныя прынцыпы іх дзейнасці ў многім напаміналі бальшавіцкія традыцыі. Той жа жорсткі цэнтралізм, тая ж нецярпімасць да любых праяў іншадумства ў сваіх радах і г. д. Выступалі яны пад тымі ж лозунгамі, што і Армія Краёва: «Нашы ворагі — немцы і бальшавікі». Аднак усе ўзаемныя спробы дасягнуць калі не саюзу, то хоць бы нейтралітэту поспехам не ўвянчаліся. Акаўцы насмерць змагаліся за аднаўленне Польшчы з межамі да 1939 года, аўнаўцы — за сваю незалежную дзяржаву. Узаемная барацьба заахвочвалася як нямецкімі, так і савецкімі спецслужбамі. Нейкае зацішша ў іх адносінах наступіла толькі з набліжэннем Чырвонай Арміі.

**Д**а 1944 года пазіцыя АЎН у Беларусі значна ўзмацнілася. У Брэсцкай, Пінскай, Палескай абласцях было створана магутнае падполле, закладзены базы, дзейнічалі даволі буйныя ўзброеныя атрады. Важную ролю ва ўмацаванні ўплыву АЎН адыграла праграма, прынятая на яе 3-м Вялікім зборы. Гэты дакумент яшчэ не ацэнены гісторыкамі. Па сутнасці, ён нічым не адрозніваўся ад канцэпцыі перабудовы ўзору 1985 года. Праграма пісалася таленавітымі людзьмі. Яны ўлічвалі рэальны настрой і спадзяванні насельніцтва, якое не хацела ні польскага капіталізму, ні сталінскага сацыялізму. У той жа час сацыялізм, ідэі сацыяльнай справядлівасці былі папулярныя ў народзе. Таму яны і знайшлі адлюстраванне ў памянёнай праграме.

Бандэраўцы ведалі аб цесных кантактах і ўзаемадзеянні бульбаўцаў з беларускімі нацыяналістамі. Усведамлялі яны і важнасць гэтых сувязей. У адным з афіцыйных дакументаў АЎН адзначалася, што адносіны да беларусаў «павінны быць лаяльнымі. Гэта — палітычная мэта. Мы павінны ім растлумачыць, што ворагі ўкраінцаў і беларусаў — немцы і бальшавікі. Беларусы павінны змагацца за сваю дзяржаву». Аднак у Беларусі не было рэальнай сілы бандэраўскага напрамку. Таму ў канцы 1942 — пачатку 1943 гг. адбыўся шэраг сустрэч аўнаўцаў з лідэрамі Беларускай краявой абароны Ермачэнкам, Казлоўскім і некаторымі іншымі, якія супрацоўнічалі з фашыстамі. Але прапанова бандэраўцаў падтрымкі не атрымала. У пачатку 50-х гадоў, ужо ў Мюнхене, прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай рады Р. Астроўскі так растлумачыў прычыны гэтага: «Пачаць вайну за незалежнасць на два фронты — супраць немцаў і супраць бальшавікоў — было раўназначна самазабойству. Зрабіць такі крок было немагчыма. Бальшавікоў усе добра ведалі і з імі змагаліся, а ў адносінах да немцаў — дык усе былі ўпэўнены, што Захад павяжа ім рукі. У такой сітуацыі неабходна было дасягнуць найбольшага, прытым легальным спосабам». Была дасягнута дамоўленасць аб сумеснай барацьбе толькі супраць Саветаў.

Да канца 1944 года толькі ў Брэсцкай і Пінскай абласцях, па даных НКУС, дзейнічала каля 250 аўнаўскіх груп і атрадаў, колькасць членаў якіх хісталася ад 25 да 500 чалавек. Былі раёны, дзе бандэраўцы поўнасцю дамінавалі. У Дзівінскім раёне, напрыклад, з УПА былі звязаны каля 3 тысяч чалавек. Асаблівую актыўнасць праяўлялі атрады «Дварко», «Ермака», «Канапелькі», «Арцемчука», «Юшчыка», «Саўчука» і інш.

У 1944—1946 гг. у Беларусі АЎН — УПА ўчыніла, па даных НКУС, 2 384 дыверсіі і тэрарыстычныя акты, у выніку якіх загінула 1 012 чалавек. Хто былі гэтыя людзі? Па даных за 1945 год, 50 — супрацоўнікі НКУС, 8 — афіцэры Савецкай Арміі, 28 — радавыя і сяржанты, 171 — партыйна-савецкія актывісты, 298 — грамадзянскія асобы.

**М**еры ў адказ былі жорсткія. За 1944—1946 гг. у рэспубліцы было праведзена 4 596 аперацый, накіраваных супраць украінскага, польскага і беларускага нацыяналістычных падполляў. Пры гэтым толькі ў 1946 годзе было забіта 3 766 і арыштавана 19 050 чалавек. З 15 студзеня па 20 лютага 1945 года ў Брэсцкай і Пінскай абласцях праводзілася так званая чэкісцка-вайсковая аперацыя «па ліквідацыі контррэвалюцыйнага паўстанчага падполля, банд-груп мясцовага фарміравання, а таксама ліквідацыі банд УПА». У выніку былі разгромлены 33 узброеныя групы і атрады, было забіта 98 і арыштавана 3 808 чалавек, 55 чалавек здаліся ў палон.

Больш эфектыўныя былі аперацыі па стварэнні лжэбандэраўскіх груп. У 1945 годзе толькі адна такая група (20 чалавек), створаная НКУС БССР, увайшла ў давер і знішчыла аўнаўскія атрады «Трэчуна» і «Грэчкі». Апрача таго, вялася актыўная работа па вярбоўцы агентаў і паведамляльнікаў.

У цэлым жа АЎН і на тэрыторыі Беларусі вяла непрымірымую вайну з Савецкай уладай. Усё, што перашкаджала гэтай вайне, бязлітасна знішчалася. Па афіцыйных даных, толькі АЎН страціла 150 тысяч чалавек. 170 тысяч трапіла ў палон, 75 тысяч чалавек здаліся добраахвотна. А колькі было зламаных лёсаў ні ў чым не вінаватых людзей...

Іншую тактыку ўзяла на ўзбраенне Армія Краёва. Да канца 1944 года на тэрыторыі рэспублікі дзейнічалі тры яе акругі — Навагрудская, Віленская і Беластоцкая. Кожная складалася з сеткі нелегальных арганізацый і ўзброеных фарміраванняў. У Навагрудскую акругу, напрыклад, уваходзілі 4 злучэнні і 3 брыгады колькасцю 200—800 чалавек.

З прыходам Чырвонай Арміі АК зрабіла спробу адкрыта перашкаджаць устанаўленню ў заходніх абласцях органаў улады БССР. Аднак ужо восенню 1944 года тактыка рэзка змянілася. У загадзе № 571 камандавання АК адзначалася: «...яшчэ раз катэгарычна забараняю весці барацьбу супраць Саветаў. Распусціць партызанскія атрады. Людзей, якія падлягаюць найбольшай пагрозе, адаслаць у цэнтр краіны...» Гэты загад быў прадубліраваны і кіраўнікам акруг.

Такое рэзкае змяненне ў палітыцы АК было выклікана цэлым шэрагам прычын. Большасць насельніцтва ў заходніх абласцях рэспублікі складалі беларусы. Зноў аказацца ў складзе Польшчы яны не хацелі. Да вайны ж беларусы і ўкраінцы польскай дзяржавай усяляк прыгняталіся. Яны мелі тады вельмі абмежаваныя легальныя магчымасці адстойваць свае правы.

Адбілася і месца знаходжання польскага ўрада ў Лондане. На Англію савецкі бок аказваў націск у гэтым пытанні, і яна не магла дазволіць сабе адкрыта падтрымліваць узброеную барацьбу ў тыле ў свайго саюзніка.

Кіраўніцтва АК усведамляла і тое, што пры даволі масавай падтрымцы насельніцтвам НКУС выстаяць у адкрытай барацьбе з ім будзе практычна немагчыма. У такой сітуацыі галоўным для АК было захаванне сваёй нелегальнай сеткі, што адпавядала інтарэсам і англійскіх спецслужбаў. Таму, нягледзячы на памянёны загад, НКУС і ў адносінах да АК займаў тую ж пазіцыю, што і ў адносінах да АЎН. З чэрвеня 1944 года па сакавік 1947 года было выяўлена і разгромлена 767 акаўскіх атрадаў і арганізацый, арыштавана 13 329 чалавек. Апошнія акаўскія групы ліквідаваны ў 1952 годзе.

У гэтым артыкуле я, вядома, не прэтэндую на ўсеабдымнасць, а толькі расказваю пра некаторыя факты, ацаніць аб'ектыўна якія зможа толькі час. Ясна толькі адно: на сцягах бальшавікоў, аўнаўцаў, акаўцаў нямала людской крыві. Ганарыцца ёю нельга. Барацьба палітычных сіл за поўнае знішчэнне іншадумцаў, на якіх бы інтарэсах яна ні грунтавалася — класавых або нацыянальных,— вядзе не да шчасця, а да непазбежнага кровапраліцця ні ў чым не вінаватых людзей. Таму ад метадаў насілля і тэрору мы павінны адмовіцца назаўсёды.

**Уладзімір ГУЛЕНКА,**
**кандыдат гістарычных навук,**
**старшы навуковы супрацоўнік**
**Інстытута гісторыі АН РБ.**

**Паўлюк ПРАНУЗА**



## *Раніца*

*Я прачынаюся рана,*
*Я рады прыгожаму дню,*
*Калі салаўі старанна*
*Прастрэльваюць цішыню.*

*А сонца, як бохан з чарэні,*
*Святлом заліло далягляд.*
*Знікаюць маўклівыя цені,*
*Ружовіцца ў квецені сад.*

## *Што ў жыцці пакінуў...*

*Не лічы заслугай сівізну.*
*Не лічы заслугаю маршчыны.*
*А ў жыцці якую баразну*
*Ты правёў? Нашчадкам*
*што пакінуў?*

## *Дождж прашумеў...*

*Дождж прашумеў, і пахне пылам*
*Прастор абуджанай зямлі.*
*Вясна сады ўсе пабяліла,*
*Пазеляніла луг, палі.*

*І ручаям дала свабоду.*
*Звіняць, імкнуцца да ракі.*
*Яе гаючы, светлы подых*
*Адчулі жаўранкі, шпакі.*

*Іх песні — часу абнаўленне,*
*Іх песні — непаўторны гімн.*
*Вясна — і сіла, і натхненне —*
*Нясе зялёныя сцягі.*

# КАМЕРТОН УЛАДЗІМІРА ХАДАРОВІЧА



Калі трапляеш у майстэрню да мастака Уладзіміра Хадаровіча, адразу адчуваеш, што ад шматлікіх жывапісных палотнаў аўтара як бы зыходзіць водар духоўнасці — яны вабяць да сябе нейкім патаемным унутраным святлом, нясуць зарад дабрыні. Да іх нібыта прагнеш прыпасці і наталіць смагу як з чыстай незамутнёнай крыніцы, асабліва ў наш час камерцыйнай какафоніі, дзе не ўсякі мастак устаіць перад замежным пакупніком з адпаведным густам. Уладзімір Хадаровіч — адзін з тых мастакоў, які не хлусіць як у мастацтве, так і ў жыцці, не падладжваецца пад модную кан'юнктуру, а застаецца верным свайму мастакоўскаму выбару, сваёй сцяжыне ў мастацтве.

Нарадзіўся Уладзімір у Слуцку, горадзе са славутай гісторыяй, што ў пэўнай ступені наклала свой адбітак на яго светапогляд. У канцы 50-х гадоў сям'я пераязджае ў Мінск, дзе юнак наведвае мастацкую студыю, якой кіраваў А. В. Бараноўскі. Вядомы педагог і мастак не толькі прывіў яму любоў да цудоўнага, але і дапамог знайсці свой шлях у мастацтве. Пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута малады мастак пасля доўгіх пошукаў свядома выбірае тэму беларускага нацюрморта, піша як прадметы побытавага ўжытку беларускіх сялян, так і творы па матывах старажытнабеларускага мастацтва. Яго шырокавядомыя дзве нізкі мастацкіх твораў — гэта не проста памайстэрску зрэжысіраваныя кампазіцыі, гэта ў пэўнай ступені — своеасаблівы дапаможнік па культурнай спадчыне беларускага народа. Пастозны, шматколерны, месцамі нават рэльефны жывапіс пераліваецца серабрыстымі фарбамі рэштак слуцкіх паясоў ці пажаўцелых старонак скарынінскіх старадрукаў, дэкаратыўных колераў посцілак народных майстрых ці чорнай керамікі вядомага ганчара Такарэўскага... Усе гэтыя рэчы ў жывапісных палотнах мастака не толькі пражываюць другое жыццё, але набываюць гістарычны сэнс.

Аўтар смела кампануе рэчы, здавалася б, не сумяшчальныя для станковай працы. Але для ўсіх ён знаходзіць такі камертон, які дазваляе гарманічна спалучыць і аб'яднаць іх. У яго няма выпадковых твораў, усе яны неяк лагічна звязаны паміж сабою, знітаваны ў своеасаблівы збор. І назовы твораў, вельмі простыя і лаканічныя, сугучныя зместу палотнаў, адпавядаюць аўтарскаму адчуванню тэмы. Нельга без хвалявання ўспрымаць, напрыклад, «Нацюрморт з яблыкамі», «Нацюрморт з абразом», «На калядьі»... Жывапісна-пластычны лад кожнага твора падпарадкаваны ідэі аўтара. Адсюль і магічнасць іх, прыцягненне хараства рэчаў рук чалавечых і душы іх творцаў — нашых продкаў, якія пакінулі нам багатую спадчыну і значнасць якой да сённяшняга дня мы сабе не ўяўляем.

На розных рэспубліканскіх мастацкіх выставах нельга па адной-дзвюх працах на фоне вялікай экспазіцыі ацаніць сапраўдны шматгранны талент гэтага мастака. Толькі тут, у майстэрні, дзе сабраны разам творы Уладзіміра Хадаровіча, можна ўбачыць працу мастака-падзвіжніка, які заклапочаны станам роднай культуры, нашай спадчыны.

Прыемна, што аўтар не замыкаецца ў вузкім коле апрабаваных прыёмаў. У задуме — вялікія планы: стварыць жывапісныя палотны, карціны-нацюрморты з нацыянальнымі строямі, увесці ў нацюрморт атрыбуты нацыянальных свят, старадаўнія музычныя інструменты ў вясковым інтэр'еры.

Набытыя шматлікімі мастацкімі музеямі і галерэямі творы Уладзіміра Хадаровіча ўносяць заўсёды адметную мастацкую рысу ў любую экспазіцыю. І кожны з яго твораў — споведзь, малітва мастака за лёс свайго народа, за будучыню сваёй Бацькаўшчыны.

**Уладзімір ПРАКАПЦОЎ.**

Маленькая
сенсацыя
года 1992-га:
наша Рэспубліка
Беларусь —
цэнтр Еўропы!
А які цэнтр
Еўропы
без казіно?
І вось — Мінск.
Карты
растасаваны,
стаўкі зроблены,
круп'е
пры выкананні
сваіх
службовых
абавязкаў...
Крутнулася
кола фартуны,
і гульня
пачалася...
Спадары,
вам абавязкова
пашанцуе!

# КАЗІНО, КАЗІНО, КАЗІНО...





Здымкі Віктара ДРАЧОВА.

# ЦВЯТОК РАДЗІМЫ

*Аднойчы пасля лекцыі па гісторыі беларускай архітэктуры да мяне падышоў адзін са слухачоў і запытаў: «А вы ведаеце наш касцёл, у Цімкавічах?» І гонар, і захапленне былі ў яго пытанні. Так, я ведала гэты цудоўны помнік нацыянальнага драўлянага дойлідства. Тады, у канцы 70-х гадоў, ён быў яшчэ жывой плоццю і рэальнасцю нашага быцця. І я падзяляла захапленне гэтага чалавека.*



Храм у мястэчку Цімкавічы, што знаходзіцца за 40 км на захад ад Слуцка ў сутоку рэчак Можа і Морач (зараз вёска ў Капыльскім раёне Мінскай вобласці), быў заснаваны ў 1560 г. князем Янам Сымонам, сынам Юрыя І Алелькі, уладальніка ўдзельнага Слуцкага княства. Верагодна, што першапачаткова гэта была царква, таму што род Алелькавічаў быў праваслаўны. Вядома, аднак, што ў 1580 г. храм быў асвячоны па каталіцкаму абраду ў гонар Міхаіла-Архангела біскупам віленскім Юрыем Радзівілам.

Пазней Цімкавічы перайшлі да вядомага магнацкага роду Сапегаў. Па фундацыі падканцлера Літоўскага Казіміра Льва Сапегі ў 1647 г. на месцы старога касцёла быў узведзены новы. Ад першага будынка захаваліся, як лічаць, падмуркі і частка вонкавых сцен. Магчыма, дзякуючы сваім славутым фундатарам драўляны мястэчковы храм набыў даволі значныя памеры і незвычайную для драўлянага дойлідства тэктанічную структуру.

Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя касцёла імітавала ў дрэве трохнефавую базіліку — найбольш пашыраны тып беларускай мураванай культавай архітэктуры перыяду барока. Вялікі прамавугольны ў плане асноўны зруб (кафалікон) падзяляўся двума радамі круглых слупоў (усяго іх было 10) на тры нефы, цэнтральны з якіх быў вышэйшы і ўтрая шырэйшы за бакавыя. Параметрам цэнтральнага нефа адпавядала пяцігранная алтарная частка. Яны разам былі перакрыты агульнай плоскай столлю з дошак, насцеленых «у накладку» па адкрытых папярочных бэльках, якія падтрымлівалі яшчэ больш магутныя падоўжныя бэлькі-трамы, што абапіраліся на слупы. З апорна-бэлечнай сістэмай цэнтральнага нефа вельмі вынаходліва былі звязаны канструкцыі перакрыцця бакавых нефаў і хароў над уваходам, якія падтрымлівалі два дадатковыя квадратныя ў плане слупы.

Лагічнае і тэхнічна-дасканалае канструкцыйнае вырашэнне, блізкае да антычнай ордэрнай сістэмы, адпавядала строгай гармоніі плана і вонкавых мас збудавання. Дапаможныя памяшканні (сакрысціі, хрысцільня, лесвіца на хоры) былі ўбудаваны па вуглах асноўнага аб'ёму і не выступалі за лінію фасадаў. Гэта дазволіла накрыць усе часткі храма адзіным двухсхільным дахам з вальмамі над алтаром, што надавала аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі будынка цэласнасць і маналітнасць форм.

Галоўны заходні фасад уяўляў сабою плоскі аб'ём (нартэкс), які меў ярусную будову. Ярусы падзяляліся паміж сабою развітымі прафіляванымі карнізамі. Ніжні пояс карніза ішоў на ўзроўні вышыні бакавых нефаў. Другі ярус закрываў тарэц даху цэнтральнага нефа, быў накрыты вальмай даху з вільчыкам, папярочным восі будынка, і завяршаўся своеасаблівай трохвежавай кампазіцыяй, выгляд якой вядомы з фотаздымкаў пачатку XX ст. Сіметрычныя чацверыковыя вежы па баках фасада мелі складанае завяршэнне ў выглядзе ўсечанага шатра і гранёнага конуса з заломам на васьмігранным шыйцы. Сярэдняя вежка была больш нізкая і складалася з двух маленькіх чацверыкоў з шатровым пакрыццём. На фасадзе на ўзроўні хароў знаходзіўся балкончык з разьбянай агароджай для музыкаў. Сцены звонку былі ашаляваны, а вокны аздоблены прыгожымі ліштвамі.

За доўгі век будынак касцёла неаднаразова рамантавалі. Асабліва істотна яго перабудавалі на мяжы XIX—XX стст., што відавочна ў псеўдагатычным характары завяршэнняў вежаў, у гарызантальнай ашалёўцы фасадаў, якая першапачаткова была, верагодна, больш традыцыйнай — з вертыкальна пастаўленых дошак з нашчыльнікамі. Да галоўнага фасада, а таксама да паўночнай і паўднёвай сакрысцій прыбудавалі прамавугольныя ўваходныя аб'ёмы з двухсхільнымі дахамі. Пасля Вялікай Айчыннай вайны касцёл Міхаіла-Архангела прыстасавалі пад праваслаўную царкву і пераасвяцілі ў гонар Мікалая Цудатворца. Пры гэтым зніклі вежы, балкончык і ліштвы, аднак гэтыя змены не парушылі істотна тэктоніку храма, а галоўнае — не закранулі арганізацыю і аздобу інтэр'ера.

У 1906—1908 гг. інтэр'ер храма быў размаляваны вядомым мастаком з Піншчыны Францішкам Бруздовічам. Паводле

яго малюнкаў пазней былі зроблены вітражы ў мінскім касцёле Сымона і Алены. У цімкавіцкім касцёле мастак адчуў рытм і логіку канструкцый і ўдала падкрэсліў іх сваімі роспісамі.

Калі праз уваходныя дзверы, упрыгожаныя мастацкай акоўкай у выглядзе галінкі яблыні з пяціпялёсткавымі кветкамі, вы траплялі ўнутр храма — перад вачамі ўспыхвалі ўсе колеры вясёлкі. Столь, сцены, слупы, бэлькі — усе без выключэння драўляныя канструкцыі будынка — былі цалкам накрытыя шматкаляровым квяцістым дыванам. Матывы роспісаў нібыта ўзятыя таленавітым майстрам з паплавоў і садоў роднага краю, з ручнікоў і слуцкіх паясоў, з франтонаў і ліштваў сялянскіх хат.

Арнаментальна-дэкаратыўны характар роспісаў падпарадкаваны строгаму рытму канструкцыйных элементаў, але распрацоўка арнаментаў уражвала багаццем творчай фантазіі. Кожны апорны слуп, трактаваны як антычная ордэрная калона, меў асобную форму капітэлі (круглую, гранёную, фігурную) і адпаведную размалёўку рамонкамі, сланечнікамі, яблыневай квеценню і іншымі кветкамі, якія не паўтараліся. Апорная пліта над капітэллю была распісана бледна-ружовымі ружамі ў абрамленні галінак і жоўтых гарлачыкаў. Стужкі рознакаляровага расліннага арнаменту, у малюнку якога белыя рамонкі з жоўтымі сярэдзінкамі, сінія валошкі і незабудкі, белыя лілеі і чырвоныя вяргіні рытмічна перапляталіся са сцяблінамі і зялёнымі лісцямі, пакрывалі бакавыя грані папярочных бэлек і пакладзеныя на іх дошкі столі. Ніжнія грані бэлек пакрываў геаметрычны арнамент, які складаўся са шматразова паўтораных ромбаў і меандрычных стужак жоўтага і чырвонага колераў.

Па перыметры сцен і падоўжных бэлек ішоў арнаментальна-дэкаратыўны фрыз з руж, аплеценых галінкамі, над якім у цэнтральным нефе ў квадратных рамах раней размяшчаліся сюжэтныя кампазіцыі хрысталагічнага цыкла. Плоскасці сцен былі размаляваны разнастайнымі раслінамі: на алтарнай сцяне — букеты руж і галінкі шыпшыны, на паўночнай, паўднёвай і заходняй сценах — магутныя дубы з жалудамі і яблыні са спелымі яблыкамі — сімвалы вечнасці, пладавітасці і дастатку. Цікавай тэмай сценавых роспісаў былі вазоны розных форм і букеты з палявых кветак у прасценках паміж вокнамі. Вянкі і гірлянды з кветак упрыгожвалі амбон, хоры, парталы дзвярэй простай цяслярскай работы, надаючы ім святочную ўрачыстасць.

Вольга Церашчатава, якая даследавала роспісы цімкавіцкага касцёла, зазначала, што «ўсе кветкі мясцовай флорыададзены мастаком у рэалістычнай манеры як па форме, так і па колеры». Радасцю быцця звінела мажорная колеравая гама роспісаў. На фоне гладка абгабляваных, пакрытых пацінай даўніны, бронзавых па колеру драўляных канструкцый зіхацелі яркія фарбы сонечнага лета, «блакіт і золата дня». Апорныя «антычныя» калоны ў некалькі радоў апаясвалі зігзагападобныя лініі колераў вясёлкі.

Іосіф Жыскар, складальнік вядомага даведніка па гісторыі нашых касцёлаў, пісаў, што «цімкавіцкі касцёл багаццем фарбаў, эстэтычнай гармоніяй, жывой гульнёй паліхроміі стаў для Літвы і Белай Русі тым жа, чым стаў касцёл францысканцаў, аформлены Станіславам Выспяньскім, для Кракава». Так, ён стаў сапраўдным, магутным і радасным гімнам народнай творчасці.

Аднак у спецыяльных навуковых працах па гісторыі архітэктуры Беларусі касцёл у Цімкавічах не разглядаўся. Акрамя







адзначаных вышэй даследаванняў ёсць яшчэ дзве навукова-папулярныя публікацыі, прысвечаныя пераважна цудоўным роспісам інтэр'ера храма. У 1976 і 1979 гг. гэты выдатны помнік архітэктуры і манументальнага мастацтва быў абследаваны супрацоўнікамі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі, зроблены яго абмеры і фотафіксацыя. Аднак у выданне «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» па Мінскай вобласці цімкавіцкі касцёл не ўвайшоў, таму што ў 1986 г. ён быў знішчаны пажарам у выніку «нядбайнасці».

Вінаватых няма... Але ці быў выпадковым гэты «няшчасны выпадак»? Ці будзе гэты помнік апошняй ахвярай нашага нядбайнага стаўлення да сваёй культурнай спадчыны ў цэлым?

**Тамара ГАБРУСЬ,**
**кандыдат архітэктуры,**
**старшы навуковы супрацоўнік**
**Інстытута мастацтвазнаўства,**
**этнаграфіі і фальклору Акадэміі**
**навук Беларусі**

● Касцёл Міхаіла-Архангела ў Цімкавічах. План.
● Унутраная акоўка ўваходных дзвярэй.
● Вонкавая акоўка ўваходных дзвярэй касцёла.
● Фрагмент інтэр'ера.

Фота з архіва Інстытута.

# РУЖЫ ЖЫВЫЯ І МЁРТВЫЯ

**Галіна БАГДАНАВА**

Апавяданне



Ён нарадзіўся ўзімку... Калядная сцюжа. Россып блакіцістага снегу. І зорная бездань Сусвету. Недзе там, далёка-далёка, глыбока-глыбока ў вышыні запалілася новая зорка. Ягоная зорка-апякунка. Ён ішоў пад ёю і — рып-рып — сціналіся, рассыпаліся дыяментамі ў ліловым святле ліхтароў крохкія слюдзяныя імглінкі. Ён апусціў пухнатыя рудыя вушы шапкі і ўсю дарогу пяшчотна захінаў куртку. Грудзям было колка. Не ад цёплага мамінага швэдара. Ад шыпоў. Ружы, нават такія аксамітныя, пунсовыя ружы не растуць без шыпоў...

*

— Гэта ты? Нарэшце...

Сумныя, сумныя, самотныя жончыны вочы... Усе ўжо за сталом. На падпітку. Меладычна дзынкае крышталь. І захліпаецца, плача на кухні чайнік... Ён прыйшоў да гарбаты. Але цешча замітусілася. Прынесла яму кавалак гусі, печаных яблыкаў, хрумсткай зафрыцуранай бульбы, мясной салаты... І смяшлівыя, гаваркія госці — жончыны аднакласнікі, аднакурснікі, родзічы таўханулі адзін аднаго ў бок, змоўклі на паўслове. Каб не прапусціць ягонага, мужавага тоста...

— Будзь шчаслівым, Вера...

Ружы паставілі ў спальні. І цемра варухнулася, затрымцела, удыхаючы іх мяккі, салодкі водар... Вера запаліла святло і ўздыхнула...

— Павя́лі... Шкода... Такія кветкі... І павя́лі...

Яму хацелася крычаць. Плакаць і крычаць... Яны ж яшчэ былі жывыя. Іх можна было ўратаваць. Абрэзаць. Пакласці ў ванну. У рэшце рэшт намаляваць... Яна ж, Вера, была мастачкай. І хоць не верыла ў яго, верыла ў свой талент...

*

— Трэба было падсыпаць у ваду, дзе стаялі ружы, цукру... Яны любяць салодкае...

Надзея не зводзіла вачэй са свайго фужэра... Апошнія бурбалкі павольна падняліся з донца і расталі... Шампанскае выгнулася. А ён, ён глядзеў на яе рукі. Далікатныя, мяккія, з акуратнымі жамчужнымі пазногцямі...

— Мая мама піла толькі перад тым, як есці. А потым ужо толькі закусвала. Казала, так не сп'янееш...

Ён адчуваў, што п'янее, словы рабіліся мляўкімі, расцякаліся, як алей па кляёнцы... І перастук нажыкаў, відэльцаў, смех і ўсхліпы, і нават музыка глухлі, патаналі ў цыгарэтнай смузе кавярні... Ціша перад бурай. Віск, разбітыя талеркі, суровы міліцыянер... Струнны квартэт больш не зайграў...

Надзея нават не паспытала марожанага. Яны зноў выйшлі ў завею. Густыя мяккія снежныя клапці вальсавалі і павольна ападалі, сцякаліся ў сумёты... Барханы... Барханы... Яны ішлі па снежных барханах. Праспект на вачах ператварыўся ў халодную пустыню...

— Зляпі мне снегавічка...

Тры шарыкі-кругляччкі. Адзін пад адным... Снегавік атрымаўся ростам з немаўля. Ён паставіў яго ля вітрыны універсама. Прыклеіў ручкі і нос. Смешны, доўгі, загнуты да зямлі нос.

Назаўтра была адліга. Дождж. Снежныя гурбы расцякліся лужынамі. Занятыя кожны сваімі клопатамі і ён, і Надзея забыліся пра свайго снегавічка.

*

Надзея нарадзілася вясною. А Люба, як і ён, як і ягоная былая жонка,— зімою.

Не зашпіляючы халаціка, яна саскочыла з крэсла, падміргнула і засмяялася.

— Цяпер ты мой, зусім мой...

А калі ён пайшоў, Люба падвесіла ружы галоўкамі ўніз. Яны задыхаліся, прасілі піць... Але яна не чула. Яна паехала да бацькоў па гітару.

Праз некалькі тыдняў Люба зноў запрасіла яго да сябе. Ён сеў у крэсла і ў адмыслова сплеценым з блакітных і белых стужачак кошыку ўбачыў... свае ружы. Пунсовыя пялёсткі шчыльна прыпалі адзін да аднаго. Бы дзіцятка сцяла кулачкі і застыла...

— Ну як? Табе падабаецца?

Вядома, вядома падабаецца. І шампанскае, і пірог, і гітара... І голас... Глыбокі светлы голас...

Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прывяла...

Так-так... Ён пра гэта толькі і марыў... Зараз прыпасці да яе круглявага пляча. І забыцца... На ўсё, на ўсё забыцца. Памятаць толькі маму... Яе парэпаныя, спрацаваныя... Яе самыя пяшчотныя ў свеце рукі... Зморшчаны твар і журлівыя вочы...

— Я цябе кахаю...

Ён нікому ніколі не казаў гэтых слоў...

А Люба, Люба б і не пачула... Адклала гітару, падміргнула, выпіла шампанскага... І пайшла, пайшла ў другі пакой. Яна не верыла. Папросту яна яму не верыла...

*

А на 8 Сакавіка... Ён сам не рашыўся. Папрасіў свайго сябра занесці аксамітныя пунсовыя ружы Надзеі... У фае інтэрната пахла кіпячонай бялізнай і смажанай бульбай. Надзея выйшла, ускінуўшы на спартыўны касцюм сваё светла-шэрае зімовае паліто. Яна прыпала вуснамі да пялёсткаў і ўсміхнулася...

— Дзякуй. Я ніколі не бачыла такіх чароўных кветак. Я запомню іх на ўсё жыццё... Іх пэўна варта было б засушыць. Але я не люблю, я баюся сухіх, мёртвых кветак. Засушыць кветку тое ж, што засушыць жывога чалавека. Чалавек павінен расці, сталець, мяняцца... Я ведаю, самае цяжкае кахаць яго такім, які ён ёсць сёння, якім будзе заўтра... А заўтра, заўтра будзе заўтрашняе... Я іх падрэжу, пастаўлю ў салодкую ваду і не звяду з іх вачэй... Пакуль не ападзе апошні пялёстак. Яго я засушу сярод сваіх вершаў... І калі ў мяне народзіцца сын... Я вельмі хачу, каб мой сын вось так, нечакана падарыў сваёй каханай чароўныя пунсовыя ружы... А Алесю... Алесю перадай, што я веру ў яго... І ў ягоную зорку веру...



**Валянціна КУКСА**

АПАВЯДАННЕ

УПЕРШЫНЮ Ў «БЕЛАРУСІ»

# ПАЛЯВАННЕ Ў ЗАПАВЕДНІКУ

Панова. Радасная з'ява для паляўнічых. А вось Пятра, які працаваў палясоўшчыкам у тутэйшым лесе і таксама лічыў сябе неблагім паляўнічым, упершыню яна не ўзрадавала. Ён як бы і не заўважыў яе.

— Схадзі ў пушчу, развеешся трохі,— прапанавала жонка.— Нічога цяпер ужо не зробіш. Жыць неяк трэба.

— Змоўкні! — буркнуў Пятро. Ён не хацеў працягваць размову, бо кожнае жончына слова магло закрануць яго крывавую рану. Цяжка зірнуў на Кацярыну. Ведаў, што яна таксама шукае ратунку ад пякучага болю, але ідзе да людзей, а Пятро маўчаў які ўжо час.

Усё перамяшалася ў яго разуменні жыцця, перакулілася з ног на галаву. А сёння, нібыта на рэчцы пасля крыгаходу, прыйшла заспакоенасць. «Неяк жыць трэба»,— успомніў ён Кацярыніны словы. «Неяк» ён не зможа. І дзяцей так вучыў. А жыццё да яго жорстка паставілася...

Не снедаючы, апрануў кажух, Андрэйкаву салдацкую аблавушку, павесіў на плячо стрэльбу і пахрустаў мёрзлым снегам да пушчы. Усё было наўкола звыклым і ўсё роўна новым. Снег зіхацеў у промнях сонца. Вячыстыя елкі цяжка стагналі, гайдаючы на сваіх прыгорбленых спінах груваcткія белыя ношы. Ад сонца снег трошку раставаў, а за ноч зноў замярзаў, іскрыстымі кропелькамі спадаў па хваёвых іголках.

— Як слёзы,— прашаптаў Пятро.

Раней ён убачыў бы ў гэтым зіхаценні нешта цёплае і прыгожае і абавязкова паказаў бы Андрэйку. Але цяпер Пятро ў пушчы адзін. Андрэйка чамусьці так і застаўся ў Пятра ў памяці хлапчуком-падлеткам.

Гайсануў вецер, хіснуў яловую галінку, і пачуўся ціхі-ціхі звон ледзяных карункаў на ёй. Стары абцёр з пасівелых вусаў ледзяныя пацеркі, паправіў стрэльбу, абышоў маладую ялінку і ўбачыў роўны шнурочак лісінага следу. Праз колькі дзесяткаў крокаў сляды апісалі пятлю і зніклі за пяньком. Стары падышоў бліжэй: шэрыя пярынкі, кропелькі крыві, утаптаны снег, і тонкі шнурочак следу драпежніцы зноў пацягнуўся ўдалечынь.

— Пад'ела і пайшла далей,— падумаў Пятро.— Знайшла-такі і ў снезе. Дык што ж выходзіць? Хто мацнейшы — той і пераможца? Той выжывае? Не, у людзей можа стацца і наадварот: мацнейшы той, хто загінуў. Ох, Андрэйка, Андрэйка! — застагнаў Пятро.— Ну, і навошта табе трэба было звяртаць увагу на ўсё ўсякае? Другім жа як ёсць, так і добра. І жывуць, яшчэ й як жывуць!

Зноў нясцерпным болем зайшлося сэрца. Чалавеку хацелася крычаць. Але хто яго пачуе ў гэтым глухім лесе? Ён цяжка ўздыхнуў і прысеў на пянёк.

— Не, бацька, цяпер ты не так гаворыш, як раней. Хіба не ты вучыў мяне быць добрым і сумленным? Чаму ж ты не навучыў мяне яшчэ змагацца за дабро і справядлівасць?

Пятро не здзівіўся ўяўнаму голасу сына. Апошнім часам ён нават уголас часта гутарыў з Андрэем, спрабуючы знайсці нейкае выйсце...

— Я думаў, што табе не давядзецца змагацца.

— Ты разумны, бацька, як жа ты прагледзеў, што дзеецца вакол цябе?

— Сынку, мой бацька бачыў трохі далей за мяне, бо ён быў галодны, а я, наеўшыся хлеба, стаў слепаватым. Я бачыў пушчу, яе багацце, любіў яе. І цябе, як мог, далучаў да свайго жыцця...

— Чакай,— запярэчыў сынаў голас.— Ты ніколі не думаў, чаму Паляшук застаўся на гэтай зямлі? Хіба мала ворагаў налятала сюды? Хіба мала нас білі і палілі? Хіба не былі мацнейшыя за нас нашы ворагі?

Пятро задумаўся.

— Можа і былі мы слабейшыя ці бяднейшыя за нашых ворагаў, сынку, але мы карані і жылы гэтай зямлі. У гэтым наша сіла. Разумееш? Мы не тое, што перамаглі, мы проста не маглі іх сцярпець.

Пятро ўспамінае, як не раз стараўся пагаварыць з ім Андрэй на гэтую тэму, і прыгадалася гісторыя, калі Андрэю мінаў чатырнаццаты гадок.

Не адрозніш, калі канчаецца вясна і пачынаецца лета. Усё раптам зацвіце, у птушак жаўтаротыя птушаняты пішчаць у гняздзе. Жыццё ў поўным разгары. У такі час пра паляванне грэх нават думаць. Аднак менавіта цяпер у пушчу завіталі людзі з вобласці. Палясоўшчыкам паведамілі, што прыязджае камісія. Як пачуюць стрэлы, каб не рабілі пярэпалаху. Маўляў, камісія захоча пазабаўляцца, адпачыць ад кабінетнай працы. Часта наязджалі такія камісіі ў пушчу і зніклі ў яе глыбіні на некалькі тыдняў. Туды кожны дзень вазілі свежыя часопісы і газеты. Каб, крый божа, тыя, хто ў пушчы, не адставалі ад падзей. Галоўнае, каб ведалі, што дзеецца ў свеце, бо ў нас жа — усё добра.

У той дзень Андрэйка разам з бацькам быў у пушчы. Каб ведаў Пятро, што такое давядзецца пабачыць!

...Пяць чорных легкавушак павольна ехалі па лясной дарозе. У першых дзвюх, акрамя шафёра, сядзелі па тры чалавекі, у наступных дзвюх — па два, і ў апошняй толькі шафёр. Спыніліся на палянцы. Усе выйшлі, азіраліся вакол, гаманілі. Спякота. Нават камары і машкара ленаваліся лётаць. Цішыня стаяла неверагодная. Праз якую хвіліну з апошняй легкавушкі выйшаў шафёр, трымаючы ў руках саламяны капялюш. Паднёс яго да лысаватага чалавека. Той хутка схаваў сваю бліскучую галаву ад спякотнага сонца пад капялюш.

— Тату, хто гэта? — запытаў Андрэй.

— Камісія, сынку.— Змрочна адказаў Пятро. І рушыў далей ад гэтага месца.

— А што яны будуць рабіць? — не змаўкаў сын.

— Адпачываць. Хадзем!

— Тату, а чаму лысаму капялюш прынеслі? Хіба ён сам не мог узяць? Няўжо з вобласці гналі сюды машыну толькі дзеля таго, каб прывезці капялюш? Дзядзька Кандрат журыўся, што паліва няма на запраўках, а тут...

— Змоўкні, Андрэй! — рашуча спыніў Пятро сына. Такая дзіцячая непасрэднасць напалохала яго.— Занадта ты разумны стаў. Не твая гэта справа!

Хлапчына разгублена слухаў незразумелыя бацькавы папрокі. Праз які час зноў загаварыў:

— Ты ж іншы раз кажаш «моладзь, наперад!». Чаму ж зараз ты загадваеш мне маўчаць?

Пятро і сам не ведаў, як растлумачыць сыну. Бо пра такія «камісіі» яму, Пятру, было забаронена гаварыць...

... Пятро не адчуваў часу, марозу, нерухома седзячы на тым жа пяньку, каля якога нядаўна адбылося паляванне лісіцы на курапатак. Вочы старога нерухома глядзелі на кропелькі крыві, якія выразна чырванелі на белым снезе. Перад вачыма зноў паўстаў той спякотны дзень.

...Пачуўся тупат коней, брахалі сабакі, улюлюкалі людзі. Гоман нарастаў. Пятро паглядзеў на Андрэйку. Хлопец не разумеў, што адбываецца, і запытальна паглядзеў на бацьку. Той нічога не паспеў адказаць. Пачуліся стрэлы. Андрэй прысеў ад страху. Пятро стаяў побач. Паўз іх прабегла ласіха, дакладней, праплыла. Танканогая, гарбаносая, з горда ўскінутай галавою. Таўстапузая. Яна скочыла ў гушчар, але адтуль пыхнула сінім дымам. Ласіха хіснулася, неяк здзіўлена падняла галаву, крутанулася; і Андрэйка пабачыў, як у яе на шыі шырылася чырвоная пляма, спаўзала крываваю стужкаю па шэрай поўсці і спадала на траву. Грымнуў яшчэ адзін стрэл. Ласіха прыпала на пярэднія ногі. Зноў падхапілася, але не паспела зрабіць ніводнага кроку: з-за старой, разбітай маланкай хвоі высунулася дула. Зноў грымнуў стрэл. Ласіха павярнула галаву ў яго бок і дзікім позіркам уставілася на чалавека ў саламяным капелюшы. Цяпер той смела выйшаў з-за дрэва, спакойна назіраў, як падала на зямлю ласіха. Узняў стрэльбу і апошні раз націснуў на курок, так, для форсу. Здранцвелыя Андрэйкавы вусны

пабялелі, вочы гарэлі дзікім агнём болю і нянавісці.

— Тату! Яна ж цельная! Чуеш? Цельная! Тату, гэта не камісія, гэта браканьеры! Іх трэба пад суд!

— Не, сынку, гэта камісія. І жаліцца нам няма каму.

— Як няма каму? У міліцыю!

— Хадзем, Андрэйка, дадому. Хадзем...

Пятро не заўважаў, што ў прасторы сталі лётаць мяккія халодныя сняжынкі. Яны ціха прысядалі яму на рукі, тут жа знікалі, убялялі яго плечы, галаву, гойдаліся на галінках, нябачна зліваліся са снегам на зямлі. Перад вачыма было лета...

...Каля веснічак спыніўся паштальён.

— Гэй, Кацярына, трымай пісьмо ад свайго вайскоўца! Ці не апошняе?

— З дня на дзень чакаем. Дзякуй табе.

— Нясі хутчэй сюды! Унурылася! — гукнуў Пятро і выйшаў з хлява. Паставіў каля дзвярэй вілы.— Чытай уголас.

— От, піша, што ў міліцыю пойдзе працаваць пасля арміі.

— Дай сюды!

«Я, тату, вырашыў, што палясоўшчыкам няблага, але мне хочацца мець нейкія большыя правы, чым палясоўшчык. Памятаеш тое паляванне ў спякоту?

Я некалі назіраў за жабаю. Яна пішчала, упіралася, але лезла проста да вужа. А ён нічога не рабіў. Ён неадрыўна, не лыпаючы вачыма глядзеў на яе. Гіпноз! Але ж ёсць і над вужакаю сіла — вожык. Без гіпнозу. Вожык з'ядае вужаку, вужака — жабу, і так увесь час у прыродзе. А мы — людзі, і ў нас ёсць розум. Вось і думаю, што ён мне дапаможа».

— Дурань, ты мой дурань. Ты не падумаў пра тое, што ўсё на Зямлі падпарадкоўваецца Закону Прыроды! — прагаварыў Пятро.

Праз тыдзень Андрэй прыйшоў дадому. Пасталеў, моцны, прыгожы. Не хадзіў, а лётаў. З пушчы не вылазіў. Абхадзіў усе свае патаемныя мясціны. Карміў з рук вавёрку каля векавога дуба, бачыў ваўчанят, слухаў спеў дразда, назіраў за работай дзятла. Сачыў за вывадкам парасят-дзікоў. Падсцярог мядзведзяў, калі яны ласаваліся дзікім пчаліным мёдам. Векавая пушча не ўсім магла адкрыць свае таямніцы, але Андрэй быў свой у гэтым лесе, і ўсё, што яму траплялася на вочы, было самым загадкавым і дзівосным.

Хлопец адпачываў нядоўга. Хутка апрануў міліцэйскую форму. Уладкаваўся на працу ў... пушчу. Радасці не было канца.

— Тата! Я буду працаваць побач з табою. Разумееш? Вось і цудоўна! У пасёлак ездзіць буду, а жыць тут з вамі.

Так ішлі месяцы, і ўсё часцей смутак гасцяваў у Андрэйкавых вачах. Жыццё ў пушчы не мянялася. Каб што-небудзь змяніць — не хапала сілы.

— На рабоце што здарылася? — спытаў бацька.

— Ды старшына нешта чапляецца. Учора кудысь ездзілі. Мабыць, на лася. Ці не забілі, ці папаліся...

— Ты дзе змоўч.

— Ну, як ты змоўчыш?! Ледзь-ледзь размножыліся, і зноў палююць. Так усё вынішчыць можна.

— Менш кніжак чытай.

— Што менш, што менш? Хіба не цікава, як калісь каралеўскія магнаты палявалі? Вынішчылі амаль усю жывёлу... А цяпер і яны, і мы — усе давай рынемся!

— Абыходзь ты таго старшыну. Ну, змоўч.

— Пабачу.

...Выбух глухі і рэзкі. Моцна затрашчала голле. Дзікі стогн як апошні выдых не аднаго, а сотні чалавек адразу. Нешта мякка апусцілася на зямлю. І яшчэ кароткі ўздых. Лось ляжаў на зямлі, а галава была прыўзнята — маладымі каронiстымі рагамі зачапіўся за тоўстую галіну старой елкі.

— Гатова! — хрыпла прагаварыў адзін.

— Давай свежаваць. Часу мала. Хутка зусім развіднее.

Выцягнулі з рукзака вяроўку, завязалі за заднія ногі. Падвесілі да дрэва.

— Скура павінна быць у цане.

— Хто яе прыме цяпер?

— Ёсць месца. Асцярожней! Не парэж. Мой нож — што брытва.

— Мяса ў рэстаран. Грошы на чатырох.

— Нас жа трое.

— Загадчык чацвёрты.

— Хтосьці ідзе! — прыслухаўся адзін.

Сцішыліся. Чуўся трэск ламачча пад нагамі, цяжкае дыханне. Нехта бег проста сюды.

— Андрэй?! Ты як тут апынуўся?

— Падла! Ты ж казаў, што не браканьернічаеш! Старшына-а!

— Змоўкні, браток! — сціпла сказаў старшына.— Іх больш чым дзве тысячы ў пушчы, а ты аднаго шкадуеш. А колькі ЯНЫ б'юць? — падняў угору палец старшына.

— А ты навошта пастаўлены? Таксама для забойства?! — Андрэй схапіў старшыну за грудкі.

— Марш адсюль! С-саплё! — штурхнуў ён Андрэя. Але хлопец яшчаркай крутнуўся каля яго і заехаў кулаком у твар раз'юшанаму старшыну. Падышлі тыя двое, што збоку назіралі за Андрэем і старшыной. У аднаго з іх у руцэ быў нож. Лязо ў крыві.

— Ты, хлопец, ідзі лепей дадому. Ведаеш, што такое грошы?

Трэці спрытна развярнуўся і коратка, але моцна лупянуў Андрэя пад дых. Ад нечаканасці Андрэй упаў. Падняў галаву і ад удару ў паясніцу зноў упаў. Удары пасыпаліся з усіх бакоў.

— Бі без сінякоў,— пачуў Андрэй. Падняцца не было сілы. Яго паднялі і моцна стукнулі аб зямлю.

— Хлопцы, айда адсюль! Рэж вяроўку! Рэзкі і дакладны ўзмах — туша падае на зямлю. Сарвалі вяроўку з мёртвых і яшчэ цёплых ласёвых ног. Ніхто не чуў трэску ламачча пад нагамі браканьераў, затым мох праглынуў і гэтыя гукі.

...Сонца нібыта ўкрадкам выглянула з-за зямлі, праз густое голле яловага лесу пяшчотна зазірнула ў цёмны куток, убачыла юнака і ласкава пагладзіла яму твар, паказытала промнем вейкі...

Нейкая дзівосная птушка свіснула так радасна сонцу, але тут жа змоўкла, калі ўбачыла злачынства. Ціхенька свіснула зноў, але ўжо ад агіды, крыўды і жалю.

І можа ад гэтага ласкавага дотыку сонечнага цяпла, ад ціхай і пяшчотнай птушынай песні адкрыў вочы юнак. Павярнуўся тварам да травы — росная, яна умыла яго — і цяжка падняўся. Непадалёк нерухома ляжаў лось. Зусім яшчэ малады.

Змучаны, пабіты Андрэй паплёўся дадому. Бацька ўпраўляўся па гаспадарцы. Убачыў сына — адразу зразумеў, дзе той быў.

— Ты ж даўно не школьнік. Што ты хочаш змяніць?

— А ты што, радыё не слухаеш? Газеты не чытаеш? Усё кругом мяняецца! Трэба ж некаму брацца!

— Дурань ты мой. Мала што ў газетах пішуць.

Андрэй прысеў на лаву каля плота, апусціў галаву, абхапіў потым яе рукамі.

— Трэба ж некаму пачынаць,— паўтарыў ён.— Я ім гэтага не дарую.

— Сыну, ці паспееш?

Бацька як у ваду глядзеў. Праз некаторы час каля брамкі спыніўся паштальён.

— Гэй, хто ёсць? Павестку прынёс вашаму хлопцу!

Бацька прачыніў акно.

— Ці ж то ён браканьерам стаў? Ах, людцы мае! А куды ж гасподзь бог глядзіць?

— Што хочаш, тое зробяць. Сфабрыкавалі факты, паказанні і вось — вінаваты... Нібыта ён лася забіў.

— Дык людзі ж ведаюць і цябе, і твайго сына. Людзям то можна паверыць.

— Супроць фактаў не папрэш. Тыя, хто іх зварганіў,— прыезджыя. Хто ім што дакажа? Дый улада! Супроць яе таксама не папрэш. А суд закрыты.

...Пасля суда Андрэй вярнуўся зусім знішчаны. Прысудзілі вялікі штраф.

Андрэй быў змрочны. Бацька маўчаў. Доўга так сядзелі. Потым паціху-памалу пачалі гаварыць.

— Няўжо так нічога і не зменіцца?

— Мала што я разумею, сынку, у тых зменах. Вунь, маці. Як хадзіла да цялят, так і ходзіць. Іван як чысціў кароўнік — так і чысціць. Міцяй як пасвіў статак — так і пасвіць. Ад нас мала што залежыць. Нам кажуць — мы робім. Было б каму што добрае казаць.

— Кажуць, тату, добрае, але пакуль яно дойдзе да нас, то палова, як не больш, губляецца, замяняецца. А на месцы вырашаюць больш па-старому, чым па-новаму. Не такая лёгкая справа пачаць новае. Усё тут у звычцы чалавека. Кожны стараецца ў першую чаргу сабе. Каб найбольш, найсмачней... А калі яшчэ ў руках улада? Яго ж, чалавека, ніхто не вучыў карыстацца ўладаю.

Памятаеш бабулю Ярыну? Калісь я ў яе запытаў: «Калі найлепш жылося?» А яна кажа, што пры цару. Бо ён дазволіў мець столькі зямлі, колькі хто хацеў. А ці ж усе маглі мець столькі, колькі хацелі? І вось гэтае «хачу» ніколі не спалучаецца з «магу». Колькі б чалавек ні меў — усё роўна ён яшчэ нечага хоча.

— Не пакутуй так.

— То давай будзем расці бы трава! Навошта тады нейкія законы пішуць? Для каго?

Бачыў Пятро, як шукае выйсце Андрэй, шукае аднадумцаў. Але іх не так проста знойдзеш. Людзі прывыклі сядзець, чакаць, калі за іх хто падумае і зробіць.

— Вунь, зноў, чысцяць, мятуць, фарбуюць, дарогі рамантуюць... Значыць, зноў «ка-мі-сі-я!» Няўжо так нічога і не змянілася? Хіба толькі тое, што я тады быў падлеткам і толькі назіраў за паляваннем, а цяпер яго ўдзельнік? Так, буду вартаваць злачынцаў высокага рангу. І тады ласіха была цельная, а цяпер яна з ласянятамі. Так?

— Супакойся, Андрэй. Мо б ты ў адпачынак пайшоў? На мора паехаў?

— Мне на службу заўтра. А ў адпачынак я зімой пайду.

Маці паліла ў печы. Пятро пачуў, як рыпнулі дзверы. Устаў з-за стала. У хату увайшоў Андрэй.

— Ты не на службе?

Пятро паглядзеў у вочы сыну. Спакутаваны, невыносны пагляд яго шэрых вачэй збянтэжыў старога.

— Праходзь, Андрэй, млынцоў паясі,— пазвала Кацярына.

Андрэй адшпіліў кабуру з пісталетам, зняў фуражку, паклаў на лаву. Сам прымасціўся ў кутку каля стала. Да ежы не дакрануўся.

— Зноў прыехалі.— Гарачымі вачыма Андрэй зірнуў на бацьку.

У Пятра захаланула сэрца.

— Ды не звяртай увагі. Ну, што табе? Так было...

Андрэй выйшаў з хаты. Стаў на парозе. Мо ўглядаўся ў далёкую сінь пушчы, а мо ў блізкі малады ельнік, а мо слухаў шчымлівую песню івалгі ці пастук дзятла?.. Сышоў з прыступак і пайшоў у бок лесу. Вярнуўся. Узяў пісталет.

— Куды ты, сынку? — спытала Кацярына.

— На службу.

Пятро падаў яму фуражку, глянуў у заспакоеныя Андрэевы вочы і супакоіўся сам.

— Здалося,— прашаптаў Пятро, гледзячы ўслед сыну, які рашуча крочыў па сцежцы. Пятро павярнуўся да Кацярыны і тут жа пачуў, як коратка і глуха бухнула...

Сыпала снегам. Зніклі чырвоныя кроплі, шэрыя пярынкі. Пятро цяжкім позіркам абвёў узлесак. Здранцвелая пушча спала пад белым абрусам. Падняўся з пянька і рушыў дадому. Насустрач ішла Кацярына.

— Дзе ты так доўга? Хіба так і прасядзеў на пяньку? — яшчэ здалёк гукнула Кацярына.— Цябе Кастусь шукаў.

— Што ён хацеў?

— Надумаўся хляўчук перарабляць.

— Зімою? Знайшоў час.

— Самы час. Вясною і ўлетку свая работа. Неадкладная. А тут... Толькі б пачаць.

— Толькі б пачаць...— паўтарыў Пятро.— А як жывёла? Куды ён яе паставіць? Мароз жа...

— Знойдзе які закутак. А то ж і яна не будзе маўчаць. Будзе рохкаць, мукаць, бэкаць... Будзе варушыцца і не дасць вам прахалоджвацца. Ты, Пятро, як малы,— усміхнулася Кацярына. Узрадавалася, што ён загаварыў.— Хіба ты не дапаможаш? Ты, Антось, ды Сцяпан...

— Дапамагу, чаму ж не.

Памаўчалі.

— Бачыш, якая справа. Калі будуеш дом — пачынаеш з падмурка, асновы. Ад гэтага залежыць моц будынка, а калі перарабляеш — то пачынаеш зверху, з даху. Разумееш? Гнілое выкідваеш, а новае ставіш. Вось яно як.

А жыццё шыбуе. Ні на што не звяртае ўвагі смерць. Косіць усіх, хто б ёй ні трапіўся. Косіць жывых, а потым яшчэ і мёртвых. Пасля сябе яна пакідае памяць. Добрую ці не — гэта ўжо залежыць ад яе ахвяр.

А жыццё бяжыць. І крута яго не павернеш.



Людміла ХЕЙДАРАВА

МІНІЯЦЮРЫ

## ПРАДВЫЗНАЧАНАСЦЬ

«...Что боги в этом храме мы!»... Глупства. Які я Бог? Можа, нехта, недзе там... Але чаму — недзе? Вунь Глобы-астролагі... І няўжо, сапраўды, чалавеку ўсё прадвызначана? І гэты настрой? І гэтыя думкі? І нават гэтая герань на падаконніку?.. Не хачу! Не жадаю, як трамвай па рэйках. Вось вазьму і скіну гэты гаршчок з геранню. Насуперак прадвызначанаму. І ўсё пераменіцца — я, час, людзі... Не-а, не верыцца нешта, што пераменіцца... А потым прыбірай, пэцкайся...

— Завяжы мне бант!

— Што?

— Бант завяжы.

— Навошта?

— У школу іду.

— Ты ж была ў школе.

— У нас ме-ра-пры-ем-ства!

— Якое яшчэ мерапрыемства! Цьфу ты, слова якое прыдуманае!

— Пазакласныя чытанні.

— Па-за-клас-ны-я... Няўжо нельга сказаць — вольныя?.. І што?

— Камісія будзе з райана.

— Ка-мі-сі-я... Рай-а-на...

— Леаніда Сцяпанаўна даручыла мне паднядь руку і сказаць: «Калі я чытала апавяданне пра Герасіма, мне нават хацелася плакаць, так было шкада яго!»

— Каго — яго? Герасіма?

— Напэўна... Герасіма...

— Чаму — напэўна?

— Леаніда Сцяпанаўна не сказала.

— А табе было шкада?

— Было... Шчанюка, якога задавіў Герасім.

— Пра гэта і кажы.

— А раптам няправільна?

— Правільна... Няправільна... Ты што — задачку рашаеш?

— А як трэба?

— Ты сама ведаеш.

— Я пайду?

— Ідзі...

Цікава ўсё-ткі, што яна скажа там, на мера-пры-ем-стве? Падніме сваю худзенькую ручку і бойка — пра свой боль? Але ж таму гэта і мерапрыемства, што вымушае прадвызначанасці... І зноў гэтая прадвызначанасць! Спакойна. Праца ўмацоўвае дух. Бяром гантэлі. Аць-два! Аць-два!..

— Вынесі смецце!

— Што?

— Смецце вынесі! Чылентана знайшоўся! У цябе ад яго толькі і ёсць, што лысіна!

Так. Сапраўды. Чылентана з мяне не атрымаецца... Далей... А чаму не атрымаецца? Скажам, спяваць — талент трэба. А мускулы? Будуць такімі — як я захачу... Ага, трэба вынесці смецце...

## ЗНАЁМСТВА

Кіруюся да Нямігі. Не ведаю, як вы, а я заўсёды чакаю нечага большага і кожны раз губляюся, нібы не туды патрапіла. Нават астатнія знаёмыя рысы груба перакрэслены, перакроены...

Ад якіх ворагаў хаваюць цябе, Няміга?..

— Добры дзень! — урываецца ў мае думкі бадзёры голас.

— Добры,— на ўсякі выпадак вітаюся я, хаця не знаходжу ніводнай знаёмай рысы ў абліччы маладога чалавека.

Кідаюцца ў вочы пасінелыя ад холаду рукі, лёгкая блакітная тэніска, летнія чаравікі. На двары даўно кастрычнік.

Незнаёмец смешна перабірае нагамі — падскоквае то на адной, то на другой, імкнучыся патрапіць у мой крок.

«Што яму трэба?» — бянтэжуся я, але «дабрыдзень» прагучаў па-беларуску і гэта супакойвае.

— Вы не пазычыце мне пяць рублёў? — знаходзіць нечаканы працяг размовы няўклюдны спадарожнік. Мабыць, у мяне здзіўлены выгляд, бо ён хутка і ўчэпіста дадае:

— Я бачыў вас летам у Вязынцы, на свяце паэзіі. Вашы вершы...

— Вязынка — не «Ла Скала», — перапыняю я і дастаю апошнюю паперку.— Гры хопіць?

— Хопіць,— няўпэўнена пагаджаецца ён, кідаючы на мяне ледзь што не зняважлівы позірк. Неахвотна бярэ паперку...

Мне весела. Ад маладога, нахабнага, раскошнага праспекта я павяртаю на закопчаную грузавікамі, разруйнаваную летапісную Нямігу. Нічога, Няміга...

## БЯРЫ, ЕШ...

Голуб яшчэ быў жывым, і бяздомная ліняла кошка перад чарговым скачком выбірала момант, калі ён не біў крыламі. Я перамахнула невялічкую агароджу клумбы і... ледзь не раздушыла пушыстых кацянятак, якія назіралі за паляваннем сваёй маці. Яны зашыпелі на мяне — ваяўніча, пагрозліва, укладаючы ў гэтае шыпенне ўвесь свой страх і голад, але адступілі да сцяны дома. Кошка, нібы вагаючыся, стомлена і асцярожна выпрамілася, нетаропка павярнула да мяне галаву. У яе вачах успыхнула нянавісць, якая тут жа змянілася пагардай. Яна адышла ўбок, спакойна села, нібы кажучы мне: «Ты дужэйшая за мяне, але табе засталася лёгкая здабыча. Бяры, еш...»

**Адзін з самых яркіх прадстаўнікоў беларускага літаратурнага замежжа Юрка Віцьбіч (Георгій Шчарбакоў) нарадзіўся 2(15) чэрвеня 1905 года ў старажытным беларускім мястэчку Вяліж (цяпер у Смаленскай вобл.) у сям'і праваслаўнага святара. Першае апавяданне Віцьбіча з'явілася на старонках часопіса «Узвышша» ў 1929 годзе. У Савецкай Беларусі пабачылі свет яго кнігі прозы «Смерць Ірмы Лаймінг» і «Формула супраціўлення касцей». Публікацыі таго часу засведчылі імкненне аўтара да абнаўлення літаратурных форм, інтэлектуалізацыі прозы, увагу да гістарычнай мінуўшчыны Беларусі.**

**У гады другой сусветнай вайны Юрка Віцьбіч працуе ў кіраўніцтве Беларускага культурнага згуртавання, якое дзейнічала на акупаваным абшары. Ён часта выступае ў друку з публіцыстычнымі артыкуламі асветніцкага характару, бярэ ўдзел у вяртанні ў Полацк мошчаў святой Еўфрасінні.**

**Пасля вайны жыў у Нямеччыне, потым, да сваёй смерці ў 1975 годзе, у ЗША. У 1956 годзе выдавецтва «Бацькаўшчына» выпусціла ў Мюнхене кнігу Віцьбіча «Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман». Гэта мастацкі нарыс, прысвечаны паходжанню беларускіх геаграфічных назваў. Выкарыстоўваючы гістарычныя крыніцы, народныя паданні, песні, літаратурныя помнікі, пісьменнік вядзе гаворку больш чым пра пяцьсот найменняў. Шырокую вядомасць сярод эмігрантаў розных нацыянальнасцей з СССР імя Юркі Віцьбіча набыло пасля выдання кнігі ягонай публіцыстыкі на расейскай мове «Мы дойдем!» (Нью-Йорк, 1975).**

**«Мы дойдзем!» — гэта своеасаблівы лірычны маніфест беларускай эміграцыі, дзе з незвычайнай сілаю гучыць туга па Радзіме і вера ў вяртанне на зямлю, «дзе зьвіняць званы Сьвятой Сафіі і Божая Маці з Вострае Брамы ўздымае над намі свой амафор».**

**Прапанаваныя чытачам «Беларусі» тэксты ўзятыя з альманаха твораў беларускіх літаратараў-эмігрантаў «Ля чужых берагоў» (Мюнхен, 1955).**

**Уладзімір АРЛОЎ.**

**Юрка ВІЦЬБІЧ**



# МЫ ДОЙДЗЕМ!

Калісьці, у мінулым пяшчотна агарнула нас прыгожае, непаўторнае каханьне. З таго часу на суровым жыцьцёвым шляху прыастыгла сэрца, але каханьне назаўсёды засталося з намі, як застаецца пад грубым і халодным лёдам бурлівы і неўтрапёны струмень. Здаецца, яе звалі Марыля, а магчыма — інакш. Ейнае імя ведаеце сёньня толькі вы адны.

Часам, у гадзіны падарожжа, вы радасна ўздрыгнеце, заўважыўшы наперадзе знаёмыя постаць і ходу. Вы мімаволі прысьпяшаеце крок і, параўняўшыся, адразу пераконваецеся ў сваёй памылцы. Не, гэта не яна. Тая мела прывабны сялянскі твар з тонкімі абрысамі вуснаў, зь сінімі задуменнымі вачыма, і валасы ейныя нагадвалі кужаль. Гэта не яна. А часам пачуецца вам зводдаль знаёмы сьмех. Вы ўсхвалявана сьпяшаецеся туды, адкуль ён далятае і, яшчэ не даходзячы, спыняецеся. Не, гэта таксама не яна. Сьмех тае нагадваў і гутарку лясное крыніцы, і сьпеў жаўрука над жытам, і водгульле далёкае жалейкі. Гэта не яна. Гэта не Марыля.

Чаму-ж зьдзіўляецца іншаземец, калі заўважыць, што мы зь юнацкім спрытам сьпяшаемся да нібы знаёмых рэкаў, а потым разгублена аглядаем іхнія берагі. Камусьці з нас спачатку прыгадаўся ціхі Сож пад сівым Крычавам, камусьці хуткаплынная Дзьвіна пад зацятым Вяліжам, камусьці-ж здалося, што гэта ахутаны паданьнямі бацька Нёман паволі агінае Новы Сьвержань. І толькі, трапіўшы на бераг, мы пераконваемся, што гэта нямецкі ідылічны Рэгэн плыве ў Дунай, адлюстроўваючы ў сабе крушні замкаў Обэрпфальцу, што гэта амэрыканскі руды ад нафты Дэлявэр сьпяшаецца праз пракураную хвабрычным дымам Пэнсыльванію, што гэта аўстралійскі Мурэй скочваецца з узвышшаў Уэльсу да лагчынаў кэнгуровае Вікторыі. Ня йдуць па іх лайбы і плыты, не схіліліся над імі ніцыя бярозы і вербы і не амываюць яны сьвятое Барысавае каменьне. Не, гэта ня Сож, ня Дзьвіна і ня Нёман.

Чаму-ж зьдзіўляецца іншаземец, калі мы, угледзеўшы наперадзе прыгожыя ўзгоркі, хутка ўзьбіраемся на іх, а потым з сумам дзівімся вакол. Адным з нас здалося, што гэта Віцебская Града, другім, што Наваградзкі Горб, а трэцім прыгадаліся маляўнічыя Панары пад Вільняй. Але зь іх мы бачым не гасьцінцы й курганы, не гарадзішчы й капліцы, а гмахі Нью Ерку, капальні Льежу і докі Буэнос Айрэсу. Не, гэта ня Віцебская Града, не Наваградзкі Горб і не Панары.

Чаму-ж зьдзіўляецца іншаземец, калі мы, дзеці адвечных пушчаў, пабачыўшы лес, кідаемся да ягоных абдымкаў і без спагады спакідаем іх. Хтосьці з нас спачатку прыгадаў Белавежу, некаторыя — Налібокі, а нехта Вокаўскі Лес. Але-ж у запраўднасьці — гэта Еластонскі Нацыянальны Парк на мяжы Уайёмінгу і Мантаны, а можа амазонскія джунглі Бразыліі, калі не канадыйская тайга. Тут не вандруе зубр, не кукуе зязюля і не чырванеюць духмяныя суніцы. Не, гэта не Белавежа, не Налібокі і ня Вокаўскі Лес.

Чаму-ж зьдзіўляецца іншаземец, калі, пачуўшы аддалены звон, мы пабожна падымаем руку, каб перахрысьціцца, і нечакана апускаецца яна. Нам здалося, што гэта зьвіняць званы Сьвятой Сафіі, а можа Жыровіцаў, а магчыма касьцёлаў Вільні і Божая Маці з Войстрае Брамы ўздымае над намі свой амафор. Але-ж гэта толькі мары. Незнаёмыя праведнікі глядзяць каменнымі вачыма на нашае бесхацімнае вандроўе.

І мы ідзём далей. Ідзём празь дзень, праз ноч. Ідзём і ўзімку і ўлетку. Ідзём і ў навальніцы і ў сьпёкі. Мы цягнем з сабой у сьціплых хатылёх няўтольны сум, што балейшы ад Гімаляяў і глыбейшы за Атлянтыку. І ніколі ня можа таго стацца, каб мы не дайшлі нарэшце да свае непаўторнае любові, да сінявокае Беларусі. Занадта вялікае нашае замілаваньне ёю і занадта глыбокая варажнеча да ейных ворагаў, каб гэтае ня зьдзейсьнілася. Але я бачу, як нечакана спазма сьціснула вам горла і задрыжэлі вашыя вусны. На нашых нагах кроў і крывёю сьцякаюць нашыя сэрцы. Дык дайце руку і пойдзем далей. Ву-унь бачыце там, далёка-далёка, дзе ясьнейшае неба, зноў сінеюць рэкі, чарнеюць лясы і ўздымаюцца ўзгоркі.

Мы дойдзем! Абавязкова дойдзем! Пашчасьліў нам Божа! Так станься!

# НАД ВОЗЕРАМ ШПІРДЫНГ

Яны сьпярша па калені ў вадзе капалі бясконцыя акопы ўсьцяж ракі Пісы, потым сякерамі і матыкамі прагрызьлі праз густыя Еганізбурскія лясы глыбокія супрацьтанкавыя равы і, нарэшце, апутаўшы калючым дротам Мазурскія балоты, падыйшлі да возера Шпірдынг. Гэта былі Палякі і Французы, Украінцы і Бэльгійцы, Беларусы і Харваты, Расейцы і Чэхі. Яны працавалі ўжо два месяцы ад золку да золку і ў будзень і ў сьвяты. Іхнія сьпіны пакрыліся пісягамі ад бізуноў і кіёў. Каб не памерці з голаду, яны зьбіралі ў лясох грыбы і ягады, а на палёх, рызыкуючы адразу дастаць кулю, кралі бульбу. Пад Пісай іх было блізу дваццаць тысячаў, а да возера Шпірдынг давалакліся празь лясы і багны пятнаццаць тысячаў раззлаваных, абадраных, жывых мерцьвякоў.

Каб ты праваліўся ў прадоньне, возера Шпірдынг! Кажуць, што Немцы склалі пра цябе шмат песьняў і вершаў, дзе захапляюцца тваёй прыгажосьцю. Але Зыгмунт Врона і Міхась Данілюк, капаючы на самым беразе бункер № 138, зусім не цікавіліся вакольным краявідам. Праўда, у першы дзень, здымаючы рыдлёўкай дзёран, рослы і дужы Міхась заўважыў:

— Наша Нарач куды прыгажэйшая!

Тады нізенькі шыракаплечы Зыгмунт у сваю чаргу запытаўся:

— А хіба Нарач вашая?

Нічога не адказаў Міхась. Ён толькі так сьціснуў рыдлёўку, што яна хруснула ў ягоных руках. А ўверсе, над возерам Шпірдынг,

плылі да выраю жураўліныя касякі. Гордыя вольныя птахі віталі зямлю і людзей сваім урачыстым, падобным да мядзяных вальторнаў, крыкам:

— Курлы! Курлы! Курлы!

Адразу за дзёрнам пачаўся цяжкі грунт, які складаўся з буйнага жвіру і сухое гліны. Давялося адкінуць у бок рыдлёўкі. Цяпер Зыгмунт дзяўбаў зямлю матыкай, а Міхась калупаў яе пешняй. Пот каціўся па лобе, заліваючы вочы, і змазваў, нібы воцатам, асьмяглыя вусны. Час ад часу яны на момант спыняліся, каб перавесьці ўздых. Вось тады, выпрастаўшы сьпіну і зірнуўшы на неба, Зыгмунт сказаў:

— Нашыя журавы лятуць.

— А хіба не? — нечакана згадзіўся Міхась і крыва ўсьміхнуўся: — Чуеш, як яны нас па-польску вітаюць? — І ён дадаў пашыраную польскую лаянку, якая нагадвала крык птахаў. Пасьля гэтага ўвесь першы дзень яны працавалі моўчкі. Толькі там, далёка за возерам, бязупынку глуха варушыўся фронт. І чым глыбей улазілі яны ў зямлю, тым выразьней адчуваўся ягоны сьмяротны гул.

Пачынаючы капаць яму для бункеру, Зыгмунт і Міхась сьпярша абрысавалі рыдлёўкай патрэбнае велічыні акружыну. Цяпер акружына сваімі простаспаднымі сьценкамі апушчалася ніжэй і ніжэй. Для тых, хто яе апушчаў, яна зьяўлялася зачараваным кругам, зь якога яны аніяк не маглі выскачыць. Навет, калі-б іх не падганялі лаянкай і кіямі, яны маглі-б выкапаць глыбокую яму ў жорсткім груньце за тры дні. А калі яны гэтага не зробяць, дык на чацьверты дзень раніцою іх пагоняць на фронт, каб капаць там пад агнём гарматаў.

І Зыгмунт зь Міхасём, умываючыся потам, капалі бункер № 138. На другі дзень апоўдні зь зямлі выглядвалі толькі іхнія галовы. Час ад часу, на хвілінку спыняючыся, яны не адымалі вачэй ад возера, бо пакутвалі ад смагі. Толькі пяцьдзесят крокаў трэба было прайсьці, каб напіцца, але за гэтае расстрэльвалі на месцы. Немцы ахоўвалі жывых мерцьвякоў ад захворваньняў. Таму штодня кожны зь іх атрымліваў паўбутэльку кавы, Зыгмунт зь Міхасём капалі моўчкі. Толькі, калі над недалёкім горадам загаласілі сырэны і спалох падхапілі ўсе навакольныя гарадкі, паасобныя заводы і фабрыкі, цягнікі на чыгунках, параплавы на возеры і, здавалася, уся Нямеччына, Міхась, насупіўшы бровы, выціснуў праз зубы:

— Зноў завыла, с-с-сука!

А калі праз зямлю дайшлі да ямы далёкія выбухі шматкілёграмавых бомбаў, сказаў, скрывіўшы рот, Зыгмунт:

— Стогне, сабачая кроў!

На трэці дзень Врона і Данілюк не толькі схаваліся з галавой у яме, але, навет узьняўшы ўгару рукі, не дасягалі ейных краёў. Прышлося паставіць маленькую перасоўную лесьвіцу. Каб скончыць яму, заставалася ўсяго пяць цэнтымэтраў грунту і не ставала сілаў. І ўчора, і заўчора, і пазаўчора яны атрымалі толькі па дзьве талеркі вадкае крупені. Таму падгіналіся ногі, шумела ў вушах і пудовай здавалася матыка. Яны і бяз гэтага ўвесь час галадавалі, а цяпер яшчэ большае пагоршаньне зь ежай іх зусім падбіла. Ім навет пачало здавацца, што яны адчуваюць пах смажаніны і добра выпечанага хлеба. Нарэшце Міхась не вытрываў. Паклаўшы матыку, ён сказаў:

— Я пайду і накапаю каля дарогі крыху бульбы. Потым мы яе тут на малым вогнішчы сьпячом.

Міхась палез па лесьвіцы ўгору і адразу-ж зваліўся ўніз. На ягоную галаву і плечы абваліўся моцны ўдар кіем. І хаця ён даўно прызвычаіўся да біцьця, усё-ж, як заўсёды, гэты ўдар сьпярша абпаліў душу, а затым ужо цела.

— Назад! Ляны народ! — крычэў зьверху вахман і схіліўся, каб яшчэ раз ударыць Міхася, але той, увабраўшы галаву ў плечы, прыціснуўся да самага дна ямы. Немец харкнуў уніз, адначасна кінуў кілёграмавую булку пазелянелага хлеба і з лаянкай пайшоў далей. Тады толькі Міхась, падняўшы галаву, пабачыў у руках Зыгмунта хлеб.

Той, хто ў сваім жыцьці апухаў ад голаду, ведае, чаго каштуе скарынка, знойдзеная на сьметніку. А тут яны маюць кілёграмавую булку, якую зараз падзеляць на двух. Вось ужо Зыгмунт вымае свой складанчык. Вось ужо рэжа хлеб, адвярнуўшыся ў бок. І вось ён кідае Міхасю... тонкі акраец.

Ашчэрыўшы зубы, Міхась рынуўся на Зыгмунта. Яны білі адзін аднаго кулакамі і клюмпамі, хапалі скрыўленымі пальцамі за горла, выскубалі з каранём валасы, драпаліся, кусаліся. Яны навет не лаяліся, і толькі хрыпелі. Тая дзіравая вопратка, што ледзь толькі прыкрывала іх, цяпер зусім звалілася з плячэй. Два жывых касьцякі із сьпінамі, спласаванымі нямецкімі бізунамі, качаліся па дне ямы. І ніхто яшчэ наверсе не здагадаўся, што гэтая яма ператварылася ў ваўкоўню, дзе змагаюцца два, падобныя да ваўкоў, чалавекі.

Зыгмунт быў значна слабейшы ад Міхася, але заўзятасьць надала яму сілаў. Усё-ж барацьба была няроўнай. Нарэшце Міхась падціснуў яго пад сябе і, навалiўшыся ўсім целам, пачаў вырываць хлеб. І раптам ён войкнуў і адпоўз у бок. Зыгмунт, як мага, ударыў яго нажом у руку. Міхась рызьзём кашулі заціснуў вялікую і глыбокую рану, але ўсё адно з прабітага наскрозь мускула цурком бегла кроў. Зьбіраючы апошнія сілы, ён вылез на верх і крыкнуў:

— Браткі, ратуйце!

Сьпярша Міхасю здалося, што ўсё возера Шпірдынг ахапіла полымя. Але-ж гэта ня Шпірдынг, а Нарач. Ву-унь, на самым узьбярэжжы, гарыць іхняя вёска Юравічы. А ву-унь гарыць і ягоная радзімая хата. Каля яе дзьвярэй, падпёртых аглаблёй, стаіць нямецкі жаўнер. А ў хаце затыхаецца ад дыму жанчына. Полымя ўжо агарнула ейную саматканую спадніцу, ужо дыміцца на ёй кітлік і праз стогны яна крычыць:

— Дзе ты, Міхаська?.. Дзе ты, сынок мой?.. Ці чуеш, як памірае твая матка?..

І адразу ўсё пагасла вокал, і возера Шпірдынг зьнікла ў цемры.

Міхась ужо ня бачыў, як да бункеру № 138 беглі з усіх бакоў жывыя мерцьвякі. Зямля загрымела ад цяжкага грукату іхніх клюмпаў. Тут былі пінскія і віцебскія, гомельскія і віленскія, магілёўскія і слонімскія, менскія і беластоцкія. У іх нічога больш не засталося, акрамя змардаваных целаў і бязьмежнага суму па Беларусі. Адначасна зь імі беглі мазуры і кракавякі, варшавякі і куявякі. Вакол нерухомага Беларуса і Паляка, які прыціскаў да сябе акрываўлены хлеб, пачалася бойка. Немцы бізунамі і кіямі разагналі людзей, і яны зноў пачалі дзяўбсьці матыкамі і пешнямі грунт. Беларусы перавязалі Міхасю рану, і той апрытомнеў. Міхась ужо чуў, як групэнфюрэр, паказваючы бізуном на Зыгмунта, які стаяў із зьвязанымі назад рукамі, загадаў:

— Заўтра раніцой расстраляць!

Яшчэ ўвечары чорныя хмары зацягнулі нябесную блакіць. А ўночы на возера Шпірдынг абвалілася навальніца. Амаль безупынку асьвятлялі зямлю маланкі, амаль безупынку грымелі над ёй перуны і шумела залева. Часам навальніца быццам сьціхала, потым пачынала віхурыць зь яшчэ большай сілай. У тыя моманты, калі маланка асьвятляла зямлю на панадворку таго дома, дзе жылі вахманы, можна было заўважыць двух людзей. Адзін зь іх стаяў, прывязаны вяроўкай да кола вайсковае двухколкі. Другі сядзеў пад двухколкай, трымаючы руку на павязцы. І яны ня толькі ня гутарылі паміж сабой, але навет і не глядзелі адзін на аднаго.

Спачатку Немцы самі вартавалі Зыгмунта, але, калі пачалася навальніца, яны рашылі, што самым надзейным вартаўніком будзе Міхась. Усё-ж вахман, які прывёў яго да двухколкі, сказаў:

— Калі гэты Паляк уцячэ, дык цябе заб'ём кіямі.

І Міхась вартаваў. Толькі адзін раз зірнуў на яго Зыгмунт і адкінуў усякую надзею аб ратаваньні.

Той, хто быў прысуджаны да сьмерці і выпадкова захаваўся, ведае, аб чым думаў Зыгмунт Врона. Ягоныя думкі нагадывалі тыя маланкі, што цяпер без усялякага ладу пераразалі начную цемру. Спачатку ён паспрабаваў маліцца, але самыя прачулыя малітвы не сагрэлі ягоную агрубелую душу. Тады ён захацеў вызваліцца ад вяровак — і толькі моцна, да крыві, параніў рукі.

Потым успомнілася яму Варшава, Маршалкоўская і яна — Зося. Дагэтуль ён чуе ейны цёплы сьмех і шэпат:

— Зыгмусь, даражэнькі!

Акрамя Зосі нікога ў Зыгмунта не было. І зьнікла яна назаўсёды ў вадным з канцэнтрацыйных лягераў Нямеччыны. А раніцою зьнікне бязь сьледу і Зыгмунт Врона. Прыйшла адтуль, з Польшчы, навальніца, каб адправіць па ім хаўтуры. Замест грамніцы — запаліліся маланкі, замест званоў — грымяць перуны.

У глыбокім раздум'і сядзеў, схіліўшыся, Міхась. Прынамсі так здавалася на першы погляд. А можа ён зусім ні аб чым ня думаў! А можа гэта толькі войстры боль схіліў яго крукам? Хто ведае. Але не зьвяртаў ніяк увагі на Зыгмунта, і той таксама не глядзеў у ягоны бок. Таму Зыгмунт мімаволі ўздрыгнуў, калі Міхась падыйшоў да яго. Бліснула маланка, і ў здаровай руцэ Міхася бліснуў нож. Зыгмунт адчуў, як у ягоных грудзях спатыкнулася сэрца. Зараз — сьмерць. Яму захацелася папрасіць аб літасьці, але замест гэтага ён сказаў:

— Рэж, кат!

— А што яшчэ скажаш? — глуха запытаўся Міхась і адным махам перарэзаў вяроўку.

— Уцякай! — загадаў ён пасьля гэтага Зыгмунту. А той, не даючы веры, зрабіў адзін крок і спыніўся, гледзячы на Міхася.

— Уцякай хутчэй! — паўтарыў Міхась.

— А як-жа ты, Міхась? — запытаў Зыгмунт і ў трэйці раз пачуў:

— Уцякай, Зыгмунт!

Тады Зыгмунт хутка выйшаў з панадворку і адразу-ж зьнікнуў у цемры.

Калі зялёная маланка асьвяціла ўсё вакол, можна было пабачыць на ўзгорку нізенькага Зыгмунта Врону, які крочыў на поўдзень. Адзін толькі момант гарэла маланка, але ён нечакана заўважыў на другім узгорку рослага Міхася Данілюка, які рушыў на ўсход. Калі бліснула другая агнявая маланка, дык ужо нідзе не відаць было двух людзей і навет залева пасьпела замыць іхнія сьляды.

Публікацыя Уладзіміра АРЛОВА.

# ЛЯСУН

## (ЛЕСАВІК, ЛЕШЫ, ЛЯСНЫ ДЗЕД)

Абсяг дзейнасці Лесуна — уся лясная плошча, ад узлеску да ўзлеску, з усімі ўзгоркамі, нізінамі, ярамі і палянамі, за выключэннем вадаёмаў, дзе ёсць асобны нячысцік — Вадзянік. У глыбіні гэтай тэрыторыі знаходзіцца дом Лесуна, дзе жывуць яго жонкі і дзеці. Сам жа ён дома не сядзіць — больш вандруе, адпачывае і начуе ў выпадковых мясцінах: на вяршынях высокіх дрэў, у дуплах, у густых зарасніках, у ламаччы, бураломах, у лагчынах і прадоннях. Хаця Лясун здольны прымаць розныя воблікі, ператварацца ў любыя прадметы, але найчасцей паўстае ў вобразе старога, з белым, як бяроста ці як воск, ніколі не загарэлым тварам, з вялізнымі цьмянымі вачыма свінцова-сіняга колеру, якія нерухомыя і ніколі не змыкаюцца. Адны кажуць, што Лясун мае сплюшчаны, рабром наперад, доўгі твар, доўгую — клінам — бараду, адно вока і адну нагу пятою наперад. Калі ж ён ператвараецца ў звычайнага чалавека, то... пазнаць яго можна толькі па тым, што левае крысо адзення ў яго будзе пакрываць правае, г. зн. зусім іначай, чым у хрышчоных людзей, а правае вока будзе нерухомае і заўсёды большае, чым левае.

Лясун здольны перадаваць галасы ўсіх жыхароў свайго краю — ад мядзведжага рыкання да піску камара, калі ж ён падае свой уласны голас, голас нябачнай істоты, то ці глушыць чалавека, ці лашчыць пяшчотным шэптам, каб выканаць мэты свайго каварства. Але якім бы ні быў гэты голас, вопытны слых разбярэ ў ім дзікія пераліўы, злоснае павіскванне...

Лясун — дзікі, няўмольны нячысцік, якога можна падмануць, назваўшы, калі заходзіш у лес, няправільны кірунак мяркуемага шляху, ці апрануць на ўзлеску адзенне навыварат. Калі не зроблена гэтага — Лясун адразу падступаецца да ахвяры і злосліва цешыцца з яе пакут, збіўшы з належнага накірунку. Ён прымушае чалавека кружыць па лесе некалькі гадзін, праходзіць па адным і тым жа месцы шмат разоў, заводзіць у глыбіню лесу, у самы гушчар; калі ж ахвяра страціць усякую развагу і даходзіць да адчаю, Лясун злосна рагоча, і яго рогат чуваць вёрст за сорак па акрузе. Часам, па папярэдняй дамоўленасці з Вадзянікам ці Балотнікам, ён прыводзіць сваю ахвяру да іх, у іх уладанні, нягледзячы, што па-за гэтым выпадкам Лесуны і Вадзянікі — непрымірымыя ворагі, прычым Вадзянік заўсёды першы напаскудзіць Лесуну.

Акрамя гэтай сатанінскай забавы над чалавекам у Лесуноў ёсць і свае, між якіх вылучаюцца вяселлі. На іх, як і на кумаванні, нячысцікі любяць пагуляць, разгарнуцца на ўсю чартоўскую шырыню. Дзе відаць паласа паваленага лесу, ляжыць ламачча, там несумненна прамчаўся вясельны цягнік Лесуноў, але той самы цягнік любіць лясныя дарожкі і сцежкі і абавязкова спыняецца для бясчынстваў на лясных перакрыжаваннях. Лесуну ў гэтым вясельным руху папярэднічае вецер, па якім можна дазнацца, куды той накіроўваецца, і адзін ён ці ў кампаніі, але той самы вецер і віхор замятае сляды Лесуна. Па гэтай прычыне асцярожны лясны падарожнік не ходзіць па такіх дарогах і сцежках, не садзіцца на іх, як і на перакрыжаваннях, для адпачынку, рызыкуючы быць знішчаным ці зганьбаваным...

Ад Лесуна і Лесунíхі нараджаецца пачварная істота, вельмі мала падобная да сваіх бацькоў, якім у цяжар такое ненажэрнае дзіця і якія імкнуцца падмяніць яго неахрышчаным чалавечым дзіцем, якога адразу ператвараюць у Лесуна. Сапраўдны малы Лясун застаецца ва ўяўных бацькоў гадоў да 11 і потым хаваецца ў лесе, адкуль нябачна для выхавацеляў плаціць ім рэчыўнай падзякаю, прыносіць нават грошы. Дотык грамавой стралы да такога паўлесуна ператварае яго, як і кожнага Лесуна, у раз'юшанага лютага драпежніка — мядзведзя, ваўка, рысь, арла, якія да канца свайго жыцця шукаюць магчымасці загубіць чалавека.

Здараецца часам, што Лясун уступае ў сумеснае жыццё з жанчынаю, якую ён трымае ў лясных сховішчах, не паказваючы сваім надзвычай раўнівым суродзічам. Вынікам такога сумеснага жыцця з'яўляецца дабрадзейны Лесунок, бескарыслівы слуга людзей, чаго, аднак, сам бацька і іншыя не дапускаюць, а пры яўнай упартасці Лесунка губяць яго.

Дзеля згубнай нажыўнай мэты Лясун можа прыцягнуць чалавека на службу. Робіцца гэта асаблівым заклікам у купальскую ноч: той, хто выклікае, становіцца на асінавы пень, тварам на поўнач, і кліча прыблізна так: «Акажыся не ваўком-зверам, не груганом-птушкаю, не дрэвам іглістым, а такім, як я сам!» Лясун адразу паўстане ў чалавечай постаці і, згаджаючыся на здзелку, патрабуе за наступныя паслугі адну толькі душу таго, які выклікае, пасля непазбежнай яго смерці ў лесе...

Лясун помсціць, калі часта і без патрэбы згадваць яго імя; калі Лесуну не ўдаецца помста ў адносінах чалавека асабіста, ён адпомсціць яму пагібеллю той ці іншай хатняй жывёлы, якая трапіць у лес.

Лясун надзейна і няспынна служыць таму, хто яго паклікаў: гоніць яму дзічыну, паказвае дарогу да борцей, ягадных і грыбных мясцін, падказвае месцазнаходжанне скарбаў і ўсяляк адводзіць шкоду сапернікаў, якіх прымушае блукаць падманнымі шляхамі, пужае лютымі звярамі... Акрамя прамой службы, Лясун дапамагае і ўскосна: да такога чалавека стануць звяртацца пры пошуках скаціны, што заблудзіла ў лесе, прасіць назваць прыбытковыя мясціны там жа і інш... Да хатняй жывёлы Лясун не мае варожасці, ён добра ставіцца да сабак, якім ахвотна дазваляе бегаць па лесе ў любы час. Калі ж ён заманьвае ў лес і губіць там якую-небудзь скаціну, то робіць гэта толькі таму, што ловіць выпадак, каб адпомсціць гаспадару ці даць узбагаціцца свайму апекуну...

Колькі існуе на зямлі Лесуноў, няцяжка вылічыць па наяўных лясных плошчах, таму што для кожнай з іх прызначаецца адзін нячысцік. Калі ж лес вялікі, то і тут можна вызначыць яго ўладанне, якое ахоплівае не больш як сем квадратных вёрст.

*Неч., с. 68—72.*

Лесавікі ў Парэцкім павеце, паводле ўяўленняў мясцовых сялян, маюць выгляд людзей здаровых і мужных. Ростам Лесавікі бываюць з дрэва, а сілу маюць незвычайную. Начальнік Лесавікоў... Лясны цар росту велізарнага, на цэлую галаву вышэйшы за лес, над якім ён валадарыць, на руках і нагах у яго закручаныя кіпцюры, падобныя на сабачыя; барада ў яго доўгая, сівая, носіць ён яе ў руках.

Некаторыя бачылі Ляснога цара з белай, доўгай барадой, як сядзіць ён спакойна ў лесе і моцна свішча, іншы раз ён пры месячным святле пляце лапці.

Лесавік — пярэварацень. Істотная яго рыса — што ён мяняецца ў росце і прымае разнастайнае аблічча: у лесе Лесавік ідзе — ён з лесам роўны; на лузе ці ў полі ідзе — ён з травой і былінкай роўны. А часам ён хаваецца пад былінку, кветку ці лісток дрэва: у лесе Лесавік хаваецца ў дупло і пад карэннямі вывараханых бураю дрэў; наогул Лесавік прынароўліваецца да навакольнага асяроддзя. З'яўляецца Лесавік і дзядулем, і красой-дзеўчынай, і прыгожым мужчынам, і зверам, і птушкаю, і заманьвае спадарожнікаў за сабою ў непралазны гушчар лесу, адкуль цяжка выбрацца.

Што трэба рабіць, калі заблукаеш, калі абыдзе цябе Лесавік, і ты сам пападзеш на яго логава і наогул адурманіць нячыстая сіла?

Пераапрані што-небудзь з адзення навыварат, разуй левую нагу і абуй правую, вывярні шапку наадварот ці павярні яе брылём назад; прачытай, калі ведаеш, нядзельную малітву тры разы; прыгадай, што напярэдадні Новага года вараць свіную галаву — гэтымі сродкамі ты не дасі пажартаваць з сябе Лесавіку, які водзіць чалавека на самай ускраіне лесу і не дае яму пазнаць, да якога ён месца выйшаў ля паселішча. А злуецца на цябе прыдзірлівы Лесавік за тое, што выпадкова ты перайшоў яго любімую сцяжынку. Зрэшты, іншы раз Лесавікі збіваюць са шляху тых, якія выпраўляюцца ў лес без блаславення, г. зн. не памаліўшыся Богу; яны таксама заводзяць дзяцей, якія зняважылі маці і праклятыя ёю апоўдні. Лесавікі зносяць пераважна хлопчыкаў, Лесавіхі — дзяўчынак. Жанчын Лесавікі зводзяць больш свавольных, якія кепска жывуць з гаспадарамі...

Да Лесавіка звяртаюцца з просьбаю вярнуць жывёлу, што заблудзіла ў лесе. Гаспадар згубленай жывёлы кладзе на перакрыжаванні дзесяць яек, кавалак сала, бохан хлеба і становіцца да ахвяры задам; знахар абводзіць яго і заклінае духаў рознымі галасамі, пасля чаго гаспадар, не паварочваючы галавы, вяртаецца назад дадому.

*Живая старина, 1908, вып. 1, с. 3—8.*





# Праваслаўны каляндар

## НА КРАСАВІК — ЧЭРВЕНЬ

Па старому і новаму стылю

### КРАСАВІК

**4 красавіка** / *22 сакавіка (нядзеля).* 5-Я НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ.
**7 красавіка** / *25 сакавіка (серада).* ДАБРАВЕШЧАННЕ ПРАСВЯТОЕ БАГАРОДЗІЦЫ.
**8 красавіка** / *26 сакавіка (чацвер).* Сабор архангела Гаўрыіла.
**10 красавіка** / *28 сакавіка (субота).* Лазарава субота. Успамін аб уваскрэсенні Праведнага Лазара.
**11 красавіка** / *29 сакавіка (нядзеля).* УВАХОД ГАСПОДНІ Ў ІЕРУСАЛІМ (ВЕРБНАЯ НЯДЗЕЛЯ, ВАЙІ).
**12—17 красавіка.** Вялікі тыдзень. Памяць пакутаў Хрыстовых.
**15 красавіка** / *2 красавіка (чацвер).* Вялікі Чацвярток. Успамін аб Тайнай вячэры.
**16 красавіка** / *3 красавіка (пятніца).* Вялікі Пяток. Успамін аб збавіцельных Крыжовых Пакутах Госпада нашага Ісуса Хрыста. Строгі пост.
**17 красавіка** / *4 красавіка (субота).* Вялікая Субота.
**18 красавіка** / *5 красавіка (нядзеля).* СВЕТЛАЕ ХРЫСТОВА ЎВАСКРЭСЕННЕ. ПАСХА. ВЯЛІКДЗЕНЬ.
**19—24 красавіка.** Светлы тыдзень (Велікодны).
**25 красавіка** / *12 красавіка (нядзеля).* 2-Я НЯДЗЕЛЯ ПА ВЯЛІКАДНІ, АПОСТАЛА ФАМЫ. АНТЫПАСХА.
**27 красавіка** / *14 красавіка (аўторак).* Радаўніца. Памінанне спачылых. Св. Віленскіх пакутнікаў Антонія, Іаана і Яўстафія.

### МАЙ

**2 мая** / *19 красавіка (нядзеля).* 3-Я НЯДЗЕЛЯ ПА ВЯЛІКАДНІ, ЖОНАЎМІРАНОСІЦ (СВЯТА ЖАНЧЫН-ХРЫСЦІЯНАК).
**3 мая** / *20 красавіка (панядзелак).* Пакутніка дзіцяткі Гаўрыіла Беластоцкага.
**6 мая** / *23 красавіка (чацвер).* Вялікапакутніка Георгія Пераможцы.
**9 мая** / *26 красавіка (нядзеля).* 4-Я НЯДЗЕЛЯ ПА ВЯЛІКАДНІ, АБ ПАРАЛІЗАВАНЫМ.
**11 мая** / *28 красавіка (аўторак).* Свяціцеля Кірылы, епіскапа Тураўскага (+1183).
**12 мая** / *29 красавіка (серада).* Перапалавенне Пяцідзесятніцы.
**16 мая** / *3 мая (нядзеля).* 5-Я НЯДЗЕЛЯ ПА ВЯЛІКАДНІ, ПРА САМАРАНІНА.
**20 мая** / *7 мая (чацвер).* Жыровіцкай іконы Божае Маці.
**21 мая** / *8 мая (пятніца).* Апостала і евангеліста Іаана Багаслова.
**22 мая** / *9 мая (субота).* ПЕРАНЯСЕННЕ МОШЧАЎ СВЯЦІЦЕЛЯ МІКАЛАЯ ЦУДАТВОРЦЫ.
**23 мая** / *10 мая (нядзеля).* 6-Я НЯДЗЕЛЯ ПА ВЯЛІКАДНІ, АБ СЛЯПЫМ.
**24 мая** / *11 мая (панядзелак).* Роўнаапостальных Мяфодзія і Кірылы, настаўнікаў Славенскіх.
**26 мая** / *13 мая (серада).* Найпадобнага пакутніка Макарыя Канеўскага.
**27 мая** / *14 мая (чацвер).* Уваззнясенне Гасподняе (Ушэсце). Памяць II Усяленскага Сабора.
**30 мая** / *17 мая (нядзеля).* 7-Я НЯДЗЕЛЯ ПА ВЯЛІКАДНІ, СВЯТЫХ АЙЦОЎ І УСЯЛЕНСКАГА САБОРА.

### ЧЭРВЕНЬ

**3 чэрвеня** / *21 мая (чацвер).* Уладзімірскай іконы Божае Маці. Роўнаапостальных Канстанціна і Алены.
**5 чэрвеня** / *23 мая (субота).* Троіцкія Дзяды (памінальная субота). Прападобнай Еўфрасінні Полацкай.
**6 чэрвеня** / *24 мая (нядзеля).* ДЗЕНЬ СВЯТОЙ ТРОІЦЫ (ПЯЦІДЗЕСЯТНІЦА, СЁМУХА).
**7 чэрвеня** / *25 мая (панядзелак).* ДЗЕНЬ СВЯТОГА ДУХА. ТРЭЦЯЕ АДНОЙДЗЕННЕ ГАЛАВЫ ІААНА ХРЫСЦІЦЕЛЯ.
**7—12 чэрвеня** — усяядны тыдзень (без посных дзён).
**13 чэрвеня** / *31 мая (нядзеля).* НЯДЗЕЛЯ 1-Я ПА ПЯЦІДЗЕСЯТНІЦЫ, УСІХ СВЯТЫХ. ЗАГАВІНЫ НА ПЯТРОЎ ПОСТ.
**14 чэрвеня** / *1 чэрвеня (панядзелак).* Пачатак Пятрова посту.
**20 чэрвеня** / *7 чэрвеня (нядзеля).* НЯДЗЕЛЯ 2-Я ПА ПЯЦІДЗЕСЯТНІЦЫ, УСІХ РУСКІХ СВЯТЫХ.
**27 чэрвеня** / *14 чэрвеня (нядзеля).* НЯДЗЕЛЯ 3-Я ПА ПЯЦІДЗЕСЯТНІЦЫ. САБОР БЕЛАРУСКІХ СВЯТЫХ.

## КАЛЯНДАР ВАЖНЕЙШЫХ КАТАЛІЦКІХ СВЯТ

*11—12 красавіка.* **Вялікдзень.**
*20 мая.* **Унебаўшэсце.**
*30 мая.* **Сасланне Духа Святога.**
*31 мая.* **Марыя Маці Касцёла.**
*6 чэрвеня.* **Найсвяцейшай Тройцы.**
*10 чэрвеня.* **Цела і Крыві Гасподняй — Божае Цела.**
*18 чэрвеня.* **Найсвяцейшага Сэрца Езуса.**
*19 чэрвеня.* **Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Марыі Панны.**
*24 чэрвеня.* **Купала — Нараджэнне Яна Хрысціцеля.**
*29 чэрвеня.* **Святых Пятра і Паўла, Апосталаў.**




# Зялёны карабель

Тацццяна МУШЫНСКАЯ



Учора ў Дзяніскі было сапраўднае свята. Дзед Міша прывёз яму ў падарунак афіцэрскую фуражку. Бінокль у Дзяніскі ёсць, цяльняшка — таксама. Нават штонікі з прымацаваным на іх якарам. А вось пра капітанскую фуражку хлопчык марыў даўно. Ды дзе ты яе возьмеш? Яна ж у магазінах не прадаецца! Дзед сказаў, што фуражку яму падарыў даўні сябар, які шмат гадоў служыў капітанам на вялікім акіянскім караблі.

Калі дзед пайшоў, Дзяніска узяўся старанна, з усіх бакоў вывучаць фуражку. Ён нават панюхаў яе. Хлопчыку здалося, што фуражка пахне салёнай марской вадою, рыбаю, водарасцямі. Заплюшчыўшы вочы, Дзяніска ўявіў пошум марскіх хваль, крыкі птушак на прыбярэжных скалістых узгорках і сябе на капітанскім масціку...

Тут падышоў Васька і жаласна мяўкнуў. На твары яго было напісана, што ён таксама хоча прымераць абнову. Але Дзяніска не дазволіў: «Дзе гэта хто бачыў, каб каты капітанамі былі!»

«Хутчэй бы стаць дарослым! — думае хлопчык.— Але калі яшчэ тое будзе... А што прыдумаць цяпер?»

Здагадка прыйшла імгненна. У іхнім двары расце вялізнае дрэва. Вяршыня яго ажно да пятага паверха сягае. Тоўсты камель невысока, амаль на ўзроўні Дзяніскавай макаўкі, разбягаецца на некалькі ладных, таўставатых сукоў. Залазіш у сядло — тут вельмі зручнае месца для таго, каб убачыць увесь двор. Крыху вышэй таксама разгалінаванні сукоў, тоўстых, надзейных. На іх цэлая каманда размесціцца.

Дзяніска гэта дрэва даўно аблюбаваў — яно і машынай служыць, і трактарам, і паравозам. А сёння... Але спачатку трэба падзяліцца з хлопцамі сваёю задумаю.

Не паспеў ён выбегчы з пад'езда, як апынуўся сярод сяброў-аднагодкаў. З той малечай, якая калупаецца ў пясочніцы і ўсялякія там пернікі пячэ, Дзяніска даўно не важдаецца. Ён жа ў школу хутка пойдзе! Будаваць падземныя хады, пячоры альбо шахты для падземных ракет — на гэта ён яшчэ згодны.

Вядома, усе хлопцы хацелі прымераць капітанскую фуражку — і браты Сярожа з Мішам, і маленькі Алёша, і задзірысты Косцік, з якім у двары ніхто сябраваць не хоча, і нават другакласнік Віцька з першага пад'езда. Хлопцы пазмоўніцку шэпчуцца, а праз некалькі хвілін уся каманда ўжо размясцілася на зялёным караблі.

«Аддаць швартовы! — гучыць загад.— Поўны наперад!» — і карабель памалу адыходзіць ад берага. Вецер шуміць у лістоце дрэва і, калі крыху прымружыш вочы, здаецца, што гэта пошум рачных хваль, плёскат рыбы, гудзенне далёкай баржы.

«Карабель ідзе ўніз па цячэнню Дняпра,— абвяшчае капітан.— Набліжаемся да горада Магілёва».

Дзяніска бачыў Дняпро, калі мінулым летам ездзіў у госці да бабулі Марфы. Рака шырокая, магутная. Мост праз яе перакінуты. І калі ехаў па ім Дзяніска, паблізу ад моста карабель ішоў — белы, велічны, нібыта з казкі...

Добра, калі ў камандзе сабраліся сябры. Хлопцы па чарзе глядзяць у бінокль: здаецца, што ўздоўж праплываюць лугі, палеткі. Лес саступае месца пясчанай мелі...

Надыходзіць вечар, сонейка хаваецца за дахі шматпавярховых дамоў. Дзяніска адчувае, што захапляльная гульня хутка скончыцца. І сапраўды, праходзіць некалькі хвілін, і з суседняга балкона чуваць:

— Міша, ты ўрокі на заўтра зрабіў? Ану, марш дамоў!

Потым з другога:

— Косцік, мульцікі пачынаюцца. Хутчэй!

Дзяніска крыху злуе: заўсёды гэтыя дарослыя ўсё сапсуюць. Уся каманда разбеглася! Але што зробіш — капітан і павінен пакідаць карабель апошнім.

Хлопчык вяртаецца дамоў, калі сонейка даўно схавалася і зрабілася зусім цёмна.

— Сынок, на каго ты падобны? — жахнулася мама.

Увесь Дзяніскаў твар, рукі, ногі, майка, штонікі запэцканы. Але, убачыўшы сынавы вочы, якія ажно зззяюць ад пераўжытага шчасця, змаўкае і больш нічога не гаворыць.

— Мы па рацэ хадзілі! — радасна заяўляе Дзяніска.

— Па якой рацэ? — палохаецца мама, бо недалёка ад іхняга дома цячэ сапраўдная рака. Яе пераплыць не кожны дарослы можа!

— Не, зусім не па той, пра якую ты думаеш,— здагадваецца Дзяніска.

Маму трэба трохі супакоіць, але выдаваць усе свае таямніцы ён не збіраецца.

— Мы і рыбіну велізарную злавілі! — хваліцца хлопчык.

— А дзе ж яна? Хай бы ты мне паказаў,— усміхаецца мама.

— Сарвалася з кручка! Вельмі вялікая была!

Павячэраўшы, Дзяніска засынае, ледзь дакрануўшыся да падушкі. У сне ён бачыць сябе на масціку вялікага акіянскага цеплахода. У руцэ Дзяніска трымае бінокль і камандуе: «Поўны наперад!»

Змітрок МАРОЗАЎ

## Колькі ж ног у павучка?

Колькі ног у павучка?
Неўгамонная дачка
Назірае цэлы дзень,
Як павук гамак пляце.
Хоць няма ў яго пруткоў,
Дзень мінуў — гамак гатоў!
Заклапочана дачка:
«Колькі ж ног у павучка?»

## Дзіўныя хамячкі

Першакласніца Ірынка
Хамячкоў прынесла з рынку,
Запрашае іх гуляць,
А яны ўсё спяць і спяць!

Падышла да Іры Лора
І загадкава гаворыць:
«Мо яны тады гуляюць,
Калі дзеці засынаюць?»



















# РАЗМАЛЮЙ, МАЛЫШ!

Афармленне
Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

**Уладзімір МАРУК**

### *Леў*

Леў забыўся, дзе жыве:
Ці ў кустоўі, ці ў траве.
Бо прывабныя для льва
І кустоўе, і трава.
Дзень хадзіў і ноч блукаў,
Дзе жыве — не адшукаў.
І цяпер праз дзень жыве —
То ў кустоўі, то ў траве.

### *Цюлень і бюлетэнь*

Занядужаў быў цюлень
І пайшоў па бюлетэнь.
Доктар морж слухаўкі ўзяў,
Кажа: «Дыхай, рот разяў...»
І амаль цалюткі дзень
Слухаў морж, як соп цюлень.
Ды нарэшце кажа морж:
«Прыплыві, як будзе горш.
Колькі тут жыву — цюлені
Не былі на бюлетэні».

### *Ягуар і буквар*

Першакласнік ягуар
Зноў у зубы ўзяў буквар,
Пашматаў і праглынуў,
Лёг пад парту ды заснуў.
Навучыцелька маўчыць:
Як заснуў, то хай паспіць.
Бо такі ў дзіцяці дар:
Кнігаед — не ягуар.

# 100 РЭЦЭПТАЎ, ЯК СТАЦЬ ШЧАСЛІВАЙ,

***прапануе індыйскі часопіс «Феміна». Аўтар гэтага незвычайнага трактата Махалакшмі ўпэўнены, што калі выкарыстаць хаця б некаторыя з іх, індыйская жанчына займее ўсе падставы дамагчыся поспехаў у працы, стаць прыгожай і быць шчаслівай у сямейным жыцці. А можа і нашым жанчынам сёе-тое са 100 рэцэптаў спатрэбіцца? Не будзем, аднак, усе парады прымаць усур'ёз. Хаця, як вядома, у кожным жарце ёсць доля праўды...***



## КАБ ДАМАГЧЫСЯ ПОСПЕХАЎ НА ПРАЦЫ...

- Я буду памятаць, што ад маіх адносін да працы залежыць мая кар'ера. Ні адзін працоўны дзень не пройдзе ў мяне дарэмна!
- Я запішуся на курсы ўдасканалення сваёй прафесіі.
- Я сама буду ствараць свой поспех. Я не буду, як іншыя, сядзець і чакаць удачы!
- Я навучуся паводзіць сябе так, каб у любой сітуацыі рабіць самае лепшае, самае выгаднае ўражанне.
- Я толькі рада буду любой канкурэнцыі, любой крытыцы ў свой адрас — і нават чужая зайздрасць толькі дапаможа мне працаваць яшчэ лепш!
- Калі ў маёй прысутнасці хто-небудзь пляткарыць, я, магчыма, паслухаю... Але сама перадаваць плёткі не буду!
- Я пастараюся заўсёды знайсці магчымасць зрабіць трохі больш таго, што ад мяне патрабуецца... Тады я паступова стану проста незаменнай!
- Што б ні здарылася, ніколі не буду плакаць на працы! Што б ні здарылася!
- Я буду апранацца на працу так, як апранаюцца людзі, якія займаюць становішча, вышэйшае чым я. Тады ўсе ўбачаць, што мяне ўжо даўно пара павысіць у пасадзе!



## КАБ СТАЦЬ СТРОЙНАЙ...

● Я не буду аб'ядацца рознымі смачнымі рэчамі, а пасля садзіцца на дыету.
● Але калі я ўсё ж адчую, што дыета мне неабходна, не буду перабіраць усе вядомыя мне дыеты. Выберу адну, найбольш прыдатную, і буду яе прытрымлівацца.
● Пры выбары дыеты абавязкова пракансультуюся з урачом.
● Адмоўлюся ад кепскай прывычкі паласавацца чым-небудзь паміж сняданкам і абедам. Калі мне захочацца што-небудзь з'есці, я проста вып'ю шклянку вады.
● Пастараюся скласці для сябе табліцу каларыйнасці тых прадуктаў, якія штодзённа ўжываю. Я не веру, што падобныя табліцы існуюць толькі для модных часопісаў і толькі для іншаземцаў!
● Нікому не буду расказваць аб тым, што сяджу на дыеце. І тым больш не буду абмяркоўваць гэтае пытанне ў гасцях.
● Калі мяне запросяць паабедаць у рэстаране, папярэдне прадумаю, што я змагу там з'есці, каб не парушыць дыеты.
● Я пастараюся прывучыць сябе да таго, каб есці хаця б на чвэрць менш, чым цяпер...
● Ніколі ў жыцці ні кавалачка больш не з'ем, седзячы перад тэлевізарам!
● Я буду старацца пачынаць яду з салаты, агародніны, тварагу ці чаго-небудзь іншага, што не парушае дыету,— і толькі пасля гэтага з'ем зусім трошкі чаго-небудзь такога, што ні ў якую дыету не ўкладваецца!
● Вазьму сабе за правіла старанна пераж оўваць ежу. Пераж оўваць так, каб яна глыталася сама!

## КАБ ВЫГЛЯДАЦЬ ПРЫГОЖАЙ...




● Я падыду да люстэрка і ўсміхнуся сабе. І толькі пасля гэтага пачну дэтальны крытычны агляд свайго твару і фігуры.
● Пасля сфатаграфуюся ў сваім самым лепшым уборы. Гэта будзе для мяне кропкай адліку, ад якой я пачну ўдасканальвацца.
● Я нарэшце выкіну грабянцы са зламанымі зубцамі, карэлыя шчоткі, засохлую туш для веек і іншую старую, непрыгодную касметыку.
● Карыстаючыся касметыкай, я больш не буду спрабаваць схаваць заганы свайго твару (гэты спосаб ужо безнадзейна устарэў), наадварот, я буду імкнуцца падкрэсліць яго вартасці.
● Адмоўлюся ад дарагіх крэмаў і вярнуся да натуральных касметычных сродкаў.
● Куплю самыя лепшыя, самыя дарагія духі. У рэшце рэшт, магу ж я гэта сабе дазволіць?
● Паспрабую кожны тыдзень мяняць прычоску: падыму ўсе валасы наверх, распушчу па плячах, зраблю пучок, завяжу хвосцік.
● Кожны раз, прымаючы ванну, вазьму сабе за правіла рабіць поўны туалет ад макаўкі да пятак, як быццам менавіта сёння — самы галоўны дзень у маім жыцці!
● Кожны вечар буду спецыяльна займацца сваімі рукамі, нават калі яны выглядаюць зусім нядрэнна. Рукі патрабуюць пастаяннага догляду!
● Дам сабе слова не вельмі захапляцца касметыкай... Не буду кідацца выконваць кожную параду, якую знайду ў жаночым часопісе, і выпрабоўваць на сабе ўсе новыя касметычныя сродкі.
● Што тычыцца макіяжу — паспрабую абмежавацца губной памадай і мінімумам пудры і пагляджу, ці патрэбна яшчэ што-небудзь!



## КАБ БЫЦЬ У ДОБРАЙ ФОРМЕ...

● Я не буду шукаць сто прычын, каб толькі не рабіць ранішнюю гімнастыку. Я пастаўлюся сур'ёзна да сто першай толькі ў тым выпадку, калі яна сапраўды будзе выключнай.
● Я перастану шукаць комплексы лёгкіх практыкаванняў! Я ведаю, што такія практыкаванні зусім бескарысныя.
● Папрашу кансультацыю ва ўрача, каб даведацца, якія практыкаванні з маімі хранічнымі захворваннямі можна выконваць, а якія нельга, і як мне наогул умацаваць сваё здароўе.
● Для тых дзён, калі з-за недахопу часу я не змагу выконваць увесь комплекс практыкаванняў, я распрацую кароткі комплекс, які можна выконваць пяць хвілін і разагрэць усе мышцы.
● Кожную нядзелю буду ўзважвацца. Гэта будзе цудоўнай падставай палаяць сябе за тое, што ленавалася рабіць практыкаванні!
● Прывучу дзяцей займацца разам са мной. Тады прападзе яшчэ адна прычына ўхіляцца ад заняткаў фізкультурай.
● Буду шукаць розныя спосабы займацца фізкультурай за дамашнімі справамі: напрыклад, як мае быць пацягнуся, калі буду даставаць збан з паліцы, нагнуся, не згінаючы каленяў, і падыму з падлогі раскіданыя рэчы.
● Я адкладу суму грошай на пакупку прыгожага спартыўнага касцюма.
● Пастараюся навучыцца выконваць усе практыкаванні плаўна і атрымліваць ад гэтага сапраўднае задавальненне.
● Я не буду ўгаворваць мужа займацца фізкультурай разам са мной. Мне, канечне, хацелася б бачыць яго маладым, падцягнутым і прывабным, але калі ён такім стане, то гэта заўважаць і іншыя жанчыны!
● Я дам сабе слова не карыстацца транспартам, у той час як можна прайсціся пяшком.



## КАБ БЫЦЬ ДОБРА АПРАНУТАЙ...

● Перш за ўсё складу спіс тых жыццёвых сітуацый, у якіх я магу апынуцца, і таго адзення, якое дапамагло б мне адчуваць сябе пры гэтым на вышыні. І перш, чым купіць што-небудзь новае, перагляджу свой гардэроб у гэтым кірунку.
● Буду адзяваць толькі тыя рэчы, якія мне падыходзяць і цудоўна на мне глядзяцца.
● Буду старанна сачыць за тым, каб маё адзенне было ахайным: блузкі чыстымі, накрухмаленымі і добра адпрасаванымі, усе гузікі і гаплікі на месцы, а падшэўка не адпорвалася.
● Буду сачыць за тым, каб розныя часткі майго туалету адпавядалі адна адной не толькі па колеру, але і па стылю.
● Пастараюся знайсці ў адзенні асабісты стыль.
● Пасля пакупкі новай спадніцы, адразу ж куплю тканіну на блузку і ніжнюю спадніцу.
● Мяне ніхто і ніколі не ўбачыць у стаптаных туфлях і са сцёртымі набойкамі на абцасах.
● Я не апрану адзення, якое будзе гладка прыставаць да фігуры, да таго часу, пакуль не прывяду сваю фігуру да нормы.
● Навучуся шыць. Буду сама шыць сабе, прынамсі, хатняе адзенне і начныя кашулі.
● Пастараюся не насіць сінтэтыкі. Буду адзяваць толькі рэчы з натуральнай бавоўны, натуральнага шоўку — па-сапраўднаму добрыя рэчы!

## КАБ БЫЦЬ ШЧАСЛІВАЙ У ШЛЮБЕ...



● Калі я яшчэ не замужам, я спытаю сябе: а ці трэба спяшацца? Я пастараюся спачатку дамагчыся ў жыцці хаця б адной вялікай удачы, перш чым выйду замуж.
● Я пастараюся знайсці сябра, які не толькі дае сабе слова з новага года пачаць новае жыццё, але і выконвае гэтае абяцанне!
● Я не буду траціць шмат грошай на вяселле, а лепш адкладу іх на тое, каб завесці гаспадарку. А пасля, у нашыя дні шлюб падчас такі недаўгавечны, што проста не апраўдвае затрат на вяселле!
● Я буду трымацца далей ад мужчын, якія зашмат ведаюць пра жаночую эмансіпацыю — з імі так цяжка спрачацца! Я лепш знайду сабе такога, які ўпершыню пачуе аб гэтым ад мяне.
● Калі я ўжо замужам, дык пастараюся разлічваць у шлюбе на свае асабістыя сілы і магчымасці. Калі ж чакаеш ад мужа зашмат чаго, цябе чакае столькі расчараванняў — апроч таго, гэта губіць нармальнае жаданне другога чалавека дапамагчы табе!
● Я не буду больш успрымаць свайго мужа як нешта само сабой зразумелае. Я буду адкрываць у ім усё новыя бакі!
● Я перастану даваць яму парады, якія тычацца яго працы, яго кар'еры, яго магчымасцей. Я лепш скірую сваю мудрасць на чалавека, якому яна куды больш спатрэбіцца — гэта значыць на сябе!
● Я буду сварыцца з мужам толькі па якіх-небудзь прынцыпова важных пытаннях, спіс якіх складу для сябе загадзя... А калі будуць узнікаць сваркі па дробязі, я выйду ў другі пакой ці пайду прагуляцца.
● Я пастараюся навесці парадак у сваіх адносінах з маімі бацькамі, бацькамі мужа, іншымі сваякамі і сябрамі, якія цяпер уносяць у маё жыццё столькі клопату!



## КАБ ЗНАХОДЗІЦЬ НОВЫХ СЯБРОЎ І ЗАХОЎВАЦЬ СТАРЫХ...

● Я буду памятаць пра ўсе дні нараджэння і іншыя памятныя даты ў жыцці маіх сяброў і не забудуся іх павіншаваць.
● Буду старацца, каб кожны тыдзень у мяне з'яўлялася хоць адно новае знаёмства.
● Буду хадзіць у любыя кампаніі і наогул усюды, куды мяне запрашаюць. Гэта дасць мне вопыт адносін з людзьмі.
● Складу спіс усіх сваіх сяброў, дзе на першых месцах, канечне, будуць самыя дарагія мне людзі,— і буду тэлефанаваць ім ва ўстаноўленыя дні гэтак жа рэгулярна, як паліваю кветкі.
● Я не буду бессаромна ўзвальваць на сяброў свае праблемы.
● Я не буду расказваць ім пра сябе ўсё... Буду расказваць роўна столькі, колькі трэба, каб падтрымаць узаемны інтарэс.
● Залішняя фамільярнасць у выніку нараджае пагарду. Я не буду вельмі часта запрашаць сяброў да сябе дамоў, лепш мы разам сходзім, напрыклад, на канцэрт альбо з'ездзім за горад.
● Я не буду пераконваць сябе, што сябры маіх сяброў і мае сябры. Спачатку падумаю, ці змагу я з імі мець адносіны.
● Я пастараюся прыдумаць новыя спосабы для паказу сваіх сяброўскіх адносін і павагі да сяброў. Я пастараюся часцей рабіць ім прыемныя сюрпрызы.
● Я не буду дзеля сяброў адмаўляцца ад сваёй работы ці міру ў сваёй сям'і. Мець сяброў — задавальненне, а не цяжкі абавязак.



## КАБ БЫЛО БОЛЬШ ГРОШАЙ...

- Кожны раз, калі я буду дамагацца якой-небудзь, няхай самай маленькай, мэты, я буду узнагароджваць сябе за поспех. Я сама для сябе распрацую сістэму прэмій за добрыя справы. Такім чынам, я буду сама стымуляваць выкананне сваіх планаў.
- Адзін дзень на тыдзень будзе для мяне днём зусім без пакупак. Я праяўлю вынаходлівасць, штосьці чымсьці замяню, без чагосьці абыдуся, штосьці адкладу на пасля — але ў гэты дзень не патрачу ні капейкі!
- Безумоўна, жанчыны ў фінансавых пытаннях мала што разумеюць. Але я на гэтую тэму што-небудзь пачытаю, распытаю майго агента ў банку ці якога-небудзь іншага спецыяліста. У рэшце рэшт, запішуся на якія-небудзь курсы...
- ...і тады буду разбірацца ва ўсіх банкаўскіх рахунках сама, не давяраючы гэтага мужу ці бацьку!
- Я пастараюся як мага часцей успамінаць прыказку «старое — золата», а менавіта, паспрабую выкарыстаць што-небудзь са старых і ўжо, здавалася б, непатрэбных рэчаў.
- Паспрабую прыняць удзел у якім-небудзь конкурсе — можа, мне пашчасціць там атрымаць прыз!
- Навучуся рабіць што-небудзь такое, што зможа прыносіць прыбытак — буду, напрыклад, шыць або вязаць на продаж.
- Калі ў доме ёсць пакой, без якога можна абысціся, здам яго на некаторы тэрмін.
- Рахунак у банку адкрыю не на сваё імя, а на імя свайго дзіцяці — тады мне не захочацца лішні раз знімаць з яго грошы.
- Ніколі не буду браць пазыку. А калі ўжо вельмі захочацца пазычыць, я вазьму не грошы, а ідэю, як зарабіць як мага болей грошай.

## КАБ ЖЫЦЬ ЦІКАВЕЙ...



- Кожны месяц буду прачытваць новую кнігу ці часопіс. Я вазьму там новыя ідэі!
- Спецыяльна адвяду ў доме адзін пакой, які будзе аздабляцца толькі рэчамі, зробленымі мною і членамі маёй сям'і.
- Кожны дзень буду прыдумваць і гатаваць якія-небудзь новыя стравы.
- І да свайго адзення я таксама буду падыходзіць творча. Часам жа які-небудзь маленькі штрых можа даць ашаламляльны эфект.
- А калі мы будзем рыхтавацца да якога-небудзь сямейнага свята, я прыдумаю столькі цікавага, што мой дом проста расквітнее ад розных надзвычайных ідэй.
- Я буду наладжваць дома тэматычныя вечары — кожны раз розныя.
- Я паспрабую сур'ёзна заняцца музыкай, ці спевамі, ці маляваннем — чым-небудзь такім, чаму мяне вучылі ў дзяцінстве і да чаго ў мяне ёсць здольнасці.
- Я пастараюся цікавей праводзіць вечары і выхадныя дні. Буду планаваць іх загадзя.
- Кожны месяц я буду адзін дзень з раніцы да вечара ўяўляць сябе на месцы якога-небудзь іншага чалавека. Гэта адкрые мне новыя погляды на жыццё і новыя перспектывы.
- У мяне з'явіцца якое-небудзь новае захапленне — напрыклад, пачну складаць для сябе спіс парад, як стаць шчаслівай. І іншыя жанчыны яго таксама няхай чытаюць...



## КАБ СТАЦЬ БОЛЬШ АРГАНІЗАВАНАЙ...

- Вазьму сабе за правіла наводзіць парадак у доме як бы паміж справай. Напрыклад, праходзячы з аднаго пакоя ў другі, падніму кінутую рэч і пакладу яе на месца.
- Буду складаць спіс спраў, якія патрабуецца зрабіць за дзень. На наступны дзень першым пунктам новага спіса будзе тое, што я не паспела зрабіць учора.
- Буду весці дзённік. Дзённік дапамагае як мага больш узяць з падзей і сустрэч твайго жыцця.
- Раз на тыдзень я абавязкова знайду час, каб разабрацца з паперамі, якія сабраліся за гэты час.
- Усяму свой час і месца. Я не буду абедаць, седзячы перад тэлевізарам, разглядаць пошту за абедзенным сталом, наносіць касметыку на кухні. Тады не давядзецца рабіць лішняй прыборкі.
- Кожны тыдзень я буду наводзіць парадак у сваёй сумачцы, у адзежнай шафе, у пісьмовым стале.
- Буду складаць спіс выдаткаў на наступны месяц, кіруючыся цэнамі гэтага месяца.
- Калі ў краме ці на базары на хаду разважаеш, што яшчэ з прадуктаў табе трэба набыць, абавязкова што-небудзь забудзеш. Складу спіс прадуктаў, якія звычайна купляю, і буду праглядваць яго перад тым, як збяруся папоўніць запасы.
- Я не буду прэтэндаваць на ролю адзінага арганізатара ўсіх дамашніх спраў. Частку арганізацыйных клопатаў пакіну мужу. Старацца ўсё да дробязей уладкоўваць самой, каб толькі было па-мойму, а пасля скардзіцца, што гаспадарка мяне цалкам заняволіла,— гэтак жыць я больш не буду!

**КАЛОНКА З ПРАЦЯГАМ**

# «ГЭТЫЯ ВОЧЫ НАСУПРАЦЬ — КАЛЕЙДАСКОП АГНЕЎ...»

Вочы — люстэрка душы. Прынамсі, так гавораць. І балгарскі штотыднёвік «Пралескі», відаць, згодны з падобным сцвярджэннем. Так ці інакш, ён апублікаваў своеасаблівы «вызначальнік характару» па вачах.

Такім чынам, калі вочы...

**Чорныя.** Сустракаюцца рэдка і належаць даволі нервовым людзям. Уладальнікі такіх вачэй маюць страсны тэмперамент і жаданне... кіраваць.

**Цёмна-карыя.** Часцей за ўсё яны належаць асобе, якая дзейнічае без развагі, пад уздзеяннем пачуццяў і настрою.

**Зялёныя.** Пяшчота (асабліва жаноцкая), адданасць, надзейнасць.

**Шэрыя.** Самыя цікаўныя і дапытлівыя з усіх. Калі трэба, яны могуць зачараваць, заваражыць.

**Светла-карыя.** Развага і яшчэ раз развага. Пра пачуцці думае пазней, галоўнае ўсё пралічыць. Уладальнікі такіх вачэй — вельмі моцныя натуры.

**Сінія.** Пры знешняй наіўнасці схільныя да падману. Летуценнасць у іх паказная. Яны клічуць і прыцягваюць, іх уладальнікі ведаюць гэта і нярэдка выкарыстоўваюць у сваіх інтарэсах.

У вачэй, акрамя колеру, ёсць яшчэ і форма. Ад яе таксама шмат залежыць.

**Міндалепадобныя:**

а) «Якія глядзяць» на мочкі вушэй. Часцей за ўсё — чалавек, для якога настрой — вялікая праца. Ён схільны да меланхоліі.

**б) Круглыя.**

У прынцыпе чалавек дабрадушны. Ён можа ўскіпець, але хутка супакойваецца.



# ЯК КОШКІ ПРАДКАЗВАЮЦЬ ПАДЗЕІ Ў ДОМЕ

«Кошказнаўцы» сцвярджаюць, што кошкі і каты здатныя прадказаць вяртанне самых блізкіх для іх членаў сям'і: напярэдадні іх прыходу кісы пачынаюць мяўкаць, забаўляцца з незвычайным азартам. Адна дама прыгадвала, што яна заўсёды пачынала рыхтавацца да маючага адбыцца візіту гасцей. Як толькі яе кошка ні з таго ні з сяго пачынала бегаць на кухню і змываць сваю мордачку.

У Вашынгтоне вядомая жанчына-адвакат апавядала пра тое, што яе кот па мянушцы Генерал Джэксан заўсёды прадказваў, якія навіны — благія ці прыемныя — нясе тэлефонны званок. Калі званіў тэлефон, Джэксан альбо клаў свой нос на тэлефонную трубку (гэта азначала прыемную навіну), альбо задзіраў хвост трубою і кідаўся наўцёкі з пакоя (г. зн. чакай непрыемнасці). Са слоў гаспадыні Джэксан ніколі не памыляўся ў сваіх «кашачых прагнозах».

У адной сям'і на поўначы Англіі і сёння жыве кот Берні. Самае любімае месца яго адпачынку... скрынка тэлевізара. Звычайна ён ускакваў на сваю ляжанку, як толькі сям'я збіралася ў зале глядзець тэлесерыял з працягам. Берні меў звычку мірна драмаць да тае пары, пакуль тэлевізар зусім не выключалі. У адзін з вечароў Берні нечакана ўсхапіўся, скокнуў з тэлевізара на падлогу, пастаўў крыху, пазіраючы на мітусню на экране, і — рашуча накіраваўся да дзвярэй. Як толькі Берні пакінуў залу, грымнуў выбух: узарваўся кінескоп, і залу засыпалі асколкі шкла...




# КРЫЖАВАНКА



**Па гарызанталі:** 5. Народны мастак СССР, аўтар цыкла «Гераічная Беларусь». 6. Выхад падземнай вады на паверхню зямлі. 8. Назва некаторых найбуйнейшых мужчынскіх праваслаўных манастыроў. 9. Душэўнае замяшанне, трывога, хваляванне. 12. Паштовы або гербавы знак. 13. Захапленне, залішняя гарачнасць. 14. Твор іканапісу. 17. Бельгійскі мастак, аўтар трыпціха «Эмігранты». 18. Відовішча. 19. Лесвіца на караблі. 21. Каравульны. 23. Месца ўпадзення ракі ў мора, возера. 24. Хрысціянскі падзвіжнік. 26. Правы прыток Заходняй Дзвіны. 27. Драпежная жывёліна сям'і кашэчых. 29. Жыллё горцаў Каўказа. 31. Хлорысты амоній. 32. Матэматычнае адлюстраванне сукупных значэнняў на лінейнай шкале.

**Па вертыкалі:** 1. Сімвал паэзіі. 2. Выражэнне незадавальнення. 3. Першаснасць, перавага. 4. Артыст і рэжысёр Ленінградскага тэатра музкамедыі ў 1929—1975 гг. 5. З'едлівая насмешка. 7. Перапынак паміж аддзяленнямі канцэрта. 8. Абмежаванне распаўсюджвання пажару. 10. Лячэбная ўстанова. 11. Вучэнне аб сродках і метадах паляпшэння выгляду чалавека. 15. Адна з асноўных адзінак мовы. 16. Запаленне косці. 20. Член экіпажа судна. 22. Опера А. С. Даргамыжскага. 24. Павольны музычны тэмп. 25. Промысловая рыба. 28. Адзінка вагі. 30. Англійскі мастак, аўтар серыяла «Віндзорскія красуні».

Склаў
Мікалай ТАРАСІК.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 2.**








## НА ЗЛОМ ГАЛАВЫ



**ШАХ ЯГО ВЯЛІКАСЦІ**

**1 695 188 229 100 544 $\times 10^{12}$**



Пазіцыя, якую вы бачыце на дыяграме, сапраўды незвычайная, нават загадкавая. «Яно так, скажа чытач, але ж падобная пазіцыя наўрад ці магла здарыцца ў практычнай гульні...» Магла — вось у чым фокус! Як сведчаць праграмісты-матэматыкі, пасля першых дзесяці хадоў шахматнай партыі колькасць варыянтаў на працягу гульні дасягае вось якіх лічбаў — 1 695 188 229 100 544$\times 10^{12}$...

...А цяпер — да справы, дакладней — да пазіцыі на дыяграме. Паразважайце і знайдзіце, як белыя матуюць чорнага караля ў два хады.

## З АГНЮ ДЫ Ў ПОЛЫМЯ

У трэніровачнай партыі кандыдат у майстры Мечыслаў Сарнацкі, здаецца, добра-такі «прыціснуў» майстра спорту Івана Язубчыка. І сапраўды: у белых моцны цэнтр, пагроза паставіць «кала» на поле c5, да таго ж — часова паралізаваны чорныя шашкі на правым флангу.



Але нездарма гавораць, што майстар — ёсць майстар.

Іван Язубчык раптоўна ахвяраваў шашку 1. ... g5—f4!! 2. g3:e5 e7—d6. Белыя ўбачылі, што на ход 3. e5—f6? з боку чорных прадугледжаны камбінацыйны ўдар 3. ... d8—e7 4. f6:b6 a7:g1. Пасля такога «гасцінца» М. Сарнацкі знайшоў, як яму падалося, «выйсце». Ён адказаў: 2. a3—b4 d6:f4 3. d2—e3 (сумная неабходнасць) 3. ... f4:d2 4. c1:e3... але белыя адразу трапілі з агню ды ў полымя. Чорныя адшукалі больш складаную камбінацыю 4. ... h4—g3! 5. f2:h4 h6—g5 6. h4:f6 d8—e7 7. f6:b6 a7:f4, і белыя здаліся.

## КАРАЦЕЛЬКІ

- Страчаныя ілюзіі — гэта ўжо набытак.
- Ці можна чакаць ад чалавека праўды, калі яму не да жартаў?
- Звычайна не «пераварваюць» тых, каго не ўдаецца «раскусіць».
- Калі за сваім выглядам не сачыць, ён становіцца менш падманлівым.
- Шырокія натуры часта выходзяць за ўсялякія рамкі.
- У яго толькі адзін недахоп — ён заўсёды хлусіць.

▫ ▫ ▫

— Чаму ты, хлопча, не працуеш!
— Дык я ж яшчэ зусім малы.
— А чаму на табе такія кароткія порткі!
— Дык яны ж бацькавы...

▫ ▫ ▫

— Як цябе завуць!
— А як хто хоча. Жонка — распуснікам, бацька — гультаём, суддзя — злодзеем, адзін толькі адвакат хваліць...

Даслаў А. МІХАСЁНАК.

## ПОПЕЛ І МЭБЛЯ

Попел ад цыгарэт вельмі карысны, калі яго змяшаць з вотруб'ем і соллю. Такой сумессю трэба нацерці медны посуд — таз, самавар, кубак... і пакінуць іх на некалькі гадзін, а пасля чыста вымыць цёплай вадой, то гэты посуд будзе ззяць, быццам новы. Такой жа сумессю можна старанна начысціць і вырабы з латуні і бронзы.

Яшчэ адна парада, дзе можна выкарыстаць попел ад цыгарэт. Калі на паліраваную паверхню мэблі трапляе вада, то часта застаюцца плямы, якія не вельмі проста ліквідаваць. Пасыпце іх попелам ад цыгарэт, а потым натрыце коркам, абпаленым на адкрытым полымі. І плямы знікнуць.

**КАЛОНКА З ПРАЦЯГАМ**



## БУЛЬБУ ВАРЫМ, БУЛЬБУ СМАЖЫМ...

Перш чым пазнаёміць вас з нашым чарговым «бульбяным меню», прапануем некалькі карысных парад, якія будуць дарэчы любой гаспадыні:

— бульба будзе асабліва смачнай, калі ў ваду, у якой яна варыцца, пакласці крыху часнаку;

— бульба ў духоўцы не трэскаецца, калі накалоць яе відэльцам;

— надраная бульба не пацямнее, калі ў яе ўліць крыху гарачага малака альбо нацерці на тарцы цыбуліну.

**САЛАТА БУЛЬБЯНАЯ З БУРАКАМІ.** Звараную бульбу абчысціць, ахаладзіць і парэзаць скрылікамі. Буракі памыць, абцерці і паставіць у гарачую духоўку. Прыгатаваныя такім чынам буракі абчысціць і парэзаць тонкімі скрылікамі. Усё перамяшаць, дадаць соль, перац, паліць смятанай, пасыпаць дробна насечаным зяленівам і цёртым жаўтком. **(5 бульбін, 1 бурак, 4 ст. лыжкі смятаны, зяленіва, 1 яйка, перац, соль).**

**САЛАТА З ПЯЧОНКАМІ ХАТНЯЙ ПТУШКІ.** Адвараную бульбу, смажаныя пячонкі птушкі дробна парэзаць, перамяшаць з дробна насечанай рэпчатай цыбуляй, дадаць соль і затлусціць алеем. **(4 бульбіны, 2 шт. пячонкі, 1 цыбуліна, 4 ст. лыжкі алею, соль).**

**САЛАТА З ЯЙКАМІ.** Бульбу і яйкі адварыць, абчысціць, дробна насячы і перамяшаць з дробна насечанай рэпчатай цыбуляй, дадаць соль, перац і заправіць алеем, змешаным з воцатам. **(4 бульбіны, 2 яйкі, 1 цыбуліна, 2 ст. лыжкі алею, 1 ст. лыжка 3 %-га воцату, перац, соль).**

**САЛАТА ЗІМНЯЯ ДЫЕТЫЧНАЯ.** Адвараную бульбу парэзаць скрылікамі сярэдняй таўшчыні, пасаліць, дадаць лімонны сок, цукар, алей і перамяшаць. **(5 бульбін, 2 ст. лыжкі алею, 1 ч. лыжка цукру, 1 ст. лыжка лімоннага соку, соль).**



13 ТРЫНАЦЦАЦЬ

ленасьцю хавалася ўражлівая, сарамяжлівая душа. І даводзілася прымераць маску рашучай абыякавасьці, а часам нават не грэбаваць і словамі з мужчынскага лексікону. Абы схаваць сваю душу ад ліпкіх позіркаў, абы захаваць свой сьвет у чысьціні і ранішняй непасрэднасьці.

Паэтку малявалі лепшыя мастакі, такія як Арлен Кашкурэвіч і Барыс Забораў, яны ж афармлялі яе зборнікі вершаў. Нават адзін скульптар да таго, як стаць зяцем сакратара ЦК і пачаць ляпіць аднолькавыя гаршчэчкі касманаўтаў, тужыўся зрабіць партрэт Веры Вярбы. Калі рабілі мы з Міхасём Лісоўскім кнігу шаржаў, Міхась зрабіў на паэтку закаханы шарж, а я ў тэксце падкрэсліў па-свойму прывабнасьць паэткі: «Наўошта смутак і журба, характарам я мяккая. Была б вясна, была б вярба, а коцікі замяўкаюць...» І цяпер з усьмешкай успамінаем даўні выпадак. Я, выпускнік універсітэта, ужо са зборнікам і нібы паэт, іду па традыцыі 60-х гадоў вечарам на добрым падпітку. Уперадзе бачу, ідзе студэнтка нашага універсітэта і прызнаная ўжо шырока паэтка. Хачу дагнаць, хачу сказаць, што падабаюцца мне не толькі вершы. А яна ўцякае. Вера тлумачыць цяпер, што збаялася нейкага п'янага ахламона, чарговага прыхільніка. А недзе ў 70-я гады ў старым будынку Саюза пісьменнікаў (яго зьнесьлі, бо замінаў гмаху ЦК разрастацца азадкам) ішла чарговая засядальня з ідэалагічнымі ўстаноўкамі з ЦК. Я пачаў насіць бараду й вусы. Вера й кажа (мы былі не ў зале, а ў калідоры), што ні разу не цалавалася з вусатым. Толькі мы пачалі дэманстрацыю, як расчыніліся дзверы і ўся піспубліка, натхнёная прадстаўнікамі мудрай камуністычнай, вывалілася ў калідор. Не ведаю чаму, а мне ўспомніўся наш дзіцячы выбрык.

# ЯК САМА ПАЭЗІЯ

Традыцыі Цёткі ў нашае паэзіі добра і годна былі падхоплены паэткамі пазьнейшага часу. Не трэба пералічваць імёны. Варта толькі згадаць постаць сьвятое пакутніцы за беларушчыну Ларысы Геніюш. Але, калі паэзію лічыць таксама за гаспадарку — хай меней зямную, а болей зааблочную,— дык у гаспадарцы, як вядома, усё прыдасца.

Нашае паэзіі, задужа заідэалагізаванай і празьмерна ідэйнай у бок бальшавізму, неставала паэткі, так бы мовіць, багемна-салоннага плана. У адпаведна нашых маштабах і ўмовах. Нават сама мова дае на замежнае слова салон беларускую рыфму ўслон.

Дык вось якраз Вера Вярба ішла ў паэзію 60-х гадоў і вершамі накшталт «Ручнікі», што адразу ж з лёгкае музычнае рукі палачаніна Пятрэнкі сталі народнаю песьняю, якую падхапілі ўсе застольлі, усе праводзіны ў салдаты, нават камсамольска-кадэбісцкія жарэбчыкі, і вершамі, дзе з выклікам савецкае маралі паўшапталася: «калі будзем з іншаю ром «Бакардзі» піць, мая скрыпка не зазьвініць». Наўмысна цытую па памяці, хай дарue памылкі спадарыня Вера, бо такім чынам друкаваныя, аўтарскія радкі ў нейкае ступені фальклaрызуюцца, саграваюцца ўспамінам.

У беларускую літаратуру ішла асоба новага і разам з тым жаданa традыцыйнага характару. Ішла прыгожая, адухоўленая дзяўчына, якую кахалі, якую марылі кахаць і якая кахала. За вонкавай разьнявольнасьцю хавалася...

А каб не склалася ўражаньне, што Вера Вярба толькі тым і займалася, што кружыла ўсім галовы, бо мела на гэта ўсё — інтэлегентную прыгажосць, і часам бітніцкія выхадкі, сьпяшаюся заўважыць: працавала шмат, працавала плённа, працавала не на час... Працавала ў рэдакцыі «Літаратуры і мастацтва», у «Беларусі». Умела прыцягнуць аўтараў, ласкава прымусіць іх працаваць на рэдакцыю. І падкрэсьлена пазьбягала палітыкі, саветызацыі.

Падкрэсьлена, але з верай у душы, на магіле бабулі на роднай Віцебшчыне ставіла вялікі каменны крыж.

Падкрэсьлена падтрымлівала Жэню Янішчыц, калі на крыштальна чыстую паэтку абрушылася бяда. Падкрэсьлена езьдзіла з Жэняй да знахаркі на Віцебшчыну.

Калі Вера Вярба стала маці, дык, калі можна так сказаць, класічна шалёнай. Гэта не з рэалій паэзіі, гэта з душы Веры Вярбы як маці вырваўся паганскі голас мацярынства: «Ваўчыцай пераскочу поле... за твой адзіны слабенькі крык».

Апошнім часам рэдка калі можна ўбачыць Веру Вярбу. Заходзіла ў выдавецтва, дзе мае выйсьці выбраная паэзія «Апошні верасень».

Вера Вярба самотніца, як сама паэзія.

**Рыгор БАРАДУЛІН**




# БЕЛАРУСЬ

**ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ІЛЮСТРАВАНЫ ШТОМЕСЯЧНІК**

ВЫДАЕЦЦА СА СТУДЗЕНЯ 1930 ГОДА

**№ 3 (651) САКАВІК 1993**





ПЕРШАЯ СТАРОНКА ВОКЛАДКІ: **фотакампазіцыя Віктара ЖЫЛІНА.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ І ПРАЦОЎНЫ КАЛЕКТЫЎ РЭДАКЦЫІ.

**Выдавецтва «Полымя» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Мінск.**

**Журнал «Беларусь» на белорусском языке.**

**Здадзена ў набор 15.01.93. Падпісана да друку 19.02.93. Фармат 70×108 1/8. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 7. Ул.-выд. арк. 11. Ум. фарбаадб. 12,6. Т. 8600 экз. Зак. 20.**

**Кошт у розніцу — 15 рублёў.**

**Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны для даведак: 33-02-29; 33-20-54. Рэдакцыя разглядае рукапісы памерам не больш як 10 машынапісных старонак. Допісы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі, атрыманыя рэдакцыяй, не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.**

**220041, Мінск, праспект Францыска Скарыны, 79. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».**

*РАЗАМ З «БЕЛАРУССЮ» ВАШУ РЭКЛАМУ ПРАЧЫТАЮЦЬ НЕ ТОЛЬКІ Ў РЭСПУБЛІЦЫ, АЛЕ І ЗА МЯЖОЙ — У АНГЛІІ, КАНАДЗЕ, ЗША, ПОЛЬШЧЫ, ШВЕЦЫІ. ЗМЯШЧАЙЦЕ РЭКЛАМУ — І ПРА ВАШУ ПРАДУКЦЫЮ ДАВЕДАЮЦЦА ЗАЦІКАЎЛЕНЫЯ АСОБЫ. «БЕЛАРУСЬ» — ДА ВАШЫХ ПАСЛУГ!*




**НЕ ПЛАНУЙЦЕ СВАЁ ЖЫЦЦЁ БЕЗ НАС**

ПІШЫЦЕ:
220005, г. Мінск,
вул. Захарава, 19.
ТЭЛЕФАНУЙЦЕ:
33-20-54.

# НЁМАНСКАЯ ВЯСЁЛКА,

## АБО ПРА ТОЕ, ЯК ГУТНІКІ З БЯРОЗАЎКІ СТВАРАЮЦЬ ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ КАЗАЧНЫЯ ЦУДЫ





Стагоддзе і дзесяць гадоў доўжыцца працоўны стаж шклозавода «Нёман» у пасёлку Бярозаўка Лідскага раёна Гродзенскай вобласці. Сёння гэта адно з самых буйных у Еўропе прадпрыемстваў, дзе вырабляюцца шкляныя скульптуры, вітражнае шкло, хрусталь, посуд з хрусталю і шмат якія іншыя дзівосныя рэчы ўсіх колераў вясёлкі. Цуды са шкла перад вамі. Дзівіцеся!

Здымкі Віктара ДРАЧОВА.



ISSN 0320-7544, «Беларусь», 1993, № 3, 1—36. Індэкс 74820.
Кошт у розніцу — 15 рублёў.